Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 28 (4572) 16 ліпеня 2010 г.

## У нумары:

**А мова родная найперш**

Магілёў аб'явіў наступныя тры гады Гадамі беларускай мовы.

Стар. 5

**Аповесць Маргарыты Прохар «Восень у Вільнюсе»**

Над вартасцямі і недахопамі твора разважаюць літаратурныя крытыкі.

Стар. 6-7

**Маляваны райскі сад**

Ці ведаем мы пра цуды народнага жывапісу, які ў Еўропе называюць наіўным альбо інсітным?

Стар. 11

**Міф – Плакат – Нацыя**

Сёння ў «Літаратурным экспрэсе» падарожнічае пісьменніца Людміла Рублеўская.

Стар. 12

**Чатыры партрэты Яна Баршчэўскага**

У іх усё творчае жыццё пісьменніка, які так любіў Беларусь.

Стар. 16



Паэты бываюць розныя…
Ёсць маленькія паэты ад Бога.
Здараюцца і буйныя
"сярэднія" паэты.
І паэты-легенды, якім
не ўдалося зрэалізавацца.
Пэўнае месца займаюць
герметычныя "паэты
для паэтаў". Але асобна,
як узвышшы, вылучаюцца
нацыянальныя геніі:
песняры, якім наканавана
якасна перайначыць
жыццё свайго народа,
упісаць новую старонку
ў агульначалавечую
культуру. Менавіта геніем
нацыянальнага маштабу
з'явіўся да нас Уладзімір
Мікалаевіч Дубоўка,
з дня нараджэння якога
сёлета споўніцца 110 гадоў.
Класік беларускай паэзіі,
ён па-ранейшаму застаецца
не «прачытаным»
як след і шмат у чым
загадкавым творцам.



# Летуценнем імчуся над краем

Нарадзіўся Уладзімір Дубоўка 15 ліпеня 1900 года ў вёсцы Агароднікі на Пастаўшчыне. Скончыў Нова-Віленскую семінарыю (1918), працаваў настаўнікам на Тульшчыне, браў удзел у паходах Чырвонай Арміі. Яшчэ ў 1915 годзе яго бацькі аселі ў Маскве, якая і сталася для паэта асноўным месцам жыхарства. Там ён пачынаў вучыцца ў Маскоўскім універсітэце, там працаваў пры Наркамаце асветы РСФСР, там скончыў Вышэйшы літаратурны інстытут імя Валерыя Брусава, узначальваў Маскоўскую філію "Маладняка". Потым Дубоўка разам з Адамам Бабарэкам, Язэпам Пушчам, Кузьмой Чорным і іншымі заснаваў легендарнае "Узвышша". Выдаў зборнікі вершаў: "Строма" (Вільня, 1923), "Там, дзе кіпарысы" (Мінск, 1925), "Трысцё" (Мінск, 1925), "Credo" (Мінск, 1926), "Наля" (Масква, 1927).

На жаль, яркую Дубоўкаву чыннасць перапынілі сталінскія рэпрэсіі 1930-х. І геній на доўгія гады далучыўся да паэтаў-фантомаў, паэтаў-легендаў, такіх, як Паўлюк Багрым, Альгерд Абуховіч. Па вяртанні з лагера Уладзімір Дубоўка па-ранейшаму жыў у Маскве. Пісаў новыя вершы, казкі, аповесці для дзяцей. Пераклаў санеты Шэкспіра, паэмы Байрана. Выдаў "Выбраныя творы" ў двух тамах, зборнік "Пялёсткі" (1973). Шмат якія свае раннія вершы паэт перарабіў, і не ў лепшы бок… Відаць, вытраслі чэрці — як у ягонага героя — душу са скрыпкі. Але над Дубоўкам заўсёды лунаў дух таямніцы. Паэта не пакідалі легенды. Так і развітаўся ён са светам у 1976 годзе, загадаўшы нам загадку. Як і ўлюбёны ягоны Багдановіч…

Неістотна, наколькі легенды праўдзівыя. Важна тое, як яны перадаюць сам феномен. Пра Уладзіміра Дубоўку мне давялося чуць некалькі гісторый. Кажуць, што наш паэт нумар адзін, Янка Купала, менавіта яму, Дубоўку, адступіў сваё пачэснае месца на Парнасе, выказаўшы гэта праз аналогію:

— Я толькі Дзяржавін, а ты — Пушкін.

Другая легенда апавядае, што арыштаванаму Дубоўку прапанавалі альтэрнатыву: ці быць асуджаным і рэпрэсіраваным, ці перайсці на рускую мову. Паэт пайшоў у лагер за краты, але застаўся з мовай беларускай.

І, нарэшце, трэцяя легенда малюе нам ужо надламанага творцу. Вярнуўшыся з лагера, з высылкі, прайшоўшы ўсе кругі пекла, сам як "нацдэм", паэт упарта паўтараў:

— А ўсё-ткі Цішка Гартны быў нацдэмам…

Што ён хацеў сказаць гэтым? Мы ніколі не зразумеем Уладзіміра Дубоўкі, пакуль не адкажам на пытанне: ці быў ён савецкім паэтам? І мусім адказаць шчыра, без самападману: так, быў! І савецкім. І беларускім. Бо тады, калі ён пачынаў, яшчэ не існавала ўсяго заганнага, што прымушае нас саромецца гэтага слова, выпісваць для творцы індульгенцыі. Трэба ўявіць сабе адчуванні людзей, якія паверылі ў рэвалюцыю: час пайшоў іншым парадкам, цемра засталася ззаду, наперадзе толькі святло! Сама лірыка, якая ў аснове сваёй жанр элегічны — ода адхіленне ад нормы, анамалія! — раптам паспрабавала ўзяць за аснову оду:

Мае сябры!
Вітайце гэту рату!
Мінулае зайздросціць нам,
сучасным!
Узвышшы высім
з пралетарыятам,
і наша мэта
ў даляглядзе ясным.

Але жыццё супярэчыла спадзяванням. Элегія брала сваё:

Апавіўся тугою абшар,
а верасень сэрца нявечыць.
Надзвычайна баліць душа,
быццам ціcне
цяжар адвечны.

Перад ім адкрываецца бездань, наканаваная трагічнасць чалавечага існавання. І паэт, калі ён паэт, не можа заставацца глухім да гэтага покліча:

І пурпуровых
ветразей узвівы —
то дух тужлівы
ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба…

Паэма "Кругі" — гэта жывая дыялектыка, спрэчка паміж абвешчанай бадзёрасцю і існай тугою, якая разрывае паэтава сэрца. Паэма "І пурпуровых ветразей узвівы…" — спроба рацыянальна развязаць гэтую дыялектыку.

На жаль, таталітарная дзяржава вымагае ад творцы толькі ясных і плыткіх лозунгаў. Адсюль і канфлікт, адсюль і агрэсіўнасць крытыкі, якая не можа спаць спакойна, пакуль піша Дубоўка:

Калышуцца скаргі
і моўкнуць,
разносяцца разам пялёсткі.
Не хоча Ўладзімір Дубоўка
Спяваць пад
зазубраны лёскат.

Уладзімір Дубоўка выпрацаваў свой адметны паэтычны стыль, стварыў свой вобразны лад — яшчэ не разгаданы, не апісаны. Ягоныя, ужо названыя, паэмы і некаторыя вершы сёння, у кантэксце нелінейных тэкстаў Міларада Павіча, эсэізаваных раманаў Мілана Кундэры, чытаюцца асабліва свежа.

Дубоўкаў верш не зблытаеш ні з чыім, як і верш Багдановічаў. Але калі Багдановіч будаваў тэксты на адзінкавых і рэльефных метафарах-канцэптах, то Дубоўка грунтуецца на скразных інтэртэкставых метафарах-матывах. Іх некалькі, і іх ведаюць усе: пялёсткі (А ў пялёстках — без меры, без ліку — // з сокам шчасце суздром разлілося; І пялёсткі наземіць мак); дзіды (Пялёсткамі тваімі стану // на дзіды сэрца накалю; На дзіды, на вострыя шыпшыннік // ці сэрца, ці дух мой узбілі; кленчу на дзіды); кляновыя лісты (Верасень сэрца калечыць // пальцамі жоўтых кляновых лістоў; Лістом кляновым на жвір пакачуся; Пальцы жоўтых кляновых лістоў // мкнуцца восень схапіць за шыю); летуценні (летуценні маёвага крылле; Летуценні не змерклі ў галлі) і г. д. Гэтыя метафары-матывы праходзяць праз розныя вершы ў розных кантэкстах, з рознымі адценнямі.

Здаецца, ніхто, як Дубоўка, так не дбаў пра колеравую гаму вершаў: Кармазынам гарыць небакрай; Пурпуровай расою убралі каліну; калі сіня-ліловы туман заквактаў; Цёмна-сінія морскія хвалі; Пунсавеюць хмары над радзімым полем; Зацвітай зара ў ліловых сценях — // пунсавеюць і яны паволі; Дарэчы, менавіта "кармазын" стаў яшчэ адным пазнавальным знакам Дубоўкавага радка.

У 1920-я, калі знікла стрыжнявая ідэя Бога, калі лірычны тэкст трэба было ўзгадніць з новай грамадзянскасцю (ідэямі, лозунгамі і пад тое не страціць лірычнасці, вобразнасці), узнікае новы тып арганізацыі паэтычных радкоў, які можна назваць "слаёны пірог", дзе карціны прыроды і асабістыя пачуцці чаргуюцца з лозунгамі і філасофскімі развагамі. Такія тэксты трапляюцца ў рускіх паэтаў, у позняга Сяргея Ясеніна, у ранняга Паўла Васільева, а найболей у нашага Уладзіміра Дубоўкі:

Дзесь далёка галосіць сава,
небакрай апавіўся жалем.
Людзі любяць
душу прасаваць,
калі гэта душа чужая.

Сёння далёка не кожны ведае, што канструкцыйная думка геніяльнага творцы не замыкалася на вершах. Асабліва плённа паэт займаўся моўнай інжынерыяй: прапанаваў асобныя літары замест спалучэнняў дз і дж — яны нават ужываліся ў часопісе "Узвышша". Шмат якія звыклыя словы, такія як адлюстраванне, мэтазгодны, летуценне стварыў ці ўвёў ва ўжытак менавіта Дубоўка. У ягоных вершах асабліва ўражваюць россыпы аператыўных дзеясловаў на -іць, большасць іх аўтарскія наватворы: бадзёрыць, выдзюбіцца, высіць, дынаміць, іглініць, імклівіць, ірдзеніць, істужыць, крынічыць, крышталіць, наземіць, праменіць, прыгоршчыць, укведіць, цвятлівіць, ця плівіць, цьміцца, шчасціцца. Відаць, у кожнай клетачцы жыцця знаходзіў сябе няўрымслівы творчы дух.

Сёння Уладзімір Дубоўка не рэпрэсіраваны паўзабыты паэт, а класік нацыянальнай літаратуры. Але… занядбанне ягонай спадчыны яшчэ не спынілася. Далёка не ўсе Дубоўкавы вялікія ідэі мы вярнулі да жыцця. Нават годнага збору ягоных твораў так і не з'явілася...

Юрась ПАЦЮПА

## Пункцірам

• Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" галоўнага інжынера камунальнага выдавецка-паліграфічнага унітарнага прадпрыемства "Сож" Сяргея Дзюбанава.

• У Доме-музеі I з'езда РСДРП да 22 жніўня дзейнічае выстава рэдкіх матылёў і экзатычных насякомых з трапічных лясоў Паўднёва-Усходняй Азіі, Паўднёвай і Цэнтральнай Амерык, Афрыкі, Мадагаскара, Аўстраліі і Акеаніі.

• Свята сярэднявечнай культуры "Рыцарскі фэст-2010" адбудзецца ў Мсціслаўлі 24 — 25 ліпеня. Распачнецца ён набажэнствамі ў гонар воінаў-мсціслаўцаў у кафедральным саборы Аляксандра Неўскага і Кармеліцкім касцёле. У праграме свята — навуковая канферэнцыя па гісторыі горада, выстава дзіцячых работ, экскурсіі, тэатралізаванае шэсце, а таксама канцэрт гуртоў "Стары Ольса", "Яварына", "Гістарыён".

• Гэтымі днямі (з 12 па 18 ліпеня) Першы канал прадстаўляе прэм'еру пяцісерыйнага дакументальнага цыкла Grunwald. Аўтар сцэнарыя фільма — аглядальнік Агенцтва тэленавін Белтэлерадыёкампаніі Максім Кароткін, рэжысёр — Анастасія Кужоўнік.

• Прыгажосць Прыдняпроўя, прыродную разнастайнасць беларускага Палесся адлюстроўвае выстава Леаніда Вялічкі "Родныя краявіды", якая да канца жніўня праходзіць у Музеі гісторыі горада Гомеля.

• Амерыканская кампанія Motion Picture Corporation of America (MPCA) прапанавала кінастудыі "Беларусьфільм" зняць баявік з вядомым амерыканскім акцёрам Жан-Клодам Ван Дамам. Мяркуецца, што здымкі распачнуцца ў бліжэйшы час, пасля ўдакладнення вытворчых пытанняў.

• Комплекс "Сядзібны дом" адкрыецца падчас святкавання Дня беларускага пісьменства 5 верасня ў горадзе Хойнікі Гомельскай вобласці. Гэта архітэктурны помнік XIX — пачатку XX стагоддзя ў стылі неакласіцызму, у ім размесціцца экспазіцыя Хойніцкага краязнаўчага музея.

• Штогадовае ўшанаванне памяці паўстанцаў 1863 — 1864 гг. адбудзецца сёлета 25 ліпеня ва ўрочышчы Крыжы, што ля вёскі Малое Ольжыва (Лідскі раён Гродзенскай вобласці). Да мерапрыемства можа далучыцца любы жадаючы.

• У віленскім выдавецтве выйшаў фотаальбом "Вільня: партрэт горада" ("Vilnus: miesto portretas"). Тут сабраны гарадскія здымкі знакамітых фатографаў (сярод іх і беларускі фотамайстр Дзяніс Раманюк), зробленыя ў розныя часы, а таксама згадкі пра Вільню многіх вядомых людзей — Томаса Венцлавы, Чэслава Мілаша, Адама Кіркора, Паўла Кукальніка, Ганны Дастаеўскай, Рамэна Гары, Юзэфа Пілсудскага ды іншых.

• У пінскім Музеі беларускага Палесся адчынілася выстава "Майстар і вучань. Школа акварэлі Сяргея Андрыякі". Тут прадстаўленыя работы народнага мастака Расіі, мастацкага кіраўніка Маскоўскай дзяржаўнай спецыялізаванай школы акварэлі Сяргея Андрыякі, а таксама карціны выкладчыкаў і навучэнцаў школы.

• Былі падведзеныя вынікі Першага фестывалю беларускамоўнай рэкламы "Аднак". На конкурс было даслана 185 прац, сярод якіх рэклама сусветна вядомых брэндаў Samsung, Renault, Ceresit, Adidas, Bosch, Tefal. Пераможцамі сталі Улад Савельеў, Міхаіл Тумеля, Артур Вакараў, Анатоль Лазар, Васіль Фешчанка ды іншыя.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

## Фестывалі

# Усе зоркі ліпеня

Урачыстая цырымонія закрыцця XIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" адбылася ўчора ў Летнім амфітэатры.



Суквецце мелодый, рытмаў, фарбаў; сузор'е майстроў мастацтваў; россып творчых талентаў... Агульныя словы? Ды толькі не для тых, хто завітаў на час фестывалю ў гасцінны горад на Дзвіне або спрычыніўся да падзей "Славянскага базару ў Віцебску" праз тэле- і радыётрансляцыі, праз аператыўныя перадачы эфіру і рэпартажы штодзённых газет. Кожнаму неабыякаваму чытачу, гледачу, слухачу нават сама назва традыцыйнага свята нагадае пра чараду ўласных незабыўных уражанняў. І кожны па-свойму расшыфруе і слова "сузор'е", напоўніўшы яго канкрэтнымі імёнамі творчых людзей. Калі паспрабаваць склásці ўмоўны пералік такіх імёнаў, ён атрымаецца стракаты і бясконцы. Але першым будзе імя сапраўды вялікай творчай асобы, Артыста-эпохі, — Уладзіміра Мулявіна. Імя яго разам з Беларускім дзяржаўным ансамблем "Песняры", які стварыў гэты незабыўны музыкант, увекавечана сёлета на "Алеі зорак" сярод імянных васількоў — ганаровых адзнак лаўрэатаў спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі "Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення". Гэтую ўзнагароду Аляксандр Лукашэнка ўручыў падчас урачыстага адкрыцця фестывалю сённяшнім "Песнярам».

Ліпеньскае сузор'е ўпрыгожыла і оперная зорка сусветнай велічыні — народны артыст Расіі Дзмітрый Хварастоўскі. Яго дзённы аншлагавы канцэрт у Летнім амфітэатры праходзіў пад акампанемент Прэзідэнцкага аркестра нашай краіны, якім дырыжыраваў таксама славуты госць — маэстра Канстанцін Арбелян, і маладыя беларускія музыканты маглі адчуць сябе часцінкай гэтай зорнай кампаніі... Пад назвай "Зоркі "Еўрабачання"" адбыўся першы ў гісторыі фестывалю праект, ажыццёўлены на самай вялікай у Беларусі плошчы — віцебскай плошчы Перамогі. Не інакш як зоркамі называлі ўдзельнікаў масавых і сольных праграм, што ладзіліся на сцэне Летняга амфітэатра і ў канцэртнай зале "Віцебск" — артыстаў розных жанраў, прадстаўнікоў дзесяткаў краін...

Яшчэ адно знанае імя — Раймонд Паўлс: творчы вечар латвійскага госця сабраў інтэрнацыянальнае сузор'е папулярных выканаўцаў, але з асаблівай удзячнасцю легендарны кампазітар адзначыў удзел Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з Міхаілам Фінбергам. Дарэчы, для гэтага калектыву і яго маэстра фестывальныя дні былі асабліва гарачыя. Яшчэ да ад'езду ў Віцебск была зроблена вялікая праца па падрыхтоўцы маладых выканаўцаў эстраднай песні да конкурсу. 19 спаборнікаў з 19 краін — гэта не толькі новыя 19 песенных партытур, а і 19 музычна-сцэнічных вобразаў, характараў... Большасць удзельнікаў упершыню спявала з вялікім аркестрам, так што нашаму маэстра давялося быць і псіхолагам, і педагогам... Пра тое, як завяршылася галоўная інтрыга фестывалю — конкурс "Віцебск-2010", мы паведамім у наступным нумары "ЛіМа".

Падчас адкрыцця сёлетняга фестывалю Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на тую рысу нацыянальнага характару беларусаў, якая абумовіла адну з важных асаблівасцей фестывалю — усрымане унікальнай і самабытнай культуры любога народа як найвялікшай каштоўнасці, імкненне зрабіць усё дзеля таго, каб, спасцігаючы мастацтва адзін аднаго, народы прыйшлі да міру і ўзаемаразумення. "Гэтым наш фестываль уносіць свой неацэнны ўклад у вырашэнне адной з самых вострых праблем, якая стаіць перад кожным народам планеты: як не страціць свой твар ва ўмовах глабалізацыі, зберагчы унікальныя скарбы думкі і духу, набытыя продкамі. Нездарма гавораць, што мы цікавыя менавіта сваёй непадобнасцю да іншых. Дык няхай жа і фестываль адлюстроўвае дух народа, будзе такім жа добрым, адкрытым і шчодрым!"

Няма сумневу, што і наступны, XX "Славянскі базар у Віцебску", захавае свае лепшыя традыцыі.

Лана ІВАНОВА

## Імпрэзы

# Купалава голле, Купалава лісце

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася юбілейная імпрэза, прысвечаная 90-годдзю пляменніцы песняра, нястомнай захавальніцы яго спадчыны Ядвігі Раманоўскай. 42 гады яна працавала ў музеі на розных пасадах, па крупіцах папаўняла яго фонды, працягваючы справу жонкі паэта Уладзіславы Францаўны. Павіншаваць Ядвігу Юльянаўну прыйшлі многія даследчыкі, музейныя супрацоўнікі і літаратары: Міхась Мушынскі, Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Содаль, Марыя Чабатарэвіч, Ганна Запартыка, Васіль Зуёнак, Раіса Баравікова, Міхась Шавыркін, Хрысціна Лялько ды іншыя. Дырэктар музея Алена Мацевасян зачытала віншавальны ліст ад міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі.



Але цікавей за ўсё, вядома ж, было пачуць словы самой Ядвігі Юльянаўны, простыя ўспаміны пра купалаў дом, пра лад жыцця гэтай незвычайнай сям'і: "Калі ад майго сённяшняга ўзросту адкінуць нуль, то атрымаецца 9 гадоў – гэта той свядомы час, які я пражыла ў сям'і Купалы. Між іншым, гэтая сядзіба была куплена ў 1926 годзе дзядзькам Янкам і яго сястрой Леакадзіяй. У вёсцы Карпілаўка, дзе мы жылі, была толькі чатырохкласная школа, і мая мама казала брату Янку, што трэба перабірацца ў Мінск, каб вывучыць дзяцей. Тут, дзе цяпер знаходзіцца гэты музей, былі прыгожыя мясціны, але здараліся і прыкрасці. Свіслач кожную вясну пагражала затапіць увесь раён і дом Купалы. Ён хваляваўся за сваю бібліятэку, і мы, дзеці, цягалі кніжкі на гарышча. Вада падымалася ў хаце вышэй ваконі, і бясконца званіў тэлефон, бо людзі хваляваліся за лёс Купалы. А дзядзька Янка і не перажываў асабліва, таму што кніжкі былі ў бяспецы".

Ядвіга Юльянаўна распавядала пра сад, для якога Янка Купала сам прывозіў з Поўдня ружы, пра знакамітую машыну "Шэўрале", на якой, ёй, дзяўчынцы, нячаста даводзілася пакатацца, пра галодныя часы, калі дзядзька Янка вымушаны быў запісаць дзвюх пляменніц Яніну і Уладзіславу сабе ў пашпарт як сваіх дзяцей, каб атрымаць карткі на хлеб, а таксама пра гасцей гэтага дома: "Якуб Колас часта прыходзіў, асабліва ў шахматы пагуляць. Уладзіслава Францаўна ўвогуле надта любіла гасцей, іншы раз маладыя пісьменнікі, не маючы сродкаў, знаходзілі ў сям'і Купалы гасцінны стол".

Бацькі назвалі Купалаву пляменніцу імем прататыпа "Паўлінкі" — Ядвігі Аўлачынскай: "У Карпілаўцы нашы сем'і сябравалі, разам адзначалі святы. Ядвіга была прыгожая, да яе заляцаўся настаўнік Мечыслаў Багдановіч. Але яна выйшла замуж за іншага чалавека, Юрэвіча, у іх былі дзеці. Яе, вядома ж, даўно няма, бо яна равесніца Купалавых сясцёр, я б хацела адшукаць яе дзяцей, даведацца пра лёс гэтай жанчыны".

Ядвіга Юльянаўна і сёння не пакідае хваляванняў пра сямейную спадчыну: "Некалькі дзён таму пайшоў з жыцця адзін з нашчадкаў Валасевічаў, з роду маці Купалы, ён жыў непадалёк ад Рубяжэвічаў. Калісьці там была хата, дзе нарадзілася Бянігна Іванаўна. І сёння мяне хвалюе, што ніяк неназначана радзіма маці паэта, хацелася б, каб там была хаця б бібліятэка альбо хата-чытальня, хоць штонебудзь".

Саша ДОРСКАЯ

На здымку: Ядвіга Раманоўская.

Фота аўтара

## Канферэнцыі

# Паглыбіць веды пра Грунвальд

У Гродне прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная 600-годдзю Грунвальдскай бітвы. Гэты навуковы форум стаўся вынікам плённага супрацоўніцтва Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, факультэта гісторыі і сацыялогіі, ваеннага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.

Як заўважыў дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Кавалення, на працягу года прайшло шмат мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай знакавай падзеі, але ўпершыню Грунвальдская бітва разглядаецца на навуковай канферэнцыі. Гэта першы форум, мэта якога — паглыбіць веды і разуменне падзеі. Упершыню навукоўцы звяртаюцца да пытання: што засталося ў гістарычнай спадчыне і свядомасці беларускага народа аб Грунвальдскай бітве? Гэтая праблема ўздымалася нашымі суайчыннікамі даўно, згадкі пра яе ёсць у творчасці паэтаў, пісьменнікаў, і ў дакладзе мы пачулі, як Максім Багдановіч ставіўся да тэмы Грунвальда, як яна разглядаецца ў "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага. Сёння важна звярнуць увагу на тое, што перамога пад Грунвальдам фарміравала нацыянальны характар, садзейнічала этнатворчым працэсам.

Дэкан факультэта гісторыі і сацыялогіі ГрДУ імя Янкі Купалы Эдмунд Ярмусік падкрэсліў, што месцам правядзення канферэнцыі невыпадкова абраны старадаўні горад Гродна, бо менавіта тут збіраліся сілы саюзнікаў, якія адзіным фронтам змагаліся з крыжакамі. І правядзенне канферэнцыі ў Новым замку сведчыць, што падзея будзе мець рэзананс сярод грамадскасці. Студэнты гістфака і маладыя навукоўцы праяўляюць павышаную цікавасць да вывучэння бітвы, пацвярджэнне таму — грунтоўны даклад Руслана Гагуа, нашага выпускніка, сёння дацэнта Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У межах канферэнцыі прайшла прэзентацыя манаграфіі Руслана Гагуа "Грюнвальд в источниках: "Хроника конфликта Владислава, короля Польши, с крестоносцами в год Христов 1410"". Навукоўцы прынялі ўдзел і ў паніхідзе па загінуўшых удзельніках бітвы, што прайшла ля памятнага знака "Пагоня на Грунвальд 1410", устаноўленага каля Барысаглебскай царквы ў памяць аб харугвах, якія ў час вялікай вайны з крыжакамі ішлі з Гародні.

Марына ВЕСЯЛУХА

## Прэзентацыі

# Літаратурная «Alma mater»

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце адбылася прэзентацыя чарговай кнігі прафесара Івана Штэйнера "Alma mater universitatis", прысвечанай выпускнікам вядучай навучальнай установы Палесся, якія праявілі сябе ў літаратурнай творчасці. На прэзентацыі прысутнічалі і самі героі публікацый, гомельскія паэты і празаікі.

Гісторыя універсітэта літаратурнага бярэ пачатак з 1930-х гадоў. У нашай ВНУ вучыліся Іван Шамякін, Кастусь Кірэенка, Паўлюк Пранузa, а таксама Леанід Гаўрылаў, Мікола Сурначоў, якія атрымалі дыпломы ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны і загінулі, абараняючы радзіму. Гомельскі універсітэт даў такіх адметных творцаў, як Міхась Башлакоў, Віктар Ярац, Анатоль Сыс, Анатоль Зэкаў, Вольга Куртаніч, Анатоль Казлоў, Міхась Даніленка, Ніна Шклярава, Эдуард Акулін, Ірына Багдановіч, Ларыса Раманава, Андрэй Мельнікаў і інш.

Загадчык кафедры беларускай літаратуры, прафесар Іван Штэйнер займаецца вывучэннем і папулярызацыяй творчасці выпускнікоў ГДУ не першы год. Пад яго рэдакцыяй у 1999 годзе была выдадзена анталогія лірыкі выпускнікоў ГДУ "Крыніцы". Тады ж выйшаў зборнік крытычных артыкулаў "Душа прычаліца крылом да неба…". Напярэдадні 75-гадовага юбілею Гомельскага дзяржаўнага універсітэта пад рэдакцыяй Івана Штэйнера і Ірыны Бароўскай у 2003-м падрыхтаваны зборнік "Універсітэт літаратурны. Універсітэт песенны".

"Alma mater universitatis" — не паўтарэнне папярэдніх выданняў, а новае пераасэнсаванне творчай выпускнікоў ГДУ, дапоўненае цікавымі згадкамі пра гады навучання, пачынаючы з успамінаў І. Шамякіна.

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

## Літ-абсягі

Кніга “Даўняя Беларусь: 3 настальгіяй аб мінулым” спалучае як навуковы, так і мастацкі падыходы да нашага мінулага. Выданне цудоўна афармлена мастаком, дызайнерам Уладзімірам Шолкам, багата ілюстравана фотаздымкамі, якія суправаджаюцца тэкстам на беларускай і англійскай мовах, пададзеным у форме дыялогаў Адама Мальдзіса і Армэна Сардарава.

Як заўважыў падчас прэзентацыі дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў, гэтай кнігай аўтары зрабілі важкі ўклад у захаванне нашай спадчыны, гістарычнай памяці. Выданне мае рэпрэзентатыўны характар, і можа падкрэсліць, што Беларусь — еўрапейская краіна з багатай архітэктурай.

Армэн Сардараў заўважыў: “Гэта кніга — зварот да моладзі. Сёння ўсе заклапочаны энерганосьбітамі. Так, гэта важна для незалежнасці дзяржавы, але важна і тое, каб была незалежнай ментальнасць, чаго можна дасягнуць праз вывучэнне і захаванне культуры, спадчыны, гісторыі. Хацелася падкрэсліць, што трэба шанаваць не толькі “гламур”, але і зморшчыны старых людзей, будынкаў, часткі адвечнай песні жыцця чалавека: маладосць, сталасць і старасць”.

# Загаварылі архітэктурныя скарбы

Руіны замка, брукаваная дарога, закінуты храм ці палац могуць шмат расказаць пра мінулае. Трэба толькі ўбачыць, адчуць, не абмінуць увагай. Доктар архітэктуры, фотамастак Армэн Сардараў і пісьменнік, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс на старонках кнігі “Даўняя Беларусь. 3 настальгіяй аб мінулым” здолелі ажывіць амаль забытыя архітэктурныя скарбы Беларусі. Прэзентацыя гэтага унікальнага выдання, якое пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”, прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.



Пісьменнік Анатоль Бутэвіч заўважыў, што кніга “Даўняя Беларусь. 3 настальгіяй аб мінулым” дае магчымасць яшчэ раз пагартаць старонкі нашай памяці і неабыякавых людзей палікаць на гэтыя сцежкі. Як ні хораша было б у прыгожых палацах, ды гісторыя — у руінах і паўруінах, але і руіны — тварэнні рук продкаў.

Старшыня Нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны выказаў думку, што кніга “Даўняя Беларусь: 3 настальгіяй аб мінулым” — своеасаблівы працяг нарыса Уладзіміра Караткевіча “Зямля пад белымі крыламі”. Варта звярнуць увагу і на тэкст кнігі, створаны людзьмі, якія глыбока разумеюць беларускую гісторыю і культуру.

На прэзентацыі прысутнічалі таксама міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў, начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Ігар Чарняўскі, дырэктар радыёстанцыі “Беларусь” Навум Гальпяровіч, доктар гістарычных навук, доктар архітэктуры Аляксандр Лакотка, першы прарэктар БНТУ Фёдар Панцялеенка. Усе яны падкрэслілі значнасць і неабходнасць кніг такога кшталту пра Беларусь.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Армэн Сардараў.

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

Вечар-сюрпрыз прайшоў з аншлагам. Кожная з аднаактовых пастановак успрымалася як жывое адлюстраванне гістарычных старонак вялікага сусветнага мастацтва. Гэтыя старонкі звязаныя з творчасцю тэатра, якому без малога 160 гадоў і якім захапляліся А. Дзюмастарэйшы, П. Чайкоўскі. Тут спявалі Ф. Шаляпін, С. Лемешаў, пачыналі сваю кар’еру В. Чабукіяні, Н. Ананіяшвілі, М. Цыскарыдзе...

Такім чынам, наша публіка ўбачыла “Серэнаду” на музыку “Струннай серэнады” П. Чайкоўскага, “Сагалабелі” на музыку пяці грузінскіх кампазітараў і народныя тэмы, “Sechs Tänze” (“Шэсць танцаў”) на музыку В. А. Моцарта.

“Серэнада” (харэаграфія Дж. Баланчына, пастаноўка Б. Кука і М.Калегары, мастак па касцюмах — М. Бурбенк)... Яе называюць эмблемай творчасці славутага харэографа, ураджэнца Пецярбурга, стваральніка амерыканскага балета, аўтара шэдэўраў для “Рускіх сезонаў” Сяргея Дзягілева, — Джорджа Баланчына, чыё сапраўднае імя, як вядома, — Георгій Баланчывадзе. “Сагалабелі” (харэаграфія Юрыя Посахава) — каларытны бессюжэтны твор, які ўразіў яркім нацыянальным духам, хаця ў пастаноўцы выкарыстана мова сучаснага класічнага танца. 3 мініяцюрных пластычных шэдэўраў складаюцца “Sechs Tänze” на музыку В. А. Моцарта (харэаграфія, сцэнаграфія і касцюмы І. Кіліяна, пастаноўка П. Дэлкруа). Аўтар балета, чэх Іржы Кіліян, адзін з лідэраў сусветнай харэаграфіі, які ўзначальвае Нідэрландскі тэатр танца, заўважыў: “Два стагоддзі аддзяляюць нас ад таго часу, калі Моцарт напісаў свае нямецкія танцы. Гэта гістарычная эпоха, пазначаная вялікай колькасцю войн, рэвалюцый... Таму мне падалося немажлівым стварыць танцавальныя нумары, якія проста адлюстоўваюць гумар і музычную чароўнасць кампазітара...”. І ён паставіў “шэсць, відавочна, бессэнсоўных актаў, якія яўна ігнаруюць наваколле”, і ў гэтым ёсць глыбокі падтэкст...

# Ад шчырага сэрца Грузіі

На мінулым тыдні паказам спектакля “Папялушка” Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі развітаўся са сваёй публікай да верасня — да новага сезона. А за два дні да завяршэння сезона 77-га яго сцэна прымала гасцей: упершыню ў Беларусь завіталі з творчым візітам артысты Тбіліскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі. Яны прывезлі мінскім гледачам шыкоўны падарунак: вечар з трох знакамітых аднаактовых спектакляў балетнай трупы, мастацкім кіраўніком якой з’яўляецца легендарная Ніна Ананіяшвілі.



Грузінскім артыстам наладзілі авацыю. Ім уручылі кветкі ад Пасольства Грузіі ў нашай краіне і ад Міністэрства культуры Беларусі. Мастацкі кіраўнік трупы — народная артыстка Расіі і Грузіі, сусветная мега-зорка Ніна Ананіяшвілі (у ліку лепшых танцоўшчыц Вялікага тэатра Расіі ўсіх часоў, супрацоўнічала з усімі знакамітымі балетнымі калектывамі Еўропы і Паўночнай Амерыкі, 15 гадоў была прыма-балерынай Амерыканскага балетнага тэатра) — ад усяго сэрца павітала публіку, адзначыўшы, што гэты вечар — падарунак беларускім гледачам да Дня Незалежнасці і пачатак плённых творчых адносін двух тэатраў.

Лана ІВАНОВА

На здымку: сцэна са спектакля “Шэсць танцаў”.

## Повязі

Першая міжнародная творчая сустрэча “Мы разам!” адбылася ў сталіцы на базе Дзіцячай музычнай школы № 19. Арганізавалі і падтрымалі гэтую акцыю Упраўленне культуры Мінгарвыканкама, Беларускі Саюз музычных дзеячаў, Беларуская асацыяцыя духавых аркестраў і ансамбляў, Жаночы клуб г. Мінска. Удзельнікамі былі творчыя калектывы музычных школ і спецыялізаваных навучальных устаноў, у якіх навучаюцца дзеці з парушэннямі зроку, — з Санкт-Пецярбурга, Курска, Мінска, Гродна, Маладзечна, Жабінкі.

# Мы — разам!



Галоўнай мэтай новага міжнароднага праекта з’яўляецца спрыянне працэсу рэабілітацыі і сацыяльнай адаптацыі дзяцей-інвалідаў сродкамі мастацтва. Акцыя “Мы разам!” была накіраваная таксама на тое, каб прыцягнуць грамадскія, дзяржаўныя арганізацыі і камерцыйныя структуры да больш поўнага вырашэння праблем людзей з абмежаванымі магчымасцямі і аказання ім неабходнай дапамогі, пашырыць кантакты дзяцей-інвалідаў са сваімі равеснікамі, павысіць узровень прафесійнага майстэрства педагогаў, якія самааддана працуюць з такімі дзецьмі.

Адбыліся цікавыя канцэртныя выступленні ўдзельнікаў Першай міжнароднай сустрэчы “Мы разам!” у Малой канцэртнай зале імя Р.Шырмы Белдзяржфілармоніі, праваслаўным прыходзе ў гонар Іконы Маці Божай “Усіх тужлівых радасць”, Доме міласэрнасці, канцэртнай зале Дзіцячай музычнай школы № 19. Акрамя гэтага, прайшоў метадычны семінар для выкладчыкаў, які быў прысвечаны пытанням і праблемам музычнай адукацыі дзяцей з парушэннямі зроку. Ва ўдзельнікаў семінара асаблівы інтарэс выклікалі майстар-класы выкладчыкаў В.Навумавай і С.Галімавай з Санкт-Пецярбурга, М.Дорасевай і А.Якаўлевай з Мінска, дырэктара Курскага музычнага каледжа сляпых С.Папкова. 3 цікавасцю быў успрыняты даклад кандыдата мастацтвазнаўства, члена міжнароднай арганізацыі мастацтвазнаўцаў па праблемах развіцця духавога мастацтва IGEB, прафесара кафедры духавой музыкі БДУ культуры і мастацтваў А.Карацеева пра сацыякультурную рэабілітацыю і формы мастацка-творчай адаптацыі інвалідаў па зроку сродкамі духавога, эстраднага і джазавага мастацтва, а таксама даклад загадчыка аддзела сацыяльнай рэабілітацыі Дома міласэрнасці І.Тарасік пра духоўна-маральную рэабілітацыю іншаадораных дзяцей, іншыя выступленні.

Вопыт правядзення Першай міжнароднай творчай сустрэчы “Мы разам!” засведчыў неабходнасць ажыццяўлення такіх мерапрыемстваў. Яны дазволяць аб’яднацца для агульнай справы неабыякавым людзям, якія праз далучэнне інвалідаў па зроку да музычнага мастацтва змогуць зрабіць наш свет, свет “умоўна здаровых” людзей, больш добрым і міласэрным.

Алена МАСЛАВА,
член Беларускага саюза музычных дзеячаў

Фота Марыны Дорасевай

## З-пад пяра

У межах грамадска-культурнай акцыі “Беларусь — гэта мы!” у Хойнікі прыехалі артысты Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі “Свята”. На сустрэчу з імі ў Гарадскі цэнтр культуры і спорту “Меліяратар” і ў Барысаўшчанскі сельскі Дом культуры прыйшло нямала гледачоў. “За час дзейнасці нашага калектыву, які быў створаны ў 1984 годзе пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі, — расказвае яго мастацкі кіраўнік, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Анатоль Кашталапаў, — мы далі больш як 4000 канцэртаў у нашай краіне і далёка за яе межамі. Пабывалі амаль на ўсіх кантынентах планеты, акрамя Аўстраліі. Але такога шчырага глядацкага прыёму, як у маленькіх райцэнтрах і вёсках нашай рэспублікі, такога захаплення народнай творчасцю нідзе не даводзілася адчуваць...” У час канцэрта прагучала песня з хойніцкімі каранямі “Калі каліна не цвіла” — яна была запісана ў вёсцы Глінішча, на радзіме нашага славутага земляка Івана Мележа.

Клаўдзія БОСАК

Купальскі вечар адбыўся нядаўна ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Яго наведвальнікі сталі ўдзельнікамі старажытнага паганскага свята. Заўжды яго святкавалі ў самую кароткую летнюю ноч: збіралі лекавыя травы, варажылі, шукалі кветку-папараць. У свяце прынялі ўдзел народныя вакальныя групы “Сукрвецце” і “Весялінка” (г. Вілейка), народная жартоўна-фальклорная група “Цешча” (пас. Ратамка), народны ансамбль “Асалода” (г. Барысаў).

Ларыса САЛОДКІНА

Роўна год таму ў Гродне быў створаны эксперыментальны тэатр-студыя “Бачонак” — назва вытворная ад прозвішча заснавальніка творчага калектыву і галоўнага рэжысёра Сяргея Бачкова. За гэты час пастаўлены чатыры спектаклі: трагедыя “Другая смерць Жанны Д’Арк” па п’есе балгарскага драматурга Стэфана Цанева, жарт-камлом “Жаніцьба — справа мудрая” па Аляксандру Астроўскаму, а два наступныя — па п’есах Васіля Ткачова “Пераправа на Казанціп” і “Веласіпед”. Як прызнаўся Сяргей Бачкоў, гэтага беларускага драматурга ён адкрыў для сябе ў інтэрнеце і плануе абавязкова звяртацца да ягонай творчасці ў будучым. Сёння ў тэатры-студыі 18 акцёраў. Паспелі ўжо заваяваць сімпатыю ў гледачоў Віктар Васілеўскі, Аляксандр Лабко, Марыя Арабей, Таццяна Вежнавец, Таццяна Войшніс, Ірына Адынец, Аляксандр Цыдзік і іншыя.

Сяргей ДАНІЛАЎ

У кіназале Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адбылося адкрыццё кінапраграмы “Я очень многим связан с Белоруссией…”, прысвечанай памяці Уладзіміра Высоцкага. Праграма арганізавана пры супрацоўніцтве з Нацыянальнай кінастудыяй “Беларусьфільм”, з Мінскім гарадскім камітэтам БРСМ і Мінскім гарадскім кінаклубам У.С. Высоцкага. 25 ліпеня спаўняецца 30 гадоў з таго дня, як не стала вядомага паэта і акцёра. З кінастудыяй “Беларусьфільм” Высоцкі супрацоўнічаў 15 гадоў: з 1965-га і да канца свайго кароткага жыцця. За гэты час ім было напісана для беларускага кіно больш як 20 песень, асноўная частка якіх стала спадчынай савецкай і сусветнай культуры. У межах праграмы прайшлі паказы фільмаў “Я родом из детства”, «Война под крышами», а 21 і 28 ліпеня будуць паказаныя кінакарціны «Сыновья уходят в бой» і “Точка отсчёта”.

Ганна БАСОРЫНА

# Вавілон, які будавалі супольна

Як ужо паведамлялася ў “ЛіМе”, наша краіна распачала новы праект «Беларусь сёння», у рамках якога штогод у пяць буйнейшых бібліятэк свету будуць перадавацца каля ста лепшых беларускіх выданняў. Менавіта тых, якія ўсебакова адлюстроўваюць сацыяльна-эканамічнае і палітычнае жыццё краіны, яе шматвяковую гісторыю і культуру. Пры канцы чэрвеня дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман МАТУЛЬСКІ прэзентаваў праект у Бібліятэцы Кангрэса ЗША, дзе праходзіла пасяджэнне Сусветнай лічбавай бібліятэкі. Тэндэнцыя апошняга часу: бібліятэкары аб’ядноўваюцца, ствараючы агульную культурную і інфармацыйную прастору. Сёння Раман Сцяпанавіч дзеліцца сваімі ўражаннямі ад наведвання адной са старэйшых бібліятэк свету.



— Раман Сцяпанавіч, што там, за акіянам, ведаюць пра нас, пра Беларусь? Якія беларускія кнігі або кнігі пра нашу краіну ёсць у фондах Бібліятэкі Кангрэса ЗША?

— Радуе ўжо тое, што жадаюць пра нас ведаць. А што да самой Бібліятэкі Кангрэса, то нашыя сувязі — адны з самых даўніх. Нацыянальная бібліятэка Беларусі, тады яшчэ Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна, пачала супрацоўніцтва з Бібліятэкай Кангрэса з 1925 года.

—Гэта ж амаль стагоддзе, а калі больш дакладна, то восемдзесят пяць гадоў нашаму партнёрству...

— Амерыка — своеасаблівая краіна, адпаведна і функцыі Нацыянальнай бібліятэкі можна сказаць, крыху больш асаблівыя, чым у іншых народаў. Амерыка — краіна эмігрантаў, Вавілон, які будуюць людзі з усяго свету. І адпаведна, кожны з іх хоча ведаць пра сваю радзіму, што там адбываецца. А з другога боку, і амерыканская дзяржава хоча ведаць, што адбываецца ў розных краінах, як можна наладжваць з імі стасункі — палітычныя, эканамічныя, культурныя. Невыпадкова мяне сустрэла неблагая калекцыя беларускіх кніг. Хаця мы ехалі з асноўнай місіяй — падараваць кнігі пра сучасную Беларусь.

— Была нейкая кніга, якая вас здзівіла?

— Здзівіла кніга, якая выдадзена ў 1860-м у Санкт-Пецярбургу, — “Словарь белорусского наречия”. Сама па сабе кніга рэдкая. І яна цікавая яшчэ і тым, што абвяргала ўстойлівае меркаванне. Вядома, што беларуская мова ў расійскай імперыі лічылася адным з дыялектаў расійскай. А вось выдадзены такі слоўнік сведчыць пра тое, што неаднолькава ўсе філолагі лічылі і прызнавалі за беларускай мовай права на існаванне і нават у тыя гады яна даследавалася.

А ў цэлым было прыемна ўбачыць, што нашы асноўныя энцыклапедычныя, даведачныя выданні ў бібліятэцы ёсць. У гэтым і наша заслуга немалая. Таму што заўсёды ў рамках кнігаабмену стараемся фарміраваць у нашых партнёраў адэкватнае ўяўленне пра Беларусь. Ёсць у тым ліку нашы сучасныя перыядычныя выданні.

— “Сучасная Беларусь” — новы міжнародны партнёрскі праект 2010 года...

— Так, Бібліятэка Кангрэса дала магчымасць для існавання такога беларускага праекта. Ёсць такая мода — ківаць на мас-медыя, што яны не заўсёды аб’ектыўныя. Таму была спроба прадставіць самыя розныя крыніцы. Мы ведаем, што беларуская кніга, беларуская паліграфія — дастойныя, і кніга ў нас робіцца на міжнародным ўзроўні. Мы, сапраўды, мала ведаем адзін пра аднаго. Калі нам падаецца, што мы шмат ведаем пра Амерыку — гэта таксама няпраўда. Таму што на бытавым узроўні мы ведаем Амерыку галівудскую, якая існуе віртуальна, і не мае адносінаў да Амерыкі рэальнай.

— Сярэдні амерыканец любіць чытаць кнігі, як вам падалося?

— Ведаеце, мне падаецца, што гэтае ж пытанне слушнае і пра сярэдняга беларуса. Але шпацыруючы па Вашынгтоне, я бачыў шмат кнігарняў. А Амерыка — краіна бізнесу. І калі гэтыя крамы існуюць, значыць, кнігі купляюць і чытаюць. Я прысутнічаў на канферэнцыі амерыканскай бібліятэчнай асацыяцыі. Звярнуў увагу на кантэйнеры, скрыні як з-пад тэлевізараў, якія бібліятэкары тут жа арганізавана з поштай адпраўлялі сабе ва ўстановы. Зразумела, гэта былі бібліятэкары невялічкіх бібліятэк. Але зноў жа факт гаворыць пра тое, што кнігі запатрабава.

Наведваў Бібліятэку Кангрэса ЗША і экскурсійна-прафесійным поглядам заўважыў: залы бібліятэкі запоўнены наведвальнікамі, якія чытаюць менавіта кнігі. Таму што могуць падумаць, што некага больш цікавіць электронная версія. Не, шмат людзей чытаюць кнігі!

Была магчымасць у час паездкі і сустракацца са шматлікімі людзьмі, дыпламатамі, бізнесменамі, дарогі якіх так ці іначай перасякаліся з бібліятэкай. Таму вобраз не зусім граматнага амерыканца, які нічога не чытае і не бачыць, не зусім дакладны. Амерыканскае грамадства, як і любое іншае, неаднароднае, там існуюць самыя розныя сацыяльныя групы, ёсць і тыя, якія ўвогуле акрамя этыкетак на бутэльках нічога не чытаюць.

— Раскажыце крыху больш пра саму бібліятэку. Нават той факт, што ў ёй каля 150 мільёнаў адзінак захоўвання, уражвае. Гэта разоў у пятнаццаць больш, чым у нашай нацыянальнай. Нават уявіць складана...

— Бібліятэка Кангрэса США — як і сама Амерыка, яе люстэрка. Асноўны будынак, будынак Джэферсана знаходзіцца непасрэдна побач з Кангрэсам. А сам Вашынгтон — горад-сімвал, у ім усё сімвалічна, кожная пабудова мае сваё вызначанае месца пад сонцам, сваё прызначэнне. І тое, што Нацыянальная бібліятэка знаходзіцца ў гэтым крыжы сімвалічных будынкаў, само па сабе добры знак. Будынак таксама ўзводзіўся спецыяльна для бібліятэкі, ён выдатнейшай архітэктуры. Галоўная зала, парадная частка аформлена як лепшыя саборы. Таму гэта выклікае гонар за бібліятэку і ўсю бібліятэчную справу. Сваім патэнцыялам Бібліятэка Кангрэса пераўзыходзіць шмат якія бібліятэкі Еўропы. Але любая бібліятэка — гэта перш за ўсё адлюстраванне часу. Нельга займець грошы, і за год стварыць Нацыянальную бібліятэку. Ці лепшую бібліятэку ў свеце. Гэта немагчыма! Каб стварыць бібліятэку, патрэбны нават не дзесяцігоддзі, а стагоддзі. Дык вось Бібліятэка Кангрэса ЗША сабрала велізарныя калекцыі амаль з усяго свету.

Але ж яна была заснавана ў 1800 годзе, калі прэзідэнт ЗША Джон Адамс падпісаў указ аб перанясенні сталіцы з Філадэльфіі ў Вашынгтон. Лішне нагадваць, што Амерыка — англамоўная краіна, ды і англійская мова — адна з вядучых у свеце, а ў фондах бібліятэкі — толькі 40 працэнтаў выданняў на англійскай мове! Астатнія — на іншых, у тым ліку і беларускай. І гэта ўражвае.

— Вы знаходзіліся ў асяроддзі бібліятэкараў-прафесіяналаў усяго свету. Чым жыве цяпер бібліятэчная супольнасць, чым заклапочана?

— Бібліятэкі свету жывуць агульнымі праблемамі. У кожнага ёсць свае балячкі і радасці, і тая сустрэча, якая была, прысвечаная праблемам фарміравання сусветнай электроннай бібліятэкі. Вось мы селі, каля сотні чалавек: тут і Еўропа, і Афрыка, і Індыя, Японія, Кітай, Бліжні і Дальні Усход. Поўнач — усе краіны знаходзяцца на розных тэхналагічных узроўнях, ва ўсіх розныя фінансавыя магчымасці. Але пытанні падобныя. І хоць размова ідзе пра іншыя тэхналагічныя магчымасці, традыцыйная кніга доўга будзе жыць. Менавіта яна захоўваецца праз стагоддзі. І ўсе заклапочаны тым, каб яна яшчэ доўга была сярод людзей.

> Ва ўмовах, калі ў Расійскай імперыі беларуская мова не лічылася за мову, у Санкт-Пецярбургу быў выдадзены “Словарь белорусского наречия” (1860 год).

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: Раман Матульскі.

Фота Віктара Кавалёва

# Нечаканая перамога



Конкурс “Бібліятэкар Мінска-2010” стаў сапраўдным святам для супрацоўнікаў бібліятэк. Як зазначалі арганізатары мерапрыемства, мэтай было не толькі вызначэнне пераможцы, а і папулярызацыя сучасных бібліятэк, павышэнне аўтарытэта бібліятэкара. Пераможцам конкурсу стала Наталля Нікіціна, супрацоўніца Мінскай гарадской бібліятэкі № 7 імя Якуба Коласа, якая і адказала на пытанні “ЛіМа”.

— Я скончыла Беларускі дзяржаўны педуніверсітэт імя Максіма Танка, пасля магістратуры працавала ў школе, выкладала беларускую мову і сусветную мастацкую культуру. Калі ж СМК як прадмет адмянілі, уладкавалася ў бібліятэку імя Якуба Коласа, другую па памеры пасля Мінскай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы.. Працую ў чытальнай зале і акрамя працы з кнігамі маю шмат тэхнічнай працы: раздрукоўкі, пошук літаратуры па пэўнай тэме. Гэтая разнастайнасць мне вельмі падабаецца. Здаецца, тут я знайшла сапраўды сваё месца…

— На конкурсе вы распавялі пра праект кніжнага свята, якое мелася адбыцца 3 ліпеня. Ці здзейснілася ваша задума?

— Так, мы з калегамі правялі гэта мерапрыемства ў парку імя Грэкавай: наведвальнікі мелі магчымасць на вольным паветры пагартаць бібліятэчныя кнігі, прыняць удзел у вікторыне па гісторыі Мінска. З дапамогай адміністрацыі мы ўжо некалькі гадоў далучаемся да арганізацыі святкавання Дня Незалежнасці.

— Якія іншыя акцыі праводзіць бібліятэка імя Якуба Коласа дзеля таго, каб прывабіць чытача?

— Мы часта запрашаем пісьменнікаў, паэтаў, ветэранаў, ладзім канцэрты. Нядаўна адбылася сустрэча з супрацоўнікамі рэдакцыі дзіцячага часопіса “Рюкзачок”. Мы заўсёды рады сустракаць людзей, нам ніколі не сорамна перад выступоўцамі за пяпустую залу — наведвальнікаў шмат.

— Ці задаволены вы колькасцю сваіх чытачоў?

— Ведаеце, кожны дзень адрозніваецца ад папярэдняга. Сёння ціха, а назаўтра стаіць чарга. Наогул людзей хапае, асабліва прыемна, калі прыходзяць сем’ямі: адны ў адну залу, другія ў іншую, пасля сустракаюцца…

Жанчыны, што працуюць разам са мной, — вясёлыя, з пачуццём гумару. Мне вельмі добра ў калектыве.

— Што асабіста вам прынёс удзел у конкурсе?

— Станоўчыя эмоцыі, пазітыўны настрой. Перамога была нечаканай, але прыемнай, і ўсміхаюся, калі прыгадваю падштурхоўваць да актыўнай працы, новых знаходак, уласнага развіцця.

— Якія пажаданні пакінеце мінскім бібліятэкарам?

— Па-першае, здароўя, па-другое, здольнасці пакідаць праблемы дома і прыходзіць на працу з добрым настроем. Зразумела ж, паболей чытачоў!

Гутарыла Алеся ЛАПІЦКАЯ

На здымку: пераможца конкурсу Наталля Нікіціна.

# «Шчыра вас вітаю, як радню»



Літаратурна-музычная вечарына пад такой назвай прайшла ў Мядзелі. Падрыхтавалі яе работнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі на чале з дырэктарам Л. Несцяровіч. А прысвечана вечарына была творчасці паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Станіслава Валодзькі. Нарадзіўся ён на Астравеччыне ў вёсцы Падольцы, якая ў той час уваходзіла ў склад Свірскага раёна. І хоць жыве цяпер Станіслаў Віктаравіч у Даўгаўпілсе, да гэтага часу не парывае сувязей з землякамі.

На рахунку С. Валодзькі нямала выдадзеных кніг, дзе тэма роднага краю, якому ён шчыра аддае свой зямны паклон — бадай, адна з галоўных. З аховай пішa і для дзяцей, у тым ліку і казкі складае. На словы Валодзькі беларускімі кампазітарамі напісана нямала песень. Шмат іх (як на патрыятычную тэму, так і лірычных, жартоўных) прагучала са сцэны гарадскога Дома культуры ў выкананні самадзейных артыстаў з Даўгаўпілса і Браслава. А выхаванцы Дома дзіцячай творчасці падрыхтавалі інсцэніроўку адной з казак.

Кажуць, калі маем хлеб, трэба, каб было і да хлеба. І без духоўнага скарба тут не абысціся. Трымацца сваіх каранёў, не здраджваць той зямлі, дзе нарадзіўся і вырас, жыць яе клопатамі і радасцямі — крэда любога сумленнага чалавека. А як для творцы — дык яшчэ і нястомна апяваць свой край, каб данесці да нашчадкаў нашы справы, спадзяванні і мары. Бо ўсе мы, сапраўды, павінны быць як радня.

Аляксандр БЫКАЎ

На здымку: выступае паэт Станіслаў Валодзька.

Фота аўтара

У Інтэрнэце прачытаў, што пры ўручэнні пашпартоў моладзі старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пётр Руднік віншаваў паўналетніх на роднай мове і жадаў добрай дарогі ў будучыню. У газеце надрукавалі: кіраўнік упраўлення адукацыі гарвыканкама Сяргей Казлоў па магчымасці папулярызуе адкрыццё беларускіх класаў у школе, заклікае бацькоў больш падаваць заяў, каб іх дзеці ішлі ў першы клас і вучыліся па-беларуску. Магілёў аб'явіў наступныя тры гады Гадамі беларускай мовы. “Нездарма”, — падумалася мне.



# А мова родная найперш

— Сапраўды, і ў вобласці, і ў горадзе надаецца вялікая ўвага адраджэнню і падтрымцы беларускай мовы і культуры, — расказвае Антаніна Шаркова, начальнік аддзела культуры Магілёўскага гарвыканкама. — Што б мы ні праводзілі, якую б імпрэзу не наладжвалі, кіруемся адным прынцыпам — мова родная найперш.

Антаніна Паўлаўна родам са Шклоўшчыны, з таго краю, дзе і па сённяшні жывуць традыцыі песеннага майстэрства, культуры. Вырасла на вёсцы, да таго ж вельмі любіць чытаць.

— З дзяцінства я ўвабрала ў сябе водар беларушчыны, праз бацькоў і бабуль нарадзілася любоў да свайго краю. Для мяне не было розніцы, на якой мове напісана кніга: на рускай ці беларускай, абы была цікавай, — гаворыць Антаніна Паўлаўна. — А потым ужо зразумела: беларускіх пісьменнікаў трэба чытаць у арыгінале, — толькі тады адчуеш усю асалоду і смак мілагучнай і ласкавай нашай мовы, пры перакладзе на рускую мову губляецца яе водар і прысмак. Я гэта зразумела, калі прачытала і параўнала творы Шамякіна і Брыля, Караткевіча і Мележа.

Прывяду такі прыклад. Ездзілі некалькі гадоў таму ў горад-пабрацім Керч. Далі мне слова для віншавання. Я падумала, што сказаць яго трэба толькі на роднай мове. Гаварыла па-беларуску, і была вельмі здзіўлена, калі мяне папрасілі паўтарыць вымаўленыя словы, бо вельмі ўжо ім спадабалася гучанне нашай мовы. Які я тады адчувала гонар за сваю Радзіму, за мову, — не перадаць!

— Антаніна Паўлаўна, а як у сям'і пачуваецца мова?

— Натуральна і звыкла. Больш таго, мая ўнучка Марыйка, прыходзячы з дзіцячага садка, расказвае мне па-беларуску і чытае вершык: “Дзве шчочкі ружовыя, белая хустачка, — цяпер я ўжо ведаю: я — беларусачка!”. Як мне прыемна і ўсцешна гэта чуць, я абдымаю і цалую яе, кажу: “Ах ты, мая беларусачка!”.

Мы стараемся ва ўсіх садках горада праводзіць выхаваўчую работу такім чынам, каб дзіця, пачынаючы свой шлях у жыцці, з годнасцю і гонарам шчыра вымаўляла: “Я — беларус” ці “Я — беларусачка!” У дзяцей тады нараджаецца гонар за сваю радзіму, за бацькоў, бо яны пачынаюць разумець, што яны грамадзяне сваёй Краіны. Але ж лічу, што нікога не трэба прымушаць. Каб пачаць размаўляць па-беларуску, трэба напачатку пачуць і адчуць нашую мову сэрцам.

А якія раней былі вечарыны на прызбе ці з нейкай святочнай нагоды! Не, не тыя, што з гарэлкай і пустой балбатнёй, а тыя, калі ўсе людзі, седзячы за сталом, толькі памачыўшы вусны, дакрануўшыся толькі да той чаркі, распачынаюць песню. Спачатку яна ліецца як бы нясмела, бы крынічка першага ўздыху, а потым, набраўшыся сілы і моцы, вырываецца вонкі, — і гучыць на ўсю моц, дэманструючы характво і наш характар, нясе да нябёсаў нашыя радасць і боль, узнёсласць і задуменнасць, біццё нашых сэрцаў і пяшчоту душаў…

У нас, у вёсцы, здаецца, спявалі ўсе — ад малечы да людзей сталага веку. Мой дзед дык казаў так: “Кожная спетая песня жыццё на дзень прадоўжвае”. І таму, мусіць, спявалі людзі штодня, на радзінах і хрэсьбінах, на дажынках і зажынках, спявалі проста так, пад настрой і без настрою. Песня і вяртала той настрой…

Але калі я вам буду расказваць праз ружовую прызму астатнія факты, то гэта будзе няпраўдай. На жаль, мы сутыкаемся і з процілеглымі бакамі жыцця, якія нельга аднесці да поспехаў, зусім наадварот. Прывяду такі факт. Была спроба, раней яшчэ, адкрыць беларускую гімназію. Акурат тады мая дачка Таццяна ішла ў першы клас. І выявілася, што дома, на вялікі жаль і сорам, мы не змаглі ёй дапамагчы асвойваць урокі на беларускай мове. У наш час, як вучыліся ў пачатковых класах, метады былі зусім іншыя, больш прасцейшыя. Мы разгубіліся і не ведалі, што рабіць. Так і ў астатніх сем'ях. Рашалі-раіліся паміж сабой бацькі першакласнікаў і не знайшлі нічога лепшага, як адмовіцца ад беларускага класа, перайсці ў паралельны, з рускай мовай навучання.

Спынілася ўсё на ўзроўні пачатковых класаў. А калі гаварыць пра старэйшыя, дзе вывучаліся фізіка і хімія, матэматыка і алгебра, то, мусіць, і самі выкладчыкі не валодалі тэрмінамі — тыя прадметы ім выкладалі ў ВНУ на рускай мове. Так яно ўсё і заглухла, не паспеўшы набыць цвёрды грунт ці апірышча для прадаўжэння навучання на роднай мове…

— Адкуль у вашай душы гэтулькі песеннага настрою, імкнення да характва, да народнай песні?



Антаніна Паўлаўна ўсміхаецца, удыхае, зазіраючы, мусіць, у той далёкі час, на момант задумваецца.

— Ведаеце, спявала я з дзяцінства. Маці казала, што спяваць я пачала ў калысцы. У школе спявала, у хоры і асобна. Калі ў школе стварыўся першы вакальна-інструментальны ансамбль, то мяне абралі салісткай. А дырэктар шклоўскай сярэдняй школы № 4 Анатоль Акулаў на адным з бацькоўскіх сходаў, звярнуўся да маёй маці, прапанаваў: “ Раіса Ціханаўна, вашай дачцы з яе талентам спявачкі неабходна паступаць у інстытут культуры”. А такія навучальныя ўстановы на той час былі ў Ленінградзе і ў Маскве. Маці далёка адпускаць мяне не хацела… На маё шчасце, на наступны год у Мінску адкрыўся інстытут культуры, куды я і паступіла.

Павінна сказаць і вось яшчэ што. Пляменнік маёй бабулі, у якой я правяла ўсё маё дзяцінства, Анатоль, быў выдатным гарманістам. Што адметна, усе хлопцы і мужчыны ігралі на гармоніках, як і ўсе дзяўчаты і жанчыны былі адметныя спявачкі. Вёсачка Засценкі — невялікая, дзевяць двароў, але з кожнага двара, быццам з вялікага асяродка культуры, даносіліся спевы і пераборы гармоніка. Такога вы нідзе не сустрэнеце, гэта унікальная з'ява народнай культуры, песеннай душы народа. А прадзед мой Павел Бедушэўскі дык і ўвогуле вырабляў такія унікальныя скрыпкі, што не горш за Страдывары, а якія цымбалы выштукоўваў! Іграюць на іх у вёсцы, а чуваць, мусіць, у Магілёве і Мінску! Адмысловы быў майстра, таленавіты і творчы! Сам іграў на цымбалах, на скрыпцы, на гармоніку. Дык і сыноў навучыў гэтаму. І бубен меў адметны. Пра іх тады шмат гаварылі, пісалі, усхвалялі. А ў яго было двое сыноў і трое дачок. І кожны з іх адораны Богам талентам і душэўнай цеплынёй. І потым жа яны нараджалі яшчэ больш дзяцей, чым было ў іх сям'і, — па восем-дзесяць. Любіла я знаходзіцца сярод іх, разам з імі спяваць, запамінаючы шмат тых песень, якіх я да гэтага не ведала. І як тое мне спатрэбілася, калі я вучылася ў інстытуце!

І калі потым збіраліся ўсе сямейнікі ў адзін гурт падчас нейкага свята, то гэта быў такі фэст, такое відовішча, такі народны унікальны хор, што з Мінска прыязджалі і дзівіліся такой з'яве.

І вось той Анатоль, бабулін пляменнік, заўсёды прыходзіў у бабуліну хату, ці сядаў на прызбу, — і без стомы мог граць гадзіну, дзве, пяць… І танчылі там жа, у двары бабулі! Ніколі не забуду тыя вечары, тую радасць, якая ахоплівала маё сэрца! “Стаяць вербы каля грэблі”, “Ой, мароз, мароз”, “Рабіна”, “Ой, у лузе”… Ды не пералічыць усіх песень, што мы спявалі. А помнілі, што кожная новая песня дорыць месяц жыцця… А бабуля — дык увогуле энцыклапедыя народных песень — абрадавых, вясельных, радзінных, жніўных… Толькі з яе песень можна было выдаваць некалькі тамоў, памяць у яе была незвычайная!

Любоў да народнага, лічу, на генным узроўні. Удзячна лёсу, што нарадзілася ў такім краі, ганаруся, што я магу ўсклікнуць, як мая ўнучка: “Я — беларуска!”

Я магу дзень і ноч глядзець конкурсы нашых мастацкіх калектываў, радуюся за кожны поспех, за кожную прыгожую песню. А ў душы… А ў душы птушкай лячу на тую сцэну, стала б сярод іх, заспявала б сваю, тую, што перадала мне бабуля, песню, ды не магу тое зрабіць — толькі на нейкіх вясельных застоллях і адводжу душу.

…У заключэнне нашай гутаркі Антаніна Шаркова мне паказала план мерапрыемстваў аддзела культуры па папулярызацыі беларускай мовы і культуры на тры гады. І ўсе мерапрыемствы прысвечаны галоўнаму — пашырэнню і ўжыванню яе ва ўсіх сферах бібліятэчнай і клубнай дзейнасці. Вядзецца на беларускай мове справаводства, выступленні на вытворчых нарадах, семінарах, масавых мерапрыемствах.

Звяртаюць на сябе ўвагу цыклы мерапрыемстваў, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы “Жыві, наша мова!”, Дню беларускага пісьменства “Вяртанне да вытокаў”. А падчас анкетавання ўключаюцца пытанні: “Ці чытаеце вы беларускую літаратуру?”, “Падлетак, ці чытаеш ты кнігі беларускіх пісьменнікаў і ці размаўляеш на роднай мове?”.

— Пра нашую дзейнасць можна расказваць і расказваць, — падсумоўвае вынікі нашай размовы Антаніна Шаркова, — і мы кіруемся галоўным прынцыпам: што б мы ні праводзілі, на чым бы ні сканцэнтроўвалі нашу ўвагу, лічым: мова родная ва ўсім — найперш.

Анатоль БАРОЎСКІ

Між іншым

# Бяда, як пірагі пачне пячы шавец…

Гэты крылаты выраз з байкі І. А. Крылова неаднойчы прыходзіў на думку, калі я чытаў артыкул Івана Осіпава “З роднай гаворкі”, змешчаны ў часопісе “Маладосць” (2010, № 3, с. 127 — 130). Напачатку аўтар піша, як ён “на летніх вакацыях сабраў свой інвентар (сшытак, аловак) і пайшоў “шпацыраваць” па вёсцы, запісваючы ўсё, што трапляла ў вуха”. Нідзе, аднак, не сказана, якая ж гэта вёска і ў якім раёне Беларусі адбываецца дзея. Мусіць, усё, “што трапляла ў вуха”, а пасля і ў сшытак, праз нейкі час, як ні дзіўна, апублікавалі ў часопісе.

У шматлікіх ранейшых падборках з дыялектнымі словамі, фразеалагізмамі, прыказкамі, змешчаных на старонках “Полымя”, “Роднага слова” або ў тэматычных зборніках, падаваліся толькі такія моўныя адзінкі, якія ў мінулым не апісваліся ні ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы, ні ў дыялектных даведніках, ні ў іншых асобных публікацыях. Аўтары такіх падборак, перш чым уключыць у яе (падборку) выяўленую імі моўную адзінку, звярталіся (толькі так і трэба!) да ўсіх слоўнікаў, каб пераканацца, ці не адкрываюць яны ўжо адкрытае, і апісвалі гэтую адзінку ў адпаведнасці з агульнапрынятай лексікаграфічнай практыкай.

Іван Осіпаў або знарок не зважае на гэта, або проста нічога не ведае пра такую ўстойлівую практыку і традыцыю. Ён піша: “Так і пачалася мая малая, але і вялікая справа — запісаць, даведацца, пачуць усё, што тычыцца роднай вёскі і наваколля”.

У яго падборцы 57 запісаў (яны пранумараваныя). На жаль, я не знайшоў тут нічога новага і сумняваюся, што гэта — “вялікая справа”. Тут толькі адны недарэчнасці, недакладнасці, нелагічнасці, “паўтарэнне пройдзенага”.

Напрыклад, агульнавядомая прыказка “Адна бяда не ходзіць, другую за сабою водзіць” гаворыцца, калі чалавеку не шанцуе, калі непрыемнасці ідуць адна за адной. У падборцы І. Осіпава яна тлумачыцца словамі, значэнні якіх адсутнічаюць у сэнсавай структуры гэтай прыказкі: “Ніколі не расслабляйся, бо па жыцці заўсёды ёсць нейкія праблемы. Сёння адна праблема (бяда), а заўтра будзе другая — так было заўсёды”. Яшчэ адна, не менш вядомая прыказка “Адзін з сошкаю, сямёра з ложкаю” растлумачана так: “На адным гаспадары іншыя трымаюцца”. Але сапраўдны яе сэнс такі: “Працуе адзін, а вынікамі яго працы кормяцца многія”.

Усе пранумараваныя і вынесеныя ў загаловак сказы, словазлучэнні, словы аўтар суправаджае тымі ці іншымі паметамі: прыказка, прымаўка, выслоўе, параўнанне і г.д. Але наўрад ці ўсведамляе ён, якая розніца паміж гэтымі паняццямі. Так, прыказка алегарычнага характару “Блізка локаць, ды не ўкусіш” мае ўстойлівую і ўзнаўляльную форму, але ў падборцы (№ 47) пададзена з паметай “прымаўка” і ў форме “Хоць локаць блізка — але не ўкусіць”. Многія іншыя прыказкі таксама пазначаны паметай “прымаўка”, да прыкладу: “Як трывога, тады да Бога” (№ 51). Хоць сэнс гэтай прыказкі, здаецца, зразумелы кожнаму (“Да Бога звяртаюцца найчасцей у няшчасці”), але складальнік дае волю фантазіі: “Самі нічога не могуць зрабіць, а ходзяць заўсёды за дапамогай — як маленькія дзеці”.

Паметай “прымаўка” надзелены і шмат якія простыя ці складаныя сказы, у якіх няма нічога, характэрнага для прыказак ці прымавак. Або калі ў выказванні сустракаюцца фразеалагізмы (скажам: галаву дурыць каму, за плячамі не насіць што), то гэта ўжо для аўтара падстава, каб вынесці ўвесь сказ у загаловак і пазначыць паметай “прымаўка”: “Папрыходзяць — галаву дураць бабе”, “Грамату за плячамі не насіць”.

У нашай мове ёсць словы “анігадкі”, яно фіксуецца ў даведніках як двухзначнае прыслоўе: 1) сэнсава адпавядае выразу “хоць бы што”, 2) спакойна. Аўтар жа, відаць, недачуўшы, запісаў ад суразмоўніка гэта прыслоўе з памылкай — негадкі, вынес у загаловак (№ 29), надзяліў паметай “выслоўе” і прыдумаў два значэнні: 1) пад'еў, што сыты і гатовы ісці, ехаць ці добра працаваць; 2) апрануўся так, што гатовы хоць на Поўнач ісці (калі халоднае надвор'е).

Паметай “выслоўе” пазначаны аж 26 выказванняў, “што трапілі ў вуха”. Амаль усе яны — з клічнікам на канцы: “15. Ладненькага ўзяў! Высл. Поспех, добры выпадак. — А я сягоння ладненькага ўзяў! Воз грыбоў прывёз!” Або: “32. Ніхто нічога такога! Высл. Адкуль нам вядома? Нявядома адкуль такое! — Так, яно тое даўно было, у нас у вёсцы ніхто нічога такога і расказаць не мог”.

Гэтым неакрэсленым і расплывістым тэрмінам “выслоўе” прыкрываюцца дзесяткі сказаў, у якіх днём з агнём не знойдзеш нічога афарыстычнага, і звычайныя дзеясловы ў загадным ладзе (“Каўтані!”, “Пагуляй!”, “Цякай!”), і нават слова “бач ”, якое як форма загаднага ладу ад дзеяслова “бачыць” падаецца ў “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” (т.1, с. 352) з двума значэннямі і адным адценнем.

Дарэчы, “Маладосць” змясціла артыкул І. Осіпава пад рубрыкай “Займальнае мовазнаўства”. Але якое ж тут “мовазнаўства” і што ж тут “займальнага”?! Думаецца, лагічна было б гэтае спалучэнне ўзяць у двукоссе як выдзяляльна-ацэначны знак для напамінку, што тут кожнае слова пасобку ўжыта не ў сваім звычайным значэнні, а ў іранічным сэнсе…

Іван ЛЕПЕШАЎ,
прафесар ГрДУ
імя Янкі Купалы

№ 28 16 ліпеня 2010 г. ЛіМ

## Абмеркаванне

Маё асабістае знаёмства з творчасцю Маргарыты Прохар пачалося з "Набліжэння". Менавіта такую назву атрымала кніга пісьменніцы, якая выйшла ў 2003 годзе.

Буду шчырай... Вялікага захаплення ад прозы маладой пісьменніцы я не атрымала. Фактычна ўсе гісторыі падаліся празмерна сентыментальнымі, многія — больш за тое! — недарэчна-слязлівымі. Сюжэты выглядалі размытымі, героі... нават не рамантычнымі, а хутчэй блазнаватымі. Яны бясконца філасофствавалі вакол банальнага і шараговага, бясконца пакутавалі ад няспраўджанага кахання, спаткання, расстання... Ды яшчэ ўся гэтая, набіўшая аскоміну, прыродная атрыбутыка... — штамп на штампе! Калі "неба", то абавязкова "падобнае да жытнёвых васількоў", калі "жаўранак", дык, вядома ж, "ранішні" і "над вясновым полем", калі "сосны", то няйнакш як "гонкія", а асенняе "лісце", безумоўна, "залатое"... Большасць твораў з той кніжкі нагадвала сачыненні школьніцы-выдатніцы, якая добрасумленна вывучыла паэтыку класічнай літаратуры і ўзяла на ўзбраенне выяўленчыя сродкі папярэднікаў.

Пазней мне даводзілася чытаць творы Маргарыты Прохар у літаратурна-мастацкіх часопісах. Кожны раз, зразумела, уражанні былі адрознымі, але асноўныя мае "прэтэнзіі", якія выклікала колішняе знаёмства, заставаліся.

І вось у "Маладосці" (№ 3, 2010) надрукавана новая аповесць Маргарыты Прохар пад назвай "Восень у Вільнюсе"...

Л. А.

# Аповесць Маргарыты Прохар «Восень у Вільнюсе»



Вартасці

Пра такія рэчы звычайна кажуць, "захапіла з першай старонкі". На самай справе, літаральна некалькі абзацаў тэксту выклікалі хваляванне, якое заўжды ўзнікае, калі прадчуваеш, што цябе чакае неардынарная гісторыя. Нават прагартала наперад, каб высветліць "аб'ём" твора... Усяго 27 старонак. Шкада, што так мала. Ну, ды гэта нічога. Уражанне ад невялікага тэксту бывае, як вядома, больш яркім, чым ад якога-небудзь "эпічнага палатна".

Што "захапіла"? Найперш элегічная танальнасць аповеда, іранічна-інтрыгоўная "візітоўка" гераіні: "Такім чынам, — аб сабе, пра тое, чым жа я займаюся. Праўда, мая прафесія не меркавала ніякай рамантыкі, пакуль не з'явіўся хтосьці, хто ўбачыў у ёй свой сэнс. Наогул, я займаюся тым, што знаходжу згубленыя рэчы, згубленых котак і сабак. Гэта значыць, шукаю ўсё, што губляюць людзі. А губляюць яны бясконца. <...> Такая ў мяне праца. Часам — сумная, часам — смешная, часам шмат чаму вучыць мяне: бачыць дробязі, рабіць высновы са скупых фактаў і чужых слоў. І калі дарогу перабяжыць чорны кот, я, мусіць, буду адзіным чалавекам, хто ў гэты момант падумае: а можа, ён згубіўся?" Дый зачын аповесці, які падаўся амаль дэтэктыўным, гэтаксама захапіў. Ну, паглядзіце, хіба ж не дэтэктыўнай выглядае такая сітуацыя...

Да нашай самотнай гераіні прыходзіць незвычайны наведвальнік, які даручае ёй паехаць у Вільнюс і расшукаць "па фотаздымку" дзяўчыну. Расшукаць з адзінай мэтай — перадаць "зялёны нататнік". Асоба наведвальніка — зусім натуральна ідэнтыфікуецца з вобразам якога-небудзь алігарха з "крымінальным мінулым": "...Дзелавы чалавек, забяспечаны, калі меркаваць па адзенні і — больш — па спакойным уладным поглядзе. <...> Але, калі я глядзела на яго, у мяне ўзнікла падазрэнне, што ён не адчуваў сувязі паміж сваім абліччам і сабой унутраным. Гэта дзіўнае пачуццё". Ды яшчэ на замоўленую справу ён выдаткоўвае "стос грошай, якога хапіла б на паўгадавы адпачынак у Іспаніі, не тое што ў Вільнюсе". А як толькі наведвальнік адчуў, што можа атрымаць адмову, пачынае імгненна мімікрыраваць: "Ён паглядзеў на мяне — ацэньваючы, халадна. Цяпер гэта быў позірк толькі дзелавога чалавека. Кракадзіла, якому на зуб патрапіла мошка". Зразумела, гераіня прыняла "заказ".

Асабліва ж цікавасць узмацняецца тым, што ў самой гераіні, як дазваляе зразумець аўтар, з Вільнюсам звязаны нейкія балючыя ўспаміны, асабістая гісторыя. Трэба заўважыць, што Маргарыта Прохар выключна дакладна перадала, як дзяўчына перадольвае сябе, якія пачуцці перажывае, калі сыходзіць з цягніка і ступае ў горад... Быццам з вышкі збіраецца скочыць: "Мусіць, гэтымі думкамі я імкнулася ўцячы ад таго, што можа зараз адбыцца ў маёй уласнай памяці, калі я ўбачу — так, зноў убачу гэты горад... На імгненне я заплюшчыла вочы, рыхтуючыся да гэтай сустрэчы. Цікава, што змянілася тут за гэтыя некалькі гадоў? І ці гатовая я ўбачыць гэтыя змены? Секунда, другая, трэцяя... Што ж, як у дзяцінстве — на лік тры. І я адкрыла вочы".

Карацей кажучы, першыя старонкі твора проста паланілі. Дый вобразнасць падалася — не ў прыклад ранейшым творам — адмысловай, арыгінальнай, вытанчанай. Кранулі "купкі жоўтага лісця", што "былі падобныя да помнікаў восені", кранула сама восень, якая "спала, накрыўшыся лісцем, і, відаць, ёй было халаднавата, таму яна яшчэ і яшчэ накрывала сябе лісцем"... Але менавіта парай першых старонак мае станоўчыя ўражанні і абмежаваліся. Тут пачаліся, тут і скончыліся...

Недахопы

Па меры чытання, па меры таго, як павялічвалася расчараванне, я міжволі шукала тыя словы, якімі змагу ахарактарызаваць пафас твора, яго апавядальную танальнасць. Спачатку пераконвала сябе, што аповесць можна назваць "элегічнай", "філасофскай", "рэфлексіўнай"... Пазней, што... "медытатыўнай"... Яшчэ пазней, што — "псіхадэлічнай". А ўрэшце прыйшла да высновы, што найбольш адэкватнымі вызначэннямі тут будуць "банальная" і "занудная".

На вялікім рахунку, увесь сюжэт твора — гэта пошук той загадкавай дзяўчыны з фотаздымка, блуканні па горадзе. Вуліцы, двары, будынкі... І паралельна гераіня згадвае сваё асабістае нядаўняе мінулае. Тыя ж вуліцы і двары, тыя ж будынкі з'яўляліся гэтаксама дэкарацыямі гісторыі яе кахання. Яна сама вызначае ўласныя дзеянні так: "Я шукаю чужое каханне, а ўспамінаю сваё". Лепш не скажаш.

Усе ў аповесці няшчасныя. Усе самотныя. Усе кахаюць тых, хто кахае іншых...

А тая "загадкавая дзяўчына", дарэчы, знаходзіцца... Дакладней, яна і не гублялася... Проста яна "дэградавала", стала наркаманкай. Верагодна, ад непадзеленага кахання. Ну, а "дзелавы чалавек", які даручыў нашай гераіні "знайсці" яе, меў на мэце зусім іншае... Ён (як гэта кранальна!) хацеў перажыць хвіліны былога шчасця: "Няўжо вы думаеце, што я наняў бы вас, калі б мне сапраўды трэба было знайсці яе? Я наняў бы кучу дэтэктываў, я перавярнуў бы ўсё. Прычына ў іншым: я ўбачыў вас, вы вельмі падобныя да яе вонкава. І я хацеў, каб вы прайшлі яе мясцінамі ў гэтым горадзе, быццам яна — гэта вы. І яшчэ: мне здалося, што вы таксама кагосьці страцілі ў гэтым горадзе. <...> Я ішоў за вамі ўвесь гэты час. <...> Вы падобныя вонкава. Я глядзеў, куды яна кацілася. Я сам вырак сябе на пакуты. Як я жадаў вярнуцца ў той час, калі мы былі маладыя і ўсё толькі пачыналася! І тады я прыдумаў усё гэта. Таму я вас і наняў — прайсці замест яе і яе маладосці гэтымі вуліцамі..." Як па мне, у паводзінах персанажа ёсць, мякка кажучы, штосьці непрыстойнае... Ці не гэткую ж мэту пераследуюць аматары стрыптызу? Паглядзець на чыёсьці "распрананне" і ўявіць... сваё, сябе побач з некім... Атрымаць, так бы мовіць, задавальненне, асалоду...

Асабліва ўразіла, што пасля гэтых спавядальных маналогаў-дыялогаў "работадаўцы" і "дзяўчыны-вышукоўніцы", яны едуць у "невядомы рэстаранчык", з якім ні ў аднаго з іх не звязана ніякіх "успамінаў"... (Ну, каб не вярэдзіць свае спакутаваныя душы). Закусілі. Дзяўчына атрымала ганарар за прарobленую працу. А пасля "кампаньёны" пагадзіліся, што каб адрабіцца ад душэўных мітрэнгаў, трэба пазбягаць наведвання Вільнюса, варта ездзіць адпачываць у... Афрыку. "Да сустрэчы вечнай вясной у Тунісе"... Такой была развітальная фраза шматпакутнага закаханага.

Асобна хачу сказаць пра стыль аповесці Маргарыты Прохар, пра мастацкую мову аўтара. У пачатку твора гераіня-апавядальніца прамаўляе: "Гарады і гісторыі... гісторыі і гарады... гісторыі гарадоў у гісторыі майго жыцця, гісторыі людзей і мая гісторыя ў гісторыі гарадоў. Вось як я магу заблытаць, па сутнасці, пустымі словамі, гульнёй гэтых слоў. Можа, я раблю гэта таму, што мне цяжка пачаць свой аповед. Я губляюся перад гэтым белым аркушам паперы, на якім мне трэба вывесці такія словы, як каханне, надзея, сустрэча, адчай, жыццё і смерць. І для пачатку выводжу што працэй. Проста Восень у Вільнюсе..."

Вы думаеце, пісьменніца гэта... "не ўсурёз"?... Што гэта — "мастацкі прыём"? Памыляецеся. Змест, дакладней, лексіка твора, цалкам адпавядае "папярэдняму". Прывяду своеасаблівую статыстыку... Толькі ўдакладню, што не ўсе з ключавых слоў ("каханне, надзея, сустрэча, адчай, жыццё і смерць") адпавядаюць "заяўленым". Так, "каханне", на самай справе, на 27 старонках тэксту сустракаецца каля 40 разоў, "жыццё" — гэтаксама... А вось што тычыцца іншых — тут ёсць разыходжанні з "сапраўднасцю". Дамінуюць у тэксце наступныя "лексемы". Напрыклад, слова "нататнік" мне трапілася каля 30 разоў, "лісце" (і вытворныя ад яго) — значна больш за 30, "вуліцы" — каля 40, "шчасце" — больш за 40, "горад" — больш за 50, а "восень" — больш за 100... Што тычыцца "Вільнюса" — палічыце самі, як будзеце чытаць аповесць... А яшчэ, шаноўныя сябры, можаце звярнуць увагу на колькасць ужывання прыметніка "рознакаляровы". У аповесці вас чакаюць: "рознакаляровая столь", "рознакаляровыя сцены", "рознакаляровыя блікі", а таксама "рознакаляровыя водбліскі на сценах"... Апроч таго, "рознакаляровыя дамы", "рознакаляровае каменне" і "рознакаляровыя яркія малюначкі"... Не, яшчэ не ўсё. Яшчэ — "рознакаляровыя аблокі"... Ну, а калі будзеце чытаць вельмі уважліва, вы яшчэ заўважыце штосьці "рознакаляровае". Абяцаю... Як будзе жаданне, можаце падлічыць "двары" і "панадворкі", "пачуцці" і "адчуванні", "тралейбусы" і "дахі"...

Нямала здзівілі мяне гэтаксама значэнні ўжытку некаторых слоў. Напрыклад, "абярнуцца". Заўжды лічыла, што гэтае слова азначае "ператварыцца" (у сэнсе — змяніць выгляд, форму). Не. Маргарыта Прохар настойліва выкарыстоўвае яго ў значэнні "азірнуцца" альбо "агледзецца". Неаднойчы. Разы тры, як мінімум. Хаця, верагодна, гэтую "прэтэнзію" варта было б адрасаваць не столькі аўтару, колькі рэдактарам. І такой "драбнаты" ў творы нямала.

...Разумею, што мой водгук на аповесць Маргарыты Прохар атрымаўся даволі раздражнёным. Што ж, магу патлумачыць з якім адчуваннем перагарнула апошнюю старонку твора. З палёгкай. Вядома, што ў часы інквізіцыі адным з самых вытанчаных катаванняў было раўнамернае капанне вады на галаву... Вось і ў мяне ў час чытання (ад гэтых бясконцых "восень-Вільнюс-лісце-вуліцы-шчасце-каханне") узнікла адчуванне, што кожнае слова падае мне на галаву чарговай "кропляй"... А гэта, натуральна, ніяк не схіляла ні да ўраўнаважанай памяркоўнасці, ні да спакойнай лагоднасці. Такая вось справа...

Лада АЛЕЙНІК



Вартасці

Аповесць Маргарыты Прохар "Восень у Вільнюсе" — прыклад лірычнай прозы. Гэтая плынь у беларускім эпічным слаі некалі займала адно з самых ганаровых месцаў. Лірычная плынь, па словах класікаў эстэтыкі, выпраменьваецца творцам праз выяўленне суб'ектыўнай, унутранай сутнасці чалавечае прыроды, дзе неаформленае быццё кандэнсуецца ў творы з неаформленага асобаснага светаадчування. Працей кажучы, лірызм узнікае пры суб'ектывізацыі пачуцця і адлюстравання. Проза, паводле азначэння, мусіць імкнуцца да аб'ектывізацыі суб'ектыўнага. Так утвараецца сінтэтычная плынь у літаратуры. У яе шмат прыхільнікаў. Сярод беларускіх празаікаў дастаткова "лірыкаў". Трэба сказаць, што традыцыі беларускай прозы наогул характэрны "лірызм", але ён вельмі розны, зразумела. Нельга не суадносіць "лірызм" і "сугестыю" ў прозе, аднак кожнаму зразумела, што Гарэцкі і Бядуля, Пташнікаў і Брыль, Стральцоў і Чорны маюць розныя ступені праяўлення эмоцыі (і будучым філолагам-статыстыкам яшчэ давядзецца разбірацца ў гэтых "ступенях"). Так і з творам М. Прохар. Лірызм тут з'яўляецца фундаментам твора, яго асновай, на якой грунтуецца сюжэт. Гэта прадвызначае пэўную неаформленасць і плыткасць адлюстравання і разгортвання сюжэта. Новае ў М. Прохар тое, што на грунце лірызму вырошчваецца дэтэктыўная сюжэтыка, а чарговыя мічурынскія эксперыменты заўсёды цікава чытаць. Як мінімум, цікава. Своеасаблівы флёр надае твору і яго "віленскасць". Віленскі міф лунае па-над нашым пісьменствам ужо шмат гадоў, але ж кожны ведае, што гэтая сталіца — нязбытная мара, і таму Вільня ў літаратуры вырачана на матывы вечнага вяртання, рэтраспектыўнай тугі. Медытатыўная танальнасць аповесці, яе музычнасць, няспешная хада мне блізкія, тое займела водгук у маім цынічна-крытычным сэрцы. Дзя-

куй за гэта. Бо, вядома ж, — "музыкі перадусім!". Дзякуючы гэтай музыцы, твор — несумятлівы: і герояў жа зусім мала, змяняюцца толькі карціны і псіхалагічныя станы — як клавішы піяніна.

Недахопы

Асноўным недахопам твора лічу ягоную рыхласць і непрапарцыянальнасць. Для гармоніі ў прозе (асабліва лірычнай, дзе вага суб'ектыўнага пераважае і трэба "трымаць сябе за руку") неабходна вытрымліваць "залатое сячэнне" і захоўваць прапорцыі ў сегментах-часцінках, якія фармуюць твор. Так, уведзены ў аповед дзённік героя, пакліканы, па сутнасці, быць другарадным чыннікам, займае большую частку аповесці, і праз гэта ўсе астатнія калізіі апынаюцца малапатрэбнымі дадаткамі да вышэйпамянёнага дзённіка. Менавіта "дзякуючы" гэтаму дзённіку (а дакладней яго аб'ёму і непрапарцыянальнасці) атрымаўся "змазаным" фінал твора М. Прохар. Нельга не сказаць, што і сам фінал уяўляецца даволі слабым і месцамі непрадуманым. Прынамсі, ён не стаў ні кропкай, ні шматкроп'ем — пэўнасць твора завагалася, і аповесць "на паверку" зрабілася наіўна-сентыментальным і нават крыху "слязлівым" волевыяўленнем празаіка.

Напружвае і аднатоннасць аповесці М. Прохар, якая паступова пераходзіць у манатоннасць. Гэта частая практыка ў сённяшніх празаікаў і, бадай што, найстарэйшы пралік. Захоплены нарацыяй, аўтар забывае пераключаць планы аповеда і падпарадкоўвае і апісанне, і простую мову розных персанажаў аднаму рытму, адной загадзя вызначанай аўтарскай устаноўцы. Такім чынам, не робіцца размежаванне ў героях і атрымліваем аўтарскі маналог. Так, да пэўнай ступені тут, у аповесці "Восень у Вільнюсе", гэта апраўдана, але ў сукупнасці з іншымі негатыўнымі чыннікамі "дапамагае" скінуць твор з п'едэстала эстэтычна ўзорных твораў.

Зрэшты, гэта ўсё адно не змяняе маёй асабістай пазітыўна-станоўчай ацэнкі твора, пра што я крыху пісаў і раней, у аглядзе сакавіцкай літаратурнай перыёдыкі ("Літаратура і мастацтва", № 17, 2010).

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



Горад як тэрапія

Аповесць Маргарыты Прохар "Восень у Вільнюсе", мабыць, адзін з самых займальных мастацкіх твораў, што трапіліся мне за апошні час. Хоць назва яго, як бачым, не кідкая, не рэкламная, а надзвычай традыцыйная, — абазначэнне часу і месца дзеяння, банальны хранатоп.

Асноўная інтрыга аповесці — у яе жанравым вызначэнні. Твор пачынаецца як звыклы ўжо сённяшні жаночы дэтэктыў. Галоўная гераіня займаецца пошукам згубленых жывёл, але аднойчы атрымлівае нечаканую замову знайсці чалавека. Яна прыязджае ў Вільнюс, горад, з якім у яе звязана шмат асабістых успамінаў. І тут ужо чытачу здаецца, быццам яму трапіла ў рукі добрая, даўно чаканая, у духу пранікнёных лірыкаў Івана Навуменкі і Міхася Стральцова, сентыментальная аповесць. Тактоўны аналіз тонкіх пачуццяў гераіні ўмела пераплецены з успамінамі з нататніка яе работадаўцы. Пачынаецца неверагоднае падарожжа ў двух вымярэннях — у прасторы і ў часе. А чароўны і загадкавы восеньскі Вільнюс выходзіць на першы план. Часам здаецца, што сам горад тут галоўны герой, а людзі ў ім — статысты… Міжволі ўзгадваюцца шматлікія скаргі нашых чытачоў, пісьменнікаў, крытыкаў (і мая асабістая незадаволенасць таксама) адносна тэматычнай аднабаковасці нашай літаратуры: вясковая, што працягвае традыцыі класікі, — на вышыні, а гарадская — і нешматлікая, і не заўсёды прывабная. А тут — чытаеш, і хочацца ў восень і ў Вільнюс. І марыш аб тым, каб хто-небудзь напісаў падобны твор пра Мінск (у любую пару года).

Галоўная гераіня-дэтэктыў наведвае ўсе тыя месцы, дзе некалі, шмат гадоў таму, бывала каханая дзяўчына загадкавага работадаўцы. Але з многімі ціхімі вулачкамі, утульнымі плошчамі, мілымі кавярнямі звязаныя і яе асабістыя ўспаміны. І дыялогі паміж персанажамі, і іх развагі, і пэўныя эпізоды падштурхоўваюць чытача да думкі, што на самай справе перад ім твор філасофска-псіхалагічны. Твор пра тое, што ўсё, як гаварыў цар Саламон, сыходзіць, але адначасова — не сыходзіць нішто, бо чалавек надзелены памяццю.

Дарэчы, на гэтым самым месцы трэба крыху прыпыніцца, каб звярнуць увагу на пэўнае ўпушчэнне аўтара. Справа ў тым, што дэтэктыўны пачатак недзе на сярэдзіне твора канчаткова забываецца. Ён сыходзіць у нябыт. А шкада! Можа быць, не лішнім было б пакінуць элемент нервовага напружання? Хочацца эпізодаў, калі гераіні пачынае час ад часу здавацца, быццам нехта сочыць за ёй… Нябачны назірае… Чуюцца крокі за спінаю, а азірнешся — нікога… Гэтая акалічнасць добра ўпісалася б у сюжэт. Той, хто ўжо паспеў прачытаць твор, зразумее, пра што я. Хто пакуль не прачытаў – зразумее з наступных абзацаў майго маленькага водгуку.

Аповесць падыходзіць да развязкі. Гераіня адшукала былую каханую свайго работадаўцы. Але не ў тым была яе місія. Дзяўчына змянілася за гады непапраўна, і не ў лепшы бок. І размова гераіні з ёй імгненна змяняе ўвесь мастацкі свет твора. Не разбурае — змяняе! Нязменнай застаецца каштоўнасць памяці і магчымасць перажыць лепшыя хвіліны мінулага. Але розныя людзі адшукваюць для гэтага розныя сродкі. Аднаму хапае простага глытка восеньскага паветра ў Вільнюсе, а іншаму не дапамагае і наркотык.

Адбываецца і апошняя размова галоўнай гераіні з яе работадаўцам, якая канчаткова ставіць усё на свае месцы. Аказваецца, увесь гэты час ён назіраў за ёй. Вось чаму я пісала пра крокі за спінаю і іншыя дэтэктыўныя прыёмы. Усё гэта, на самай справе, мела месца. За нашай гераіняй сапраўды назіралі!

І тут здараецца чарговы жанравы казус. Мы разумеем, што перад намі твор з вельмі выразнай доляй псіхааналізу.

Загадкавы работадаўца, жадаючы канчаткова развітацца са сваім даўнім і безнадзейным каханнем, знаходзіць магчымасць яшчэ раз перажыць сваю Восень у Вільнюсе. Толькі на гэты раз не як удзельнік падзей, а як назіральнік збоку. Галоўную гераіню твора ён выбраў з-за яе знешняга падабенства са сваёй былой каханай. Назіраючы за тым, як яна наведвае пэўныя мясціны, ён жадае перажыць свайго роду катарсіс, пазбавіцца ад мінулага, ад балючых успамінаў. Зыходзячы з канцоўкі твора, яму гэта ўдаецца. На развітанне работадаўца запрашае гераіню ў новы рэстаран, якога не існавала ў часы яго Восені ў Вільнюсе.

І, канечне, асабліва трэба адзначыць выключную эстэтыку твора. Чытаеш — і верыш у гаючую сілу маляўнічых гарадскіх краявідаў…

Марыя ШАМЯКІНА



Скептыкі (дарэчы, літаратурны скептык — унікальная з'ява, якая існуе толькі ў нашай літаратуры) часта тлумачаць непаўнавартаснасць беларускага літаратурнага працэсу тым, што не стае ў ім белетрыстыкі, бо, маўляў, без масавай культуры, няма і элітарнай. Магчыма, ёсць у гэтым рацыя. І часам прыходжу да думкі, што калі б існавала тая самая беларускамоўная шырокая чытацкая маса, то і многія творы сучасных пісьменнікаў былі б ацэненыя па-іншаму — як якаснае, альбо не вельмі якаснае, лёгкае чытво. Але ж пакуль выглядае, што ўсё, напісанае па-беларуску, элітарнае па змоўчанні.

Як узор сентыментальнай прозы для адпачынку я ўсім скептыкам падклала б у пляжную торбу часопіс "Маладосць" з закладкай на аповесці Маргарыты Прохар "Восень у Вільнюсе".

Абсалютна не хачу скрыўдзіць аўтара, павесіўшы на яе твор нейкі сумнеўны цэйтлік, бо ў сусветнай літаратуры вядома шмат прыкладаў, калі лёгкія іранічныя альбо сентыментальныя жаночыя раманы валодалі такой ненавязлівай жыццёвай праўдай, што станавіліся класікай. У аповесці Маргарыты Прохар ёсць многае, што трэба для добрай жаночай прозы — паветраны і інтэлігентны стыль, лірычная гісторыя кахання, жыццесцвярджальнасць з лёгкім прысмакам самоты — і гэта закалыхвае, заварожвае. Але раптам прастора аповеда скажаецца, і ў яе прарываецца нейкі жудасны кампанент бульварнага чытва, умоўна назавём яго "чырвоны закат". Перасоленыя (безумоўна, слязьмі) эмоцыі, скрыўленыя нейкім серыяльным пафасам твары галоўных герояў, штучныя сітуацыі і перабольшаная сентыментальнасць, якая не расчульвае, а выклікае альбо няёмкасць, альбо злараднасць. У галаву прыходзіць цытата з Пялевіна: "Так бывае толькі ў кепскіх раманах і ў жыцці". Пратрэш вочы, пераскочыш на іншы радок — і, здаецца, "чырвоны закат" рассмактаўся, зноў аблокі на восеньскім небе над Вільнюсам, і аповед вяртаецца ў спакойную настальгічную плынь. Вось на такіх перападах напружання і палягаюць мае размежаванні вартасцей і недахопаў.

Вартасці

Захапляльны дэтэктыўны пачатак гісторыі з першых старонак прымушае галоўную гераіню, а разам з ёй і чытача, выпраўляцца ў Вільнюс.

Вядома ж, важна не толькі закруціць сюжэт, але і не расчараваць чытача ў развязцы. Думаю, аўтару гэта ўдалося. Гэтае знешняе сюжэтнае кола (у адрозненне ад унутранага — уласна самой гісторыі кахання, якая падалася досыць банальнай і будзённай) счэплівае ўвесь аповед. Таму мне падалася цікавай ідэя, што каб расстацца са сваімі ўспамінамі, якія душаць многія гады, герою спатрэбіўся такі сімвалічны акт — распавесці сваю гісторыю ад пачатку і да канца ў апошні раз. Гэта як рытуальная цыгарэта перад тым, як назаўжды кінуць паліць. І асобны дзякуй аўтару за фінал, дзе насуперак усім маім засцярогам, гераіня і яе працадаўца не зліваюцца ў шчаслівым пацалунку, а разыходзяцца ў розныя бакі, адпусціўшы сваё мінулае.

Што для нас успаміны? Гэта похапак асацыяцый, месцаў, дэталяў, якія назаўжды і беспаваротна звязаныя з пэўнымі людзьмі. Настальгічны настрой аповесці вельмі ўдала насычаны скразнымі асацыяцыямі, простымі метафарычнымі перакліканнямі, паўторамі, якія, нібы ў грудзе лістоты, прыхаваныя па ўсім тэксце (ну, напрыклад, галоўны герой шмат разоў параўноўвае сваю каханую з птушкай, якая любіць усё пярэстае, акрамя таго, яна – гэта сама восень, а восень "спіць пад лісцем, як пад пярэстым покрывам" – нізку такіх сэнсавых рэфрэнаў можна доўжыць).

Аповед перамяжаецца простымі і сімпатычнымі лірычнымі развагамі, якія здольныя выклікаць у чытача той самы ўкол пазнавання, уласцівы для добрай прозы.

Недахопы

Галоўны недахоп аповесці, на маю думку, — гэта яе героі, яны бляклыя, невыразныя. Часам бачна, што аўтар імкнецца падфарбаваць іх, дадаючы нейкія незвычайныя асаблівасці характараў, ды толькі гэтыя дэталі выглядаюць не зусім натуральна. Напрыклад, навошта на самым пачатку доўга распавядаецца, што галоўная гераіня працуе ў дзіўным месцы кшталту бюро знаходак, куды прыносяць не толькі згубленыя рэчы, але яшчэ котак і сабак? Відаць, толькі каб арыгінальна перайсці да таго, што цяпер гераіні прыйдзецца шукаць чалавека.

Больш за ўсё нейкіх жывых уласцівасцей у вобразе Эстэль — яна працуе танцоркай у начных клубах, набывае ў кнігарнях толькі паштоўкі, павярхоўная, рэзкаватая, крыху вульгарная — і няхай бы такой і заставалася ў нашай памяці. Але не, у канцы мы бачым яе ў вобразе старой Ізергіль, яна адна ў бары праводзіць свой дзень нараджэння (задуменна скручваючы касяк з траўкай), глядзіць удалячынь і горка філасофствуе пра сваё няўдалае жыццё. Тое ж і з загадкавым працадаўцам, які ў пачатку аповесці суха і безапеляцыйна аддае загады, і тут жа, расчуліўшыся, не па-мужчынску сентыментальна распавядае пра сваю каханую: "Яна — як птушка…". А радаснаму прадаўцу шчасця — гэта такі добры чараўнік, які гандлюе шчаслівымі шарамі на вуліцы — мне ўвогуле, прызнаюся, карцела зларадна пратыкнуць іголкай увесь тавар. Увогуле кожны персанаж твора абавязкова хоць раз азараецца тым самым "чырвоным закатам" з таннай меладрамы і прамаўляе драматычны маналог, азірнуўшыся ў залу.

Назва аповесці кажа пра наяўнасць яшчэ двух галоўных герояў — восені і Вільнюса. Вобраз восені раскрыты больш, чым поўна — часам здаецца, што лісце захрасае ўжо і ў вушах, і ў роце, і за каўнерам, а лістапад усё мяце і мяце. Колькасць варыяцый на восеньскую тэму, удалых і пустаслоўных, уражвае. А вось з горадам не зусім зразумела — чаму менавіта Вільнюс? Для многіх беларусаў гэта знакавы горад, у які едуць на спатканне са страчанай нацыянальнай гісторыяй. Зразумела, ад аповесці пра каханне не патрабуецца, каб героі хадзілі дарогамі Скарыны, сустракаліся са славутымі нашаніўцамі альбо назіралі падзеі катавання Кастуся Каліноўскага — пра гэтую, беларускую Вільню, як вядома, пісаліся іншыя кнігі. І хоць у творы прысутнічаюць апісанні канкрэтных віленскіх мясцін, усё адно здаецца, што можна лёгка памяняць Вільнюс на Талін, Рыгу альбо на іншы еўрапейскі горад. Ёсць адчуванне, што літоўская сталіца адлюстраваная вачамі не надта абазнанага турыста, які дае ў прыватнасці такія неабачлівыя ацэнкі: "Стары горад — кавалак пражскага пірага, маленькая Прага". Гэта, на маю думку, робіць аповесць больш легкаважкай, чым яна магла бы быць.

Саша ДОРСКАЯ

P. S. Ізноў хачу нагадаць, што аўтар мае магчымасць выказаць сваю нязгоду з нашымі меркаваннямі. Допіс ,зразумела, будзе надрукаваны.

Л.А.

Меркаванне

# Філасофія паэзіі

Зусім нядаўна зацікаўленая беларуская публіка адзначала 90-годдзе з дня нараджэння нашага вядомага паэта Аляксея Пысіна. Даволі сціпла, трэба сказаць. Яшчэ больш незаўважнай рызыкавала стаць кніга Т. П. Хоміч "Мастацкая канцэпцыя чалавека і свету ў лірыцы Аляксея Пысіна". Ціхая падзея, "рарытэтная" кніга, якая тым не менш заслугоўвае большай пашаны.

Творца Аляксей Пысін — таксама не з "гучных" літаратурных імёнаў. Штампы крытыкі накшталт "яго паэзія роўная прозе Быкава" па сутнасці нічога істотнага ў разуменне лірыкі Пысіна не дадаюць. Даўнішнія артыкулы і рэцэнзіі, а таксама манаграфія (месцамі неблагая, якая выйшла яшчэ пры жыцці паэта) Л. Гарэлік добра падзабытыя чытачом. Але, на жаль, і кнізе Т. Хоміч, па ўсім відаць, давядзецца быць госцей далёка не кожнай бібліятэкі. Адпаведна, прачытае яе не так шмат людзей. Зрэшты, гэта сённяшні вырак амаль усіх літаратуразнаўчых кніг. Манаграфія складаецца з трох раздзелаў: "Народна-этычная аснова быцця чалавека і эстэтычныя ідэалы ў паэзіі Аляксея Пысіна", "Мастацкая інтэрпрэтацыя Аляксеем Пысіным ідэі несмяротнасці", "Часава-прасторавыя каардынаты лірыкі Аляксея Пысіна".

Пра літаратуразнаўства як навуку тут, бясспрэчна, трэба гаварыць. Аднак у той жа час, гэтая кніга напісана зусім не ў тым ключы і стылі, які адразу згадваецца пры слове "літаратуразнаўства". Бо аўтарка пайшла па няпростым шляху адлюстравання таго, што хацеў сказаць Пысін пра чалавека і пра свет, як ён іх разумеў, пра што ён гаварыў найбольш настойліва. Такім чынам, аб'ектам даследавання тут з'яўляецца, па сутнасці, мастацкі светапогляд паэта.

Кожнаму вядома, што, адштурхоўваючыся ад паэтыкі, даследчык уваходзіць у сферу небяспечную, бо тут, маючы хоць кроплю свядумства, можна "прышпіліць" да паэта якія заўгодна крылы і медалі, якія заўгодна метафары і паралелі. І гэта, зразумела, будзе ўжо не літаратурнай навукай, але літаратурнай крытыкай. Апошняя — рэч патрэбная і добрая, аднак дыпломаў кандыдатаў навук за крытычныя заслугі не даюць. Праца Т. Хоміч не ідзе за класічнай паэтыкай. Яна знаходзіцца на памежжы літаратуразнаўства і культуралогіі, закранае пытанні псіхалогіі мастацкай творчасці, апелюе да канстантаў народнага мыслення, аналізуе праблемы этычныя і эстэтычныя, што па-мастацку разглядаліся паэтам у лепшых узорах лірыкі (пераважна, позняй). На мой погляд, гэтая невялікая манаграфія дае прыклад "філасофскага літаратуразнаўства". Нягледзячы на тое, што піша Т. Хоміч навуковай метамовай, месцамі рацыяналізаванай, праз разгляд катэгорый "жыццё / смерць", "вечнасць", "неўміручасць" (што ўжо камунікуе з кагнітыўным падыходам) атрымліваецца падаць мастацкі светапогляд даволі цэласна. Зноў жа, хочацца падкрэсліць, ідучы як быццам наўзбоч навуковага пазітывізму, імкнучыся асэнсаваць этычнае і эстэтычнае крэда А. Пысіна, яго аўтарскую антрапалогію, Т. Хоміч у той жа час не робіць і кроку, каб не спаслацца на самога паэта. Што, зразумела, мінімізуе суб'ектыўны пачатак і прыводзіць да аб'ектыўнай аналітычнасці.

Праца над невялікай кнігай у сто старонак вялася аўтарам, калі я не памыляюся, каля 10 гадоў. Даследаванне вытрыманае, не скараспелае, і гэта адразу адчуваецца. І, нарэшце, яно мае адзнаку, якая дазваляе беспамылкова назваць аўтара таленавітым — нясумна чытаць. Нездарма казаў адзін вялікі француз, "вучоны не мае права выдаваць свае кнігі, калі ён не валодае стылем". Т. Хоміч такое права, бясспрэчна, мае і спадзёмся, што не раз яшчэ ім скарыстаецца.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

№ 28 16 ліпеня 2010 г. ЛіМ

15 ліпеня беларускае грамадства святкавала дзень вайсковай славы, дзень народнай мужнасці і моцы — 600-я ўгодкі Грунвальдскай бітвы, у якой аб’яднаныя арміі Вялікага княства Літоўскага і Польскай Кароны разграмілі войскі Тэўтонскага ордэна. Шмат у чым дзякуючы менавіта гэтай перамозе было перапыненае трыумфальнае шэсце рыцараў-крыжакоў на ўсход. Вялікі Князь Вітаўт і кароль Уладыслаў Ягайла ўвайшлі ў гісторыю. Вайна з крыжакамі, асобы князёў-ваяводаў сталіся матэрыялам для многіх фальклорных паданняў, гістарычных хронік, а таксама твораў мастацкай літаратуры: ад Яна Вісліцкага і Міколы Гусоўскага да Леаніда Дайнекі і Кастуся Тарасава. Штотыднёвік “ЛіМ” прадстаўляе дзве новыя паэмы, прысвечаныя слаўнай перамозе беларусаў пад Грунвальдам.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Алесь ЧОБАТ

## Грунвальд

### 1. Пралог

Вось каля мора ціхая краіна —
і ціхая вайна Еўропы рымскай
з апошнімі Еўропы дзікунамі,
альбо схізматамі… Вайна ідзе, як мора,
гадоў сто пяцьдзесят — і праглынула
да Коўна белы Нёман, і палякам
па Торунь адкусіла Віслу, хоць над Віслай
спакон вякоў касцельны крыж,
намуравалі замкаў, і лацінай
у Кракаве блішчыць апошні камень.

Але вайна ідзе далей — як мора,
і ўжо Еўропа звыкла пазяхае
на лёс далейшы Польшчы і Літвы,
хоць аніхто прагрэс не спамінае,
ні канвергенцыю, ні нават Lebensraum[1],
вайна ідзе спачатку — словы потым,
спакон вякоў так ёсць, было і будзе.
І так было б і тут,
калі б не людзі —
Палякі, Русь, Літва, Жамойць, Валынь,
Падолле і далёкі Новы Горад,
і Крым нябачны, бо за Дзікім Полем,
што лінулі,
каб мора павярнуць
сваім бязмежным, страшным Акіянам.

### 2. Голас Вялікай княгіні Ганны

Грае сонца ў віхуры,
клічуць харугваў трубы —
ты цяпер Святы Юры,
Вітаўт адзіны, любы!
шчасце маё ў магіле —
немцы сыноў забілі!
немцы сыноў забілі! —
выдралі сэрца з маці…

Забі іх, Вітаўт! У Бога
спытай да пекла дарогі —
ніводнага немца жывога
не прыводзь палонным у Трокі! —
немцы сыноў забілі!
немцы сыноў забілі! —
доўга мне гараваці?! —
не слухай князёў нікога,
не слухай татараў браці,
ні караля — пад анёлам…

Ніводнага немца жывога —
Я тут Божая Маці! —
Літва і Русь мне касцёлам.

### 3. Замова белагаловай на мурах у Гародні

Пярун магутны!
Багаты Волас!
Сын Езус!
Маці Марыя!
Зрабіце так, каб жывы быў колас,
мой любы колас,
мой спелы колас,
мой стойкі колас,
мой рыцар!
Зрабіце так, каб прыйшоў мой гнуткі,
мой цёплы,
салёны,
верны!
Багаты Волас!
Пярун магутны!
Маці Марыя!
Сын Езус!

### 4. 15 ліпеня 1410 года

Справа — немцы адбілі атакі
і самі ўдарылі біцца,
злева — яшчэ спяваюць палякі
Bogorodzico Dziewico,
але кругом — як вока, хапае!
як сэрца да пятаў чуе! —
смерць наступае, смерць наступае,
вір за вірам віруе —
як Вергілій з якога веку
апіша ўсім зразумела,
чаго шкада найбольш чалавеку,
як веюць душу ад цела?
Жыццё? Ды гінуць злева, і справа!
Кругом ліхая дарога…
Айчына?! Гэта ж княская справа —
панская замарока!
Ні ўчора, ні заўтра няма, а сягоння
смерць больш жыцця жывая —
што пад Калюмнай, што пад Пагоняй,
палон праз усіх прарастае,
і стане ў мёртвых вачах у апошнім
імгненні на гэтым свеце
адно і тое ж, што ўсе мы ўспомнім —
нявеста, жонка і дзеці.

### 5. Пахавіны.

Тут — жывыя. Тут — мёртвыя.

Там, дзе ляцелі — усе паспелі,
каго ўратавала закляцце,
а смерць — перамелецца, перасеецца,
задыміць горкі пыл дажджоў…
З праваслаўным Успеннем
каталіцкае Ўнебаўзяцце
пакрыжуецца, пашлюбуецца —
адзін раз на шэсцьсот гадоў.

### 6. Прэлімінарыя

Па вайне спахопяцца воі —
за што ваявалі?!
Бо і Мальбарк паддаўся сам —
тры муры не стаў бараніць.
Куды гналі харугвы?
Чыю смерць усе трубы спявалі?
Не напішуць ні Длугаш, ні Быхавец,
толькі немец паследзіць ніць…
Бо за тое, каб Мальбарк на раздарожжы
так стаяў, як стаяў —
між адвечных вякоў, як ільдзін,
трыста тысяч коп чэшскіх грошай —
кожны! —
возьме сам Владыслаў — з панамі,
возьме сам Аляксандр. Адзін.

### 7. 1413 год. Гародля-над-Бугам

Немец пабіты. Святкуем
з Еўропай яднанне —
каталікі атрымалі гербы, гэй, славяне!
І праваслаўным няма чаго
плакаць ізноў —
як сабе мелі,
няхай пакуль маюць князёў.
Князь Аляксандр з каралём Владыславам
— ваўкі два старыя! —
новую рэзь наклікаюць —
ад Бельска па Лепель! —
роўнасці роўная роўнасць…
бывае пятлёю на шыі.
Край разарвецца вайной!
А хацелі ж, як лепей…
Лепей не трэба хацець.
Не направіць сам Бог чалавека,
як напраўляюць тупую сякерыну кругам.
Свята. Стаяць пад царквою —
калека, калека, калека…
Немец пабіты.
І свята ў Гародлі-над-Бугам.

### 8. Касцёл Вітаўта Вялікага ў Коўне

Над Коўнам ганзейскім і перуновым
стрэліла стрэха да Неба паловы,
крыжы, галубы — як вякі і дні.

Як раптам прорва дыхнула над намі! —
заварушыўся свет пад нагамі,
ці Божае цела ў душы глыбіні.

Былі ў жыцці іншым на гэтым лоне
Адам Міцкевіч, Міколас Чуплёніс,
былі ты і я, потым я і ты.
Касцёл гэты наш —
над Жамойцяй узняты! —
Іваноўскі з-пад Друці яго фундатар,
і з яго нашчадкаў былі Тры Браты

Над далінай, Нёманам спавітай,
стаў гарой крываваю
страшны Вітаўт —
і пяцьсот гадоў быў на немца страх.

А ступіў праз страх раз кайзер,
раз фюрэр,
то заюшыў вецер з Усходу бурай
і рассыпаў немца да Одры ў прах.

### 9. Рэквіем

Спакой вам, браты далёкія,
Айчыну сваю баронячы,
да Маці Божай пайшлі —
душамі, хмаркамі, птушкамі —
мечнікі, лучнікі, скобаты,
польныя багатыры,
рацічы, лазы, чаляднікі,
обухі, конюхі, слёзнікі,
пахопкі і грабары[2].

Спакой вам, браты далёкія,
Айчыну сваю баронячы,
сабой засланілі нас.

### 10. Касцёл Святой Ганны ў Вільні

Як агонь,
гарыць ваеннае дрэва
касцёла з чырвонай цэглы.
Шлях да Неба — ад Крэва,
а канец другі ў цемры.
Вось! Прабілі браму ў Еўропу
пад Зялёным Лесам мячамі,
хто нас гнаў у тую дарогу…
Як па лупы[3] з мяхамі.
Адна Божая Маці не кіне
долю нам выглядаці
у касцёле вялікай княгіні —
Святой Ганны, Жанчыны, маці.

### 11. Малітва XXI стагоддзя

Божа, дай нам спакой
з Гісторыяй той святой —

самахвальная пахвала,
як на свята, блішчыць са стала,

хоць нікога даўно не страшаць
ні змаганні, ні страты нашыя,

а цяпер неяк сумна тут,
дзе ні стань — кругом родны кут,

дзе ні мёртвых няма, ні жывых,
ані вечных, ані маладых,

дзе мы самі ў сябе пад пятой —
як з Гісторыяй той святой.

### 12. Эпілог

Быў калісьці і гэты край —
каму пекла, а каму рай,
жыў пакутна, збройна і бражна.

У гісторыі нашых вякоў
цяжка першыя сто радкоў —
гэта потым сумна і страшна.

Чым падпоры і горы хістаць,
лепш пра тое кнігі чытаць —
маладыя мы ці старыя.

Пакуль вечнасць не прыйдзе ў час,
пад сябе не загорне нас
і старонкай кніжнай накрые.

---

[1] Lebensraum (нем.) — жыццёвая прастора.
[2] Вайсковыя прафесіі XV стагоддзя.
[3] Лупы (старабел.) — трафеі, ваенная здабыча.

Уладзімір ЦАНУНІН

## Шлях да Дубровенскіх палёў

(урывак з паэмы)

Калоны Вітаўта з узлеска
Сталёвай лавай пацяклі.
Пачуўся голас сурмаў рэзкі
І тупат конскі па зямлі.
Стрэл арбалетных злая хмара
Ўзляцела ў бляску алебард.
І скалыхнуліся абшары
Ад грому бронзавых бамбард.
Палкі Івана Жэдзевіда
Тапталі коньмі пушкароў.
І на татарскіх гойстрых дзідах
Варожая заззяла кроў.
Дым пораху жаўтлява-горкі
Туманам сплыў на паплавы.
Крыжацкі клін пайшоў з пагоркаў
Насустрач суліцам Літвы.
“Свіння” сваім сталёвым рылам
Зарылася ў палкі смалян.
Дым ад гармат з гарачым пылам
Павіс над полем як дурман.
Гаштольд і гуфы Манівіда,
Як дзве ракі, на крыжакоў
Пайшлі, абняўшы клін са спрытам
Адначасова з двух бакоў.
Кальчугі, латы, калантары,
Ў руках двуручныя мячы.
І нібы рэха кліч татараў:
“Сячы! Алах акбар! Сячы!”
Лес коп’яў нібыта парканам
Загарадзіў тэўтонскі клін.
Але здалёк яго арканам
Зваліць прымусіў Багардзін.
Як смерч імчаліся татары
Да крыжаносцаў напраскі.
На дол рагатыя пачвары
Ляцелі з сёдлаў, як мяшкі.
Мільгалі шаблі, як маланкі,
Ў руках стракатых стэпнякоў.
Ляцелі іскры па чаканцы
Сталёвых рыцарскіх бакоў.
Але бычыны панцыр з Крыма
Міланскай сталі не раўня.
Была адзінаю, магчыма,
Надзея толькі на каня.
Ад молатаў трашчалі косці
І ўшчэнт ламаліся мячы,
Сам Валенрод кіпеў ад злосці.
Крычаў: “Язычнікаў сячы!”
І адкаціліся, як хваля,
Ў абоз татарскія палкі.
У клубах пылу замільгалі
На коп’ях доўгіх бунчукі.

Спякотай дапякала сонца.
Пыл забіваў засмяглы рот.
Пякліся ў панцырах тэўтонцы.
Ліцвінам вочы засціў пот.
Але, як боскае збавенне,
Жаданы дожджык пырснуў з хмар,
Якія прывідамі ценяў
Ляглі на грунвальдскі абшар.
Ды толькі ліпеньскае сонца
Ізноў заззяла з-пад аблок.
І разгарнуліся тэўтонцы
Ўсёй сілай у літоўскі бок.
Вялікі клін пайшоў атакай
На наўгародцаў, кіяўлян.
Пачалі адыход па знаку
Харугвы змораных трачан.
Палкі Гаштольда адступалі
Ў абоз, бо сілы крыжакоў
Пад прыкрыццём бліскучай сталі
Паўзлі пагрозліва з бакоў.
Ды раптам латнікаў плаціна
Спыніла тупат конскіх ног.
Палкі смалянаў і ліцвінаў
Нібы ўраслі нагамі ў лог.
Не падаў нават мёртвы латнік,
Бо шчыльнымі былі рады.
Сямён Лінгвен – мсціслаўскі ратнік
Прывёў на поле іх сюды.
Крывавы бой кіпеў гадзіну,
Рады крыжацкія ламаў.
Смаленскі полк увесь загінуў,
Але тэўтонскі клін стрымаў.
Палякам добра б дасталося,
Каб не Сямёнавы палкі.
Крыві тут многа пралілося.
Ды, мабыць, лёс у іх такі.
Камтур на кракаўцаў навалай
Пайшоў, узняўшы галаву.
Штандар палякаў “Ожэл бялы”
Быў збіты немцамі ў траву.
Той момант быў для ўсіх трывожны.
Ды і разгубленасць была,
Бо немцы гучна, пераможна
Псалмы спявалі ля сяла.
Крыві ў паветры пах лядашны
Разносіў ветрык навакол.
Зірнуць было на поле страшна.
Бліскучых коп’яў частакол
І посвіст стрэл, і дзікі лямант,
І конскі тупат, нібы гром,
Апошні стогн у воўчых ямах,
І латнік з выдраным рабром.
Апоўдні выдахліся фрыцы.
Як не ззываў на бітву рог,
Ні пешы кнехт, ні конны рыцар —
Ніхто рубіцца ўжо не мог.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

16 ліпеня 2010 г. Выпуск 5

Выдавецкія клопаты

# Стаўка — на маладых

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" — адна з самых вопытных і паспяховых кнігавыдавецкіх устаноў, што сёння працуюць з арыгінальнай літаратурай на роднай мове. Штогод тут выходзіць каля 100 кніг. За апошнія гады выдавецтва атрымала тры Гран-пры Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі", дасягнута перамога і ў VI Міжнародным конкурсе "Мастацтва кнігі" сярод краін-удзельніц СНД… Пра выдавецкія навіны і планы — наша гутарка з галоўным рэдактарам "Мастацкай літаратуры" Віктарам Шніпам.

— Якія аўтары выдаюць кнігі ў "Мастацкай літаратуры"?

— У большасці гэта ўжо вядомыя творцы. Аднак апошнім часам прыходзіць шмат людзей, якія нідзе не друкаваліся, але маюць жаданне пачаць друкавацца. Шкада, што сярод іх мала моладзі, больш людзей пенсійнага ўзросту. Калі сярод прапанаваных твораў ёсць нешта вартае для друку, то пакуль выйдзе ў нас кніжка, раім аўтарам аддаць свае творы ў літаратурна-мастацкія выданні "Маладосць", "Полымя", "Нёман", газету "Літаратура і мастацтва".

— Якія кніжныя навінкі нядаўна пабачылі свет у выдавецтве?

— Зусім нядаўна да 70-гадовага юбілею Уладзіміра Ліпскага выдадзена кніга "Усе мы — радня", у ёй Уладзімір Сцяпанавіч прасачыў за сваім родам. У серыі "Залатое пяро" выйшлі кнігі прозы Віктара Праўдзіна "Нелюбімыя гінуць" і паэзіі Віктара Гардзея "Трыадзінства". Хацелася б адзначыць і кнігу Славаміра Антановіча "Ушедшие в бессмертие", якая змяшчае арыгінальныя дакументальныя нарысы, створаныя на аснове архіўных дакументаў. Гэты год для нас адметны і тым, што мы пачалі выпуск збору твораў Івана Шамякіна ў 23-х тамах. Ужо выйшаў 1-ы том, дзе змешчаны апавяданні, напісаныя ў 19-44-1955 гг. Ёсць сярод іх і малавядомыя творы. Выхад апошняга тома гэтага выдання запланаваны на 2014 год.

— Выдаваліся апошнім часам у "Мастацкай літаратуры" кнігі маладых аўтараў, чые імёны можна лічыць новымі?

— Мы заўсёды падтрымлівалі і будзем падтрымліваць маладых літаратараў — гэта наш святы абавязак. У гэтым годзе творы новых аўтараў выйшлі ў зборніках. Так, у кніжцы "Крынічка Буль-буль" (серыя "Беларуская аўтарская казка") змешчаны казкі Віялеты Богдан і Уладзіміра Васькова. Выйшла кніга казак і былін студэнткі Беларускага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Ясеніі Сцяпанавай "Купалінка". Дарэчы, на Нацыянальным конкурсе "Мастацтва кнігі" гэтае выданне стала пераможцам у намінацыі "Лепшая дзіцячая кніга".

— Якія выданні пабачаць свет у бліжэйшы час?

— У серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" рыхтуецца да друку кніга пра Івана Шамякіна "Летапісец эпохі". Праз месяц яна з'явіцца ў кнігарнях. На наступны год у гэтай серыі плануюцца кнігі пра Максіма Багдановіча (наступны год для паэта — юбілейны) і Васіля Быкава. У нашых планах і перавыданне кнігі пра Уладзіміра Караткевіча.

— З'яўляючыся галоўным рэдактарам выдавецтва, вы можаце прасочваць і некаторыя змены ў літаратурным працэсе. Ці назіраюцца новыя тэндэнцыі ў беларускай літаратуры?

— Адна з тэндэнцый — пісаць коратка. І тут наперадзе ўсіх моладзь. А моладзь наша таленавітая і вельмі адрозніваецца ад маіх аднагодкаў у маладосці. Сёння маладыя аўтары, акрамя беларускай і рускай моў, валодаюць яшчэ і замежнымі. Яны маюць магчымасць падтрымліваць сувязь з аднагодкамі, што жывуць у замежжы, перакладаць адзін аднаго. Гэта дапамагае ім развівацца ў накірунку, у якім рухаецца ўся сусветная літаратура. Прыемна, што і крытыкі розных пакаленняў адсочваюць выхад новых



твораў, выступаюць з аналітычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі.

— Ці з'яўляецца паспяховым выданне кніг серыі "Школьная бібліятэка"?

— Выданне кніг гэтай серыі аднавілася год 5 таму. У мінулым годзе дзяржава падтрымала нашу ініцыятыву, і зараз мы маем магчымасць выдаваць асноўныя творы нашай літаратуры большымі тыражамі, каб яны маглі трапіць ва ўсе школьныя бібліятэкі. У гэтай серыі ўжо выйшлі кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Янкі Маўра, Андрэя Федарэнкі, зборнікі сучасных беларускіх апавяданняў, драматургіі, паэзіі. Раней падобных зборнікаў у школьных бібліятэках увогуле не было, можна было знайсці толькі выданні 20-гадовай даўнасці, а за гэты час і творы новыя з'явіліся, і імёны.

— Беларуская кніга на беларускай мове, выдадзеная ў "Мастацкай літаратуры", запатрабаваная ў чытача?

— Так. І сёння можна прадаць любую кніжку, галоўнае — расказаць патэнцыйнаму пакупніку, чым менавіта гэтая кніжка будзе карысная для яго ці яго ных дзяцей. На жаль, тыя людзі, што прадаюць кнігі, не заўсёды абазнаныя ў навінках. Таму ў нас практыкуюцца кніжныя прэзентацыі ў кнігарнях. На іх прыходзяць не толькі чытачы, але і супрацоўнікі кнігарні, якія маюць магчымасць даведацца больш пра выданні, што ў іх прадаюцца. Такія сустрэчы рэгулярна праводзім у доме кнігі "Светач", а нядаўна была падобная прэзентацыя кніг выдавецтва і ў кнігарні "Кнігі & кніжачкі". Той пісьменнік, які ходзіць на сустрэчы з чытачамі, амаль не мае праблем у рэалізацыі кніг. А той, які спачатку патрабуе ва ўсіх інстанцыях, каб яго выдалі, а потым толькі пытаецца пра ганарар і ад сустрэч з чытачамі адмаўляецца, мае праблемы ў рэалізацыі выдадзенага. Поспех адной кнігі адбіваецца і на ўспрыманні аўдыторыяй наступных твораў аўтара.

— Якія яшчэ шляхі вы выкарыстоўваеце для рэкламы кніг?

— Новыя выданні рэкламуем па тэлебачанні і радыё, а таксама ў рэспубліканскім друку. Не адмаўляемся ад сустрэч з чытачамі ў бібліятэках і школах.

— З якімі цяжкасцямі вы сутыкаецеся ў выдавецкай дзейнасці?

— Усё наша жыццё — пераадоленне цяжкасцей. А кожная новая кніжка — гэта аўтарская цаглінка ў Храме беларускай духоўнасці і культуры, таму ўсе цяжкасці ўспрымаюцца належным чынам і пераадольваюцца. Хацелася б, каб з'яўлялася ўсё больш і больш таленавітых нечаканых аўтараў.

— На рахунку "Мастацкай літаратуры" ёсць выдавецкія праекты, якія можна назваць цалкам паспяховымі?

— У першую чаргу гэта кнігі серый "Зямля мая", "Скарбы роднай прыроды", "Твае гарады, Беларусь", "Гісторыя ў асобах", "Славутыя імёны Беларусі", "Беларускі фальклор", "Казкі XXI стагоддзя", "Вера. Надзея. Любоў". Вялікім попытам карыстаюцца серыі "Нашы Героі", "Жыццё знакамітых людзей Беларусі", "Мастакі Беларусі". Менавіта кнігі названых серый годна прэзентуюць не толькі нашых аўтараў у Беларусі, але, калі трапляюць у замежжа, і ўсю нашу краіну.

Гутарыла
Марына ВЕСЯЛУХА

Фота Кастуся Дробава

Розгалас

# Цепліцца агеньчык надзеі

**У мінулым выпуску "Кніжнага свету" ("ЛіМ" № 27 ад 9 ліпеня) расказвалася пра незайздроснае становішча, у якое трапіла полацкая кнігарня "Светач". Працуючы ў гандлі 47 гадоў, яна ў 2010-м упершыню стала стратнаю.**

Нагадаем: з гэтага года кнігарні не маюць льгот па арэндзе памяшканняў. Штомесячна "Светачу" выстаўляецца вялікі рахунак. Каб яго выплаціць, даводзіцца скарачаць да мінімуму выдаткі, нават самыя неабходныя.

Вясной і ў пачатку лета аб'ёмы прадаж змяншаюцца. У некаторых іншых гарадах Беларусі ўлады, прымаючы да ўвагі значнасць кнігі, пайшлі насустрач кнігарням і прадаставілі ім льготы. У Полацку, калысьці нашай культуры, кнігарні раяць разам з кнігамі браць на рэалізацыю іншы хадавы тавар.

Дырэктар кнігарні Маргарыта ЛЕВАНЕНКА патлумачыла "Кніжнаму свету":

— Полацкая кнігарня "Светач" — у ліку буйных прадпрыемстваў ААТ "Віцебсккніга". Аб'ём таваразвароту за 2009 год пераўзышоў 2 мільярды рублёў. Тысячы назваў кніг па самых розных галінах ведаў, магчымасць заказу літаратуры ў беларускіх дзяржаўных выдавецтвах, сацыяльна значнай літаратуры робяць кнігарню сапраўдным асяродкам беларускай культуры. Цяпер у продажы ёсць аўдыёкнігі (беларуская, руская, замежная класіка і сучасная літаратура), кнігі ў камплекце з дыскамі. У Полацку — усяго адна цэнтральная кнігарня. Рэалізуюць невялікія аб'ёмы кніг таксама прыватныя асобы на кірмашы, крыху — у "Віцебскі саюздруку". Але найбольш літаратуры — у кнігарні "Светач", куды і звяртаюцца жыхары горада. Установа працуе ў асноўным напрамую з выдавецтвамі, шмат літаратуры пастаўляе і "Віцебсккніга". Знаходзячыся ў горадзе, прывабным для турыстаў, кнігарня ініцыюе ў выдавецтвах выданне кніг, набораў паштовак, якія падтрымліваюць імідж горада і краіны.

Дом, у якім размешчана кнігарня, стары, неабходна яго рэканструкцыя ці рамонт, які можна весці са сродкаў ад прыбытку, якога ў такіх умовах, зразумела, няма.

Каб неяк выжыць і знайсці сродкі, кнігарня практыкуе выязны і выносны гандаль. Перайшлі таксама на падоўжаны рэжым працы, выязджаем у калектывы. Але пакуль не пачаўся школьны сезон і продаж папяровабелавых тавараў актыўна не распачаты, гандаль ідзе марудна. У выпадку ж, калі кнігарня з-за нявыплат мусіць пераехаць на ўскраіну горада, аматары кнігі, якіх у Полацку нямала, пазбавяцца месца, дзе яны чэрпаюць натхненне і знаходзяць найцікавейшыя навінкі. Але, спадзяёмся, гэтага не здарыцца, грамадскасць не дапусціць.

У розныя перыяды кніжнаму гандлю даваліся ўводзіць у рэалізацыю групу іншых тавараў: сувеніры, канцылярскія прыналежнасці, карціны ды іншае. Кніжнаму гандлю, сапраўды, давялося перажыць часы і татальнага дэфіцыту, і росквіту выдавецкай справы з вялізнымі накладамі кніг, і цяжкія перыяды выжывання. Аднак, дзяржава ніколі не ставілася да кніжнага гандлю абыякава, прымаліся рашэнні па яго падтрымцы. Спадзяёмся, што і цяпер кнігарнюе не давядзецца гандляваць гарэлкай і галёшамі, каб выжыць. І сучасныя бацькі, бабулі і дзядулі не пазбавяцца магчымасці купіць і пачытаць казку сваім маленькім дзецям і ўнукам, — рэзюмуе Маргарыта Мікалаеўна.

Ірына ТУЛУПАВА

# Трэба падтрымаць кнігарню!

**На публікацыю пра сітуацыю з полацкай кнігарняй адгукнуўся пісьменнік Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:**

— Крыху здзіўлены, што ўзнікла такая непрыемная сітуацыя. Мой родны горад заўсёды добра ставіўся да кнігі. Тым больш незразумела: гэта адбываецца ў год, калі Полацк аб'яўлены культурнай сталіцай Беларусі. Думаю, гэта не лінія гарадскіх улад у цэлым, а толькі асобных чыноўнікаў. Я перакананы: для многіх палачан і землякоў, якія цяпер жывуць за межамі горада, кнігарня "Светач" заўсёды была жаданым месцам, дзе ветліва сустракаюць усіх. Успамінаю аднаго з першых дырэктараў кнігарні Рыгора Міхайловіча, сапраўднага інтэлігента, сябра кнігі, які быў вядомы многім пісьменнікам і паэтам, людзям, неабыякавым да літаратуры. Да яго прыязджалі з усёй Беларусі, каб пагутарыць, падзяліцца ўражаннямі ад прачытанага. Кнігарня заўсёды мела і, спадзяюся, будзе доўга яшчэ мець добрую сваю славу!

Запісала
Рына НОВАК

Вітрына

# Пісьменніцкая мекка



“Кнігарня пісьменніка” вабіць нават сваёю назваю. У ёй выразна акрэслены характар працы і змест той літаратуры, якая прапануецца. У пераважнай большасці гэта — творы класікаў і сучасных майстроў слова. Не дзіва: кнігарня з’яўляецца апорнай гандлёвай кропкай выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

Знаходзячыся ў цэнтры Мінска, на Казлова, 2, яна добра вядомая аматарам кнігі. Непадалёк — рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”, Дом літаратара, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт — і творцы, і студэнты рэдка прамінаюць кнігарню, якая ў Беларусі мае і свой почырк, і імя. Наступным годам, між іншым, будзе святкаваць сваё трыццацігоддзе: адкрылася “Кнігарня пісьменніка” 13 мая 1981 г. і з таго часу працуе бесперапынна.




*Калаж Віктара Калініна*

“Кнігарня невялікая, але ўтульная. Каб падрамантавалі і падфарбавалі, была б лепшая, але ж працуем на тым, што маем, —заўважае дырэктар кнігарні Святлана Цішкевіч. — Заходзяць сюды людзі, цікавяцца беларускай літаратурай: і малыя, і старыя”. І хоць на двары лета, а гэта значыць, паток пакупнікоў зменшыўся, усе палічкі шчыльна застаўленыя кнігамі. Навінкі сучаснай літаратуры, класіка, кнігі па галінах ведаў, тэматычна згрупаваныя: цесна, але ўтульна, як заўсёды бывае там, дзе кніга. “Любім беларускую кнігу, працуем з ёю і захапляемся”, — распавядае Святлана Васільеўна.

Сярод пастаянных пакупнікоў першым называюць імя Адама Мальдзіса — між іншым, не толькі ў гэтай кнігарні. “Вельмі добрыя серыі новыя з’віліся: “Лімаўскі фальварак”, “Паэзія XXI стагоддзя”, “Проза XXI стагоддзя”, шмат кніг прапануе “Беларускі кнігазбор”, — працягвае сваю думку дырэктар. — Вельмі запатрабаваная заўсёды “Школьная бібліятэка”. І трэба сказаць, гэта дастаткова цікавая серыя. Яе пачалі выпускаць і на рускай мове”. Ведаючы, што ў кнігарнях добра вывучаны пакупніцкі попыт, з пэўнай доляй крыўды за айчынную літаратуру цікаўлюся: “Няўжо творы рускай літаратуры і з серыі “Школьная бібліятэка” больш запатрабаваныя?

“Справа ў тым, — тлумачыць Святлана Цішкевіч, — што даўнавата не было надрукаваных нанова рускіх класікаў. Новых кніг не было — твораў і творцаў, якія вывучаюцца па праграме. І Мікалай Гоголь, і Аляксандр Пушкін — як жа іх чытаць, калі няма кніг?”

Кнігарня актыўна выкарыстоўвае на практыцы перавагі выязнога гандлю.

Часта выстаўляюць сваю палатку з кнігамі ў Цэнтральным дзіцячым парку імя Максіма Горкага, прапануюць дзіцячую літаратуру і краязнаўчую. Людзі пытаюцца і пра літаратуру па народных промыслах. Новая кніга “Залатыя правілы беларускай народнай культуры” (аўтары В.Катовіч і Янка Крук) вельмі зацікавіла чытачоў, ды іншыя таксама.

Святлана Цішкевіч заўважае: цяпер асноўнага кірунку ў працы з чытачом нібыта і няма. Ніколі не ўгадаеш, што яму патрэбна. Прыходзіць чалавек, і, бывае, не знаходзіш таго, што ён шукае ў кнігарнях. Глядзяць па камп’ютэры, ці ёсць гэтая кніга ў “Белкнізе”. Пры выпадку бяруць папярэдні заказ ад чытачоў. Калі ўпэўненыя, што яго выканаюць. У месяц бывае па 20—30 такіх заявак на пэўную кнігу.

Як у такім выпадку вызначаецца, якую літаратуру набываць? У “Кнігарню пісьменніка” імкнуцца набываць па магчымасці ўсё. Пераважна — праз “Белкнігу”. Напрамую зазвычай працуюць вялікія кнігарні, а гэтая па мерках сталіцы — маленечкая: 67 квадратных метраў гандлёвай плошчы. У дзень наведвання кнігарні ў ёй для продажу знаходзілася амаль 11 тысяч найменняў выданняў, з іх кніг — больш як 7 тысяч. Гэта — палова гадавога выпуску літаратуры па ўсёй Беларусі! А калі ўлічыць, што прайшло ўсяго паўгода, то можна было б гаварыць, што ўся літаратура, і праўда, прадстаўленая. Але гэта, натуральна, не так. Бо ў продажы — і выданні мінулых гадоў, і расійскіх выдавецтваў таксама.

“Але кожны сантыметр плошчы ў нас заняты. Бо для таго, каб укараняць новыя тэхналогіі, трэба спачатку правесці рамонт”, — звяртае ўвагу на свае праблемы дырэктар. Цяпер жа робіцца акцэнт і на дзіцячай літаратуры. — “Не чытаюць людзі. Няма калі, альбо няма сілы. Маладыя чытаць не навучыліся. А хочацца, каб дзеці чыталі”.

Дзіцячая аўдыторыя ў кнігарні — гэта каля 40 працэнтаў яе наведвальнікаў. Але пакупнікі вельмі розныя. Пры ўсіх нараканнях на сезоннасць працы і імкненні, каб людзі чыталі больш, не забываліся пра кнігу, тут узнімаюць яе папулярнасць рознымі спосабамі. Удзень асобнікаў трыста рэалізуецца (калі ўлічыць і невялікія брашуры, плакаты ды іншую друкаваную прадукцыю). Запатрабаваная і вучэбная літаратура, адчуваецца, што бацькі і дзеці рыхтуюцца да школы, купляюць сшыткі, алоўкі. Новая акцыя кнігарні — “Віншуйце па-беларуску”. Наведвальнікам прапануюцца беларускамоўныя паштоўкі, іх прэзентуе выдавец Раман Шык.

Агульная для кнігарняў тэндэнцыя, што ў іх з’яўляюцца тавары спадарожныя: канцылярскія, медыятавары.

Кнігі на дысках досыць актыўна ўваходзяць у жыццё кнігараспаўсюджвальнікаў. “Белкніга” і праз яе таксама “Кнігарня пісьменніка” актыўна працуюць з прадпрыемствам “Медыятон”, якое актыўна выпускае літаратуру на электронных носьбітах. Шукаюць нешта новае і прапануюць чытачам.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: дырэктар “Кнігарні пісьменніка” Святлана Цішкевіч; так выглядае кнігарня.

Фота Кастуся Дробава

Скарбы

# Куды трапілі жыровіцкія рарытэты?

Доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс неяк сказаў, што Беларусь з’яўляецца адзінай краінай у свеце, дзе нацыянальных культурных скарбаў, матэрыяльных і духоўных, на радзіме меней, чым за яе межамі. І з ім можна пагадзіцца. Прычынай гэтаму — шматлікія войны, якія праходзілі праз Беларусь. Падчас гэтых войнаў рабавалася наша зямля. Тысячы каштоўных кніг, дакументаў, абразоў, крыжоў, прадметаў посуду, вырабаў з золата і срэбра зніклі з Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра за 540 гадоў яго існавання. Пра лёс вывезеных каштоўнасцей наш карэспандэнт гутарыць з галоўным архівістам і летапісцам Жыровіцкага праваслаўнага манастыра іераманахам Агапіем (Голубам).

— Айцец Агапій, калі было скрадзена і вывезена найбольш каштоўнасцей з Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра?

— Найбольш каштоўнасцей было вывезена ў Расію падчас Першай сусветнай вайны. Адны з іх трапілі ў архівы і бібліятэкі Новасібірска, іншыя — у горад Новакузнецк. Але дасканала ўсім гэтым пакуль ніхто не займаўся. Праўда, семінарысты і студэнты Мінскіх духоўнай семінарыі і Акадэміі ў Жыровічах ужо пачалі даследаваць гэтую тэму. Аляксандр Папоў напісаў дысертацыю на тэму “Нарысы гісторыі бібліятэкі Жыровіцкага манастыра”. Аляксей Кулін апісаў дзейнасць архіва сённяшняга Жыровіцкага манастыра. Але ён зазірнуў і ў мінулае, асабліва ў міжваенны архіў манастыра. Свяшчэннік Мікалай Анікееў напісаў вялікую працу пра архімандрыта Антонія Мельнікава, які пры жыцці даследаваў Жыровіцкі манастыр і выдаў надрукаваны на машынцы трохтомнік пра Жыровіцкі манастыр у гісторыі заходнерускіх епархій. Там шмат радкоў, адрасаваных каштоўнасцям Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра. Ёсць згадка і пра архіў манастыра, дзе даюцца звесткі, што ён быў вывезены ў Новасібірск і Новарасійск. А што не змаглі вывезці, закапалі. Але тыя дакументы ў зямлі прапалі.

— Жыровіцкія дакументы, як мне вядома, захоўваюцца ў бібліятэках і архівах не толькі ў Расіі?

— Вядома. Яны ёсць у Львове, Вільні, Санкт-Пецярбургу, Варшаве, Маскве. Напрыклад, у архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Інстытута гісторыі Расійскай акадэміі навук сёння шмат цікавых дакументаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да гісторыі Жыровічаў.



У фондзе былога прафесара Жыровіцкай духоўнай семінарыі Пракопа Дабрахотава (Максімава) значацца 2 492 адзінкі захавання збораў на польскай, лацінскай і старабеларускай мовах. Гэтыя рарытэты Дабрахотаў вывез з Жыровічаў яшчэ ў 1845 годзе. Найперш гэта дэкрэт 1609 года Слонімскага земскага суда па справе паміж Іванам Мялешкам і Данілам Солтанам за Жыровічы; выпіс са слонімскіх земскіх кніг запісу Івана Солтана аб перадачы маёнтка Жыровічы жонцы, 20.09.1572 года; пасланне кіеўскага уніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы да Жыровіцкага суперыёра Канстанціна Вітапольскага, 23.06.1653 года; зборнік гістарычных звестак пра Жыровіцкі манастыр з апавяданняў і спраў старых людзей, што заслугоўваюць даверу, склаў Антоній Завадскі, 1713 год; кніга найдаўнейшых цудаў абраза Жыровіцкай Маці Божай, XVII стагоддзя; акт продажу Данілам Солтанам маёнтка Жыровічы з прысёлкамі літоўскаму канцлеру Льву Сапегу, 06.07.1621 года і іншыя. Там захоўваюцца таксама нумары штодзённага часопіса суперыёраў Жыровіцкага манастыра, 1772–1786 гадоў; заўвагі Паўла Дабрахотава з гісторыі Брацтва пры Жыровіцкім абразе Маці Божай, 1837–1863 гадоў, і дзесяткі іншых каштоўнасцей.

У архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення захоўваюцца і копіі дакументаў пра мястэчка Жыровічы, зборнік гістарычных звестак пра Жыровічы, 1713 года, панегірык шведскаму каралю Густаву Адольфу на лацінскай мове, складзены ў Жыровічах, а таксама зборнікі Антонія Завадскага, дзе маецца шмат звестак пра Жыровічы і суседні з Жыровічамі Быцень.

— Ведаю яшчэ, што беларускія даследчыкі Адам Мальдзіс і Язэп Янушкевіч выявілі ў аддзеле рукапісаў фонду базыльянскіх манастыроў навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны і ў Нацыянальным дзяржаўным гістарычным архіве ў Львове матэрыялы пра апісанне цудаў у Жыровічах 1758 года, і ў манастырскай царкве 1620—1756 гадоў, звесткі пра гісторыю царквы ў Слоніме, справу аб папаўненні бібліятэкі ў Жыровічах (XIX ст.) і справу пра уніяцкія кнігі, канфіскаваныя ў Жыровічах, многія іншыя каштоўныя дакументы. Хто-небудзь займаецца вяртаннем дакументаў і каштоўнасцей Жыровіцкага манастыра на Беларусь?

— Усе гэтыя каштоўнасці ўжо з’яўляюцца ўласнасцю тых дзяржаў, дзе яны знаходзяцца. І ніхто іх нам аддаваць не будзе.

— Айцец Агапій, у Жыровічах бывае шмат гасцей, у тым ліку вышэйшых дзяржаўных асоб з іншых краін свету. Можа, хто-небудзь з іх прывёз у падарунак вывезены раней скарб з Жыровіцкага манастыра?

— Я такога выпадку не памятаю. Нам толькі неяк падарылі факсімільнае “Жыровіцкае Евангелле” XVI стагоддзя, арыгінал якога знаходзіцца ў Вільні. Хачу сказаць, што з Вільняй у нас больш-менш добрыя стасункі, а вось з Санкт-Пецярбургам — цяжкавата.

— Пры Мінскай духоўнай акадэміі ў Жыровічах існуе царкоўна-археалагічны кабінет, дзе захоўваецца шмат рарытэтных выданняў. Якія гэта выданні?

— Кожны чалавек можа наведаць гэты кабінет. Ідэя стварэння акадэмічнага музея-кабінета належыць протаіерэю Аляксандру Балоннікаву. Сярод экспанатаў — рукапісны Псалтыр пачатку XVIII стагоддзя, Службоўнік свяціцеля Пятра Магілы (Львоў, 1639), Трэбнік (Львоў, 1668), Актаіх (Масква, 1638), Апостал з гравюрамі Івана Зубава (1738), Concordia (1677), Апостал дыякана Івана Фёдарава (Львоў, 1573), Самавучыцель царкоўных спеваў А.Кастальскага з аўтографам знакамітага кампазітара (Масква, 1909), Катэхізіс, выдадзены ў Лейпцыгу на грэчаскай мове ў 1563 годзе, і іншыя. Не ўсё яшчэ страчана.

Сяргей ЧЫГРЫН

На здымку: Жыровіцкі Свята-Успенскі сабор.

Фота аўтара

Час чытаць

# Прыцягненне класікі

Беларусы называюць творы, што паўплывалі на іх светаўспрыманне, і расказваюць пра свае чытацкія густы.
Мікола Купава, мастак:



— У студэнцкія гады я захапляўся раманам Этэль Войніч “Авадзень”. Потым гэтае захапленне нікуды не знікла, але прыйшоў Уладзімір Караткевіч, яго “Каласы пад сярпом тваім” і іншыя раманы, якія я пачаў чытаць прыкладна ў 1971 годзе. Ужо тады творчасць Уладзіміра Сямёнавіча значна ўзбагаціла маё мастацкае бачанне.

Шмат якія кнігі прачытваюцца адразу. У цэлым люблю чытаць гістарычную літаратуру, часта звяртаюся да дакументальных першакрыніц. Даўно збіраюся перачытаць класіку, раманы Аляксея Талстога, бо з часу, калі я чытаў іх у 9-м класе, прайшло шмат год. Караткевіча хочацца перачытаць. Бо таго, што я калісьці прачытаў, недастаткова. Зусім нядаўна перачытваў творы Якуба Коласа, чым застаўся вельмі задаволены. Пастаянна вяртаюся да паэзіі Янкі Купалы .

Запісала
Марына ВЕСЯЛУХА



Маляваны рай беларусаў — гэта мастацкае адлюстраванне свету, які здаўна існуе ў творчых летуценнях мастакоў нашага краю. Ад прыгожага біблейскага райскага саду, што стварала на дыванах Алена Кіш са Случчыны ў 1930-я; ад месяцавых краявідаў з сярэднявечнымі замкамі, увасобленых на дыванах Язэпа Драздовіча ў 1930 — 1950-я; ад размаляваных куфраў, яскравых кветкавых роспісаў на кардоне, шкле і дзівосных дываноў Паўла Марціновіча з Любаньскага раёна (1960-я) — не так і шмат часу прайшло да сённяшняга дня. Але ці ведаюць беларусы пра гэтыя цуды народнага жывапісу, які ў Еўропе называюць наіўным, альбо інсітным?



# Маляваны райскі сад

Думаецца, прыйшоў час звярнуць сур'ёзную ўвагу на гэтыя самабытныя нацыянальна-культурныя каштоўнасці, якімі беларусам варта ганарыцца. А разам з тым і паразважаць над філасофскімі, эстэтычнымі поглядамі незвычайных творцаў, работы якіх часткова захоўваюцца ў беларускіх музеях, цэнтрах культуры і дамах народных рамёстваў альбо маўкліва ляжаць у прыватных калекцыях ці апынуліся ўжо за межамі роднай краіны (як гэта адбываецца з творамі мастакоў Сяргея Каваля, Уладзіслава Стальмахова, якія сёння хутка знікаюць з беларускай прасторы за мяжу).

Паразважаць над мінулым і сённяшнім днём маляванага райскага саду беларусаў — такой была галоўная ідэя выстаўкі "Маляваны рай беларусаў", якую падрыхтавалі супрацоўнікі Гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Заслаўе". На жаль, не заўсёды адваротнае бывае бачным, а вядомае — помным. Хто памятае, напрыклад, той незвычайны ўздым самадзейнага мастацтва, які шырока распаўсюдзіўся на прасторах Беларусі ў 1970 — 1980-я? Толькі спецыялісты ведаюць сёння імёны мастакоў Фёдара Сухавілы, Фёдара Максімава, Марыі Ларынай.

Змяняюцца час, людзі, але застаецца адна непарушная рэч, якая ўвасобілася на карціне мастака і выказвае нам яго запаветную мару, яго надзею на райскае жыццё. Для мяне карціны самадзейнага ці наіўнага мастака адметныя не толькі шчырасцю пачуццяў, прыгажосцю родных краявідаў, але і няспыннай тугой па мастацкай гармоніі паміж чалавекам і прыродай, грамадства і асобных людзей, для якіх мастацтва — гэта свет найвышэйшай Прыгажосці, замілаванасці, любасці да ўсіх жывых істот. Вось той райскі сад, у якім заўсёды існуе магчымасць і для неверагоднай фантазіі ці казкі, і для аповедаў пра грахі людзей, якія перашкаджаюць ім успрымаць радасць зямнога жыцця. Запытайцеся сёння ў школьніка ці студэнта: "Навошта чалавеку рай? Чым рай адрозніваецца ад звычайнага зямнога жыцця?" І вы пабачыце, як сучаснік трэцяга тысячагоддзя апынецца ў складанай сітуацыі, бо ўяўленняў пра гэты рай у яго проста няма. Недахоп такіх ведаў можа кампенсаваць найбагацейшая крыніца фальклору, які занатаваў беларускі этнограф Аляксандр Сержпутоўскі ў "Прымхах і забабонах беларусаў-палешукоў", выдадзеных упершыню ў 1930 годзе, у запісах беларускіх казак са Слуцкага павету…

Экспазіцыя "Маляваны рай беларусаў" дае магчымасць наблізіцца да некаторых занядбаных каштоўнасцяў, створаных рознымі нашымі інсітнымі мастакамі на працягу XIX — пач. XXI стагоддзяў. Ад чырвонага кута з абразамі, упрыгожанымі ручнікамі з чырвонымі арнаментамі, якія сімвалізавалі нябеснае свята, пачынаецца паступовае ўваходжанне ў дзівосны свет маляванага дывана, які адчыняе перад гледачамі цуды райскага жыцця. Дыван "Коннік" з вёскі Бацілоўшчына Глыбоцкага раёна, створаны невядомым мастаком пры канцы 1930-х, распачынае сапраўдную мастацкую містэрыю. Кантрасты чорнага і белага, яскравага колеру на чорнаафарбаваным палатне, разам з буйнымі чырвонымі ружамі і раслінамі вакол "вакна" — цэнтра дывана, дзе адбываецца сустрэча казачна апранутых прыгожай князёўны (ці шляхцянкі) з маладым князем (ці шляхціцам) на конях — ствараюць незвычайную панараму ірэальнага дзейства на беразе возера. Мы эстэтычна паглыбляемся ў казку, пра якую яшчэ не чулі, у жыццё, якога ніколі не бачылі, у чароўны свет, пра які ніхто нам не казаў сёння. Ці ж гэта не дзіва? Кожны глядач можа прапанаваць сваю версію пабачанага і паспрабаваць зазірнуць у зачараваны свет. У гэтым, на маю думку, — духоўны і філасофскі феномен дывана маляванага, зробленага на тканіне, на шпалерах, на кардоне, на цыраце: калі жаданні і мары народнага творцы "праяўленыя" жывапісна, слоўнае тлумачэнне кожны глядач знойдзе самастойна. У нейкім сэнсе маляваны дыван можна лічыць першым жывапісным народным тэлевізарам, які працуе без дапамогі механізмаў і электрычнасці.

Вядомая сёння ў свеце наіўнага мастацтва Алена Кіш са Случчыны як ніхто іншы здолела перадаць беларусам свае нявыказаныя мары, надзеі, мроі пра жыццё ў свеце, дзе няма зла, забойстваў, крыўды і здрады паміж людзьмі. Алена Кіш наблізіла да нас той запаветны біблейскі сад, пра які ўсе ведалі, ды пазабыліся. Той найвышэйшы свет павагі і любові паміж людзьмі, у адносінах чалавека да прыроды, які з першых дзён утварэння жыцця на Зямлі існаваў як адзіная Гармонія. Але ж гэты маляваны сад Алены Кіш быў створаны ў страшэнныя 1930-я гады "класавай барацьбы"!.. Дзівосная праява невычэрпнай моцы Мастацтва, якое нястомна жывіць душы творчых людзей.

**Для таго, каб паказаць сёння творы класікаў беларускага наіву — Алены Кіш, Фёдара Максімава, Апалінарыя Пупко, Мікалая Засінца, Людмілы Трахалёвай, Вольгі Жарнасек, Марыны Ларынай ды іншых — неабходна стварыць у Беларусі музей наіўнага (інсітнага) мастацтва.**

Наіўныя мастакі, якія малююць воляю Бога ці Прыроды, ці ад няспыннай цеплыні свайго сэрца, і сёння вышукваюць на прасторах роднай зямлі спрадвечную Прыгажосць, але толькі з адной мэтай: каб падараваць яе людзям. Нашы сучаснікі Вольга Ярэська з Налібоцкай пушчы, Тамара Дауд з Салігорска, Сяргей Каваль з вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна, Антаніна Майсеева і Маргарыта Сайфугаліева з Віцебска, разьбяр і мастак Іван Супрунчык са Столінскага раёна, аўтар гэтых радкоў, разам з невялікай кагортай народных творцаў кожны дзень адраджаюць сваімі работамі захапляльны і дзівосны сад. Сад, у якім заўсёды ёсць месца для роздуму пра Вечнае, для сузірання Прыгажосці на зямлі і ў космасе.

Але ж чаму сёння так складана пабачыць маляваны рай беларусаў?

На маю думку, сярод важкіх прычын ёсць і такія. Работы мастакоў-самавукаў ці наіўных мастакоў успрымаюцца пэўнай колькасцю людзей як непаўнавартасныя мастацкія творы, што не маюць ні культурнай каштоўнасці, ні, адпаведна, і грашовага кошту. Але, зауважу, што творы Анры Русо, Поля Гагена, Вінсэнта Ван-Гога, Казіміра Малевіча — сусветна вядомых сёння мастакоў, якія не мелі ні прафесійнай мастацкай адукацыі, ні матэрыяльнага прыбытку ад сваіх работ — каштуюць сёння на аўкцыёнах больш як дзесяткі і сотні мільёнаў долараў.

Час рухаецца наперад. У 2009 годзе ў Маскве адбыўся аўкцыён па продажы карцін, напісаных вядомымі расійскімі палітыкамі, грамадскімі дзеячамі, спартсменамі. Агульная сума ад прададзенага склала 70 мільёнаў долараў, а карціна У. Пуціна "Украінская раніца" была набыта за самы вялікі кошт, карціна В. Мацвіенкі каштавала крыху меней.

Зразумелая палітычная і фінансавая выгада ад праведзенага мерапрыемства. Але куды важней разумець перспектыву развіцця гэтага напрамку мастацтва ў нашай краіне, дзе для гэтага ёсць спрыяльная атмасфера, якая пачынаецца "не з галавы, а з глебы", паводле слоў М. Шагала. У 1970 — 1980-я Беларусь нават на савецкай культурнай прасторы была шырока прадстаўлена творамі г.зв. самадзейных мастакоў, якія стварылі незабыўную панараму мастацкага жыцця, своеасаблівага мастацкага раю, які насычаў іх роздум пра будучыню краіны і сваё асабістае жыццё. Але для таго, каб паказаць сёння творы класікаў беларускага наіву — Алены Кіш, Фёдара Максімава, Апалінарыя Пупко, Мікалая Засінца, Людмілы Трахалёвай, Вольгі Жарнасек, Марыны Ларынай ды іншых — неабходна стварыць у Беларусі музей наіўнага (інсітнага) мастацтва.

Між іншым, канцэпцыя такога музея распрацаваная ў Музеі "Заслаўе" яшчэ ў 2002 годзе. А для таго, каб паставіць і накіраваць гэтую працу па дзяржаўных, а не прыватных рэйках, неабходна правесці інвентарызацыю ўсіх твораў г.зв. самадзейных мастакоў, якія захоўваюцца ў раённых аддзелах культуры, у дамах рамёстваў ці знаходзяцца ва ўласнасці родзічаў мастакоў, ды прыняць праграму развіцця наіўнага мастацтва ў Беларусі...

Гэта быў бы адзін з першых крокаў насустрач прыгожаму райскаму саду, які яшчэ магчыма захаваць ды паказаць беларусам і гасцям нашай краіны, што мы маем ад Бога і чым ганарымся. Можа, тады, калі нашы госці адведаюць смак сакавітых пладоў з гэтага райскага саду, мы і самі зразумеем пра сябе значна болей, чым цяпер...

Юрась МАЛАШ

Фота аўтара

# Барытон, які далёка гучыць!

**Фанабэрысты, самаўлюбёны, самаўпэўнены арыстакрат. Такім паўстаў малады саліст Ілья Сільчукоў у вобразе Жоржа Жэрмона ў оперы Дж. Вердзі "Травіята". Нават цяжка было ўявіць, што ў гэтым абліччы — малады артыст: так ён цудоўна пераўвасобіўся.**

У першыню арыю Жоржа Жэрмона Ілья выканаў, калі яшчэ быў студэнтам 5 курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і ўдзельнічаў у I Міжнародным конкурсе імя Ларысы Александроўскай. Малады спявак не толькі стаў лаўрэатам гэтага конкурсу, але і атрымаў спецыяльны прыз "За высокае акцёрскае майстэрства і яркую тэатральную выразнасць". Тады ж яго запрасілі ў Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі.

Зусім іншым — легкадумным свецкім чалавекам, гулякам, марнатраўцам жыцця, а пазней безнадзейна закаханым у Тацццяну Ларыну паўстае І. Сільчукоў у вобразе Яўгенія Анегіна. Артыст выкарыстоўвае ўсе фарбы, інтанацыі голасу, каб паказаць свайго героя ярка, вобразна.

У яго рэпертуары пакуль што нямнога роляў. Сярод іх — Каралевіч з оперы М. Рымскага-Корсакава "Кашчэй Бессмяротны", Вожык з дзіцячай оперы І. Польскага "Церамок". Спявак марыць пра выкананне лірычных партый, такіх, як Ялецкі ў "Пікавай даме" П. Чайкоўскага. З захапленнем спявае рамансы Г. Свірыдава, П. Чайкоўскага, У. Алоўнікава…

Спеўны голас Ільі — як бацькоўская спадчына. Любіць спяваць яго маці Ала Васільеўна, архітэктар па прафесіі, лірычны тэнар у бацькі Паўла Яўгенавіча, які скончыў Мінскае дзяржаўнае музычнае вучылішча імя М. Глінкі як вакаліст і цяпер спявае ў царкве...

Ілья скончыў Рэспубліканскі каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, спяваў там у Капэле хлопчыкаў, якой кіруе Уладзімір Глушакоў. Стаўшы студэнтам харавога дырыжорскага факультэта БДАМ, ён з асаблівага дазволу займаўся на вакальным аддзяленні МДМВ імя М. Глінкі. Педагог Сяргей Косцін займаўся з ім пастаноўкай голасу, дыхання, падрыхтаваў хлопца да Рэспубліканскага конкурсу вакалістаў імя Станіслава Манюшкі "Убельская ластаўка" і пазнаёміў з таленавітым спецыялістам — Адамам Мурзічам, які ўзяў І. Сільчукова ў свой клас. Адукацыю Ілья працягнуў на вакальным аддзяленні БДАМ у класе заслужанага артыста Беларусі, прафесара Пятра Рыдзігера.



Малады спявак пастаянна працуе над сабой, і яго прыгожы барытон усё часцей гучыць за межамі Беларусі, на міжнародных вакальных конкурсах. У 2007 годзе Ілья Сільчукоў стаў лаўрэатам першай прэміі XV міжнароднага студэнцкага конкурсу вакалістаў у Маскве "Bella-Voce". У тым жа годзе атрымаў трэцюю прэмію V міжнароднага вакальнага конкурсу імя Клаўдзі Таеў у эстонскім горадзе Пярну і спецыяльны прыз за лепшае выкананне "Ave Maria" Ф. Шуберта. У 2008-м да яго ўзнагарод дадаецца залаты медаль Сусветных дэльфійскіх гульняў у горадзе Саратаве. Спявак становіцца лаўрэатам Гранд-прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Зусім нядаўна ён перамог на двух міжнародных конкурсах вакалістаў у Славакіі…

Сярод беларускіх аматараў акадэмічных спеваў у Ільі ўжо нямала прыхільнікаў, якія з радасцю ходзяць на оперныя спектаклі, канцэрты з яго ўдзелам.

Вера КРОЗ

# Міф — Плакат — Нацыя

**Пралятаюць ландшафты за вокнамі літаратурнага экспрэса. Звыклыя краявіды сыходзяць, новыя разгортваюцца горнымі хрыбецінамі кніг, на іх узбіраецца зялёнае ўзлессе крытыкі, па іх блукаюць самотныя чытачы… Запавольваць хаду састава там, дзе цікава і можна купіць гарачыя піражкі ці ананасы, сёння просім чалавека, які зрабіў назіранне за літаратурай і дапамог заблукалым на старонках турыстам сваёй працай. Апошнія гадоў сем ці не штодня ёй даводзіцца пісаць пра літаратуру “ў нумар” (што значыць: здаваць тэкст у дзень атрымання задання) і пры гэтым намагацца не ахвяраваць хуткасці — якасцю. Зрываем стоп-краны разам з пісьменніцай, крытыкам, журналістам і аглядальнікам газеты “Беларусь сегодня” Людмілай Рублеўскай.**




## З «Літаратурнага прадмесця» шляхі на ўсе бакі

— Пані Людміла, вы шмат гадоў ведзяце суполку “Літаратурнае прадмесце”, дзе разнастайныя творцы, ад неафітаў да майстроў слова, збіраюцца, каб пачуць і пакрытыкаваць тэксты адно аднаго, чамусьці навучыцца. Адкрыццё новай спецыяльнасці ў Інстытуце журналістыкі БДУ ўскалыхнула цэлую хвалю дыскусій пра тое, ці можна выхаваць творцу — мастака, пісьменніка…

— Творцы — як рэдкія расліны: трэба ведаць, калі яшчэ трымаць пад шклянкай, калі выносіць на свежае паветра, калі падкарміць і калі падрэзаць. І калі перастаць няньчыцца. Дакладна гэтую навуку яшчэ ніхто не акрэсліў — і наўрад ці гэта магчыма. Калісьці я нават напісала пра гэта артыкул, які назвала “Галерэя для ананасаў”. Калі памятаеце, ёсць такі вобраз у “Майстры і Маргарыце”: прыслужнікі Воланда мяркуюць, што насельнікам Дома Грыбаедава там добра гадавацца, як ананасам у аранжарэі, але ж на ананасы часам гніль нападае… Навучыць быць пісьменнікам немагчыма. А вось стварыць асяродак, дзе тое, што чалавеку дадзена, вырасла б максімальна, не толькі можна. Гэта патрэбна. Добра гаварыць пра таленты, якія заўсёды праб'юцца, нават праз асфальт. Калі над табой асфальт — што зробіш, будзеш прабівацца і праз асфальт. А каб заміж асфальту — уробленая градка, творчасці мо і не пашкодзіла б, хто ведае. Прынамсі, на нейкім этапе творцу трэба і праз асфальт прабіцца, але на іншым этапе яму патрэбны асяродак, трэба патрапіць у аранжарэю. Максім Горкі дык у пэўны момант кінуў праходзіць “свае універсітэты” і паспрабаваў упісацца ў цывілізаваную інтэлігенцкую праслойку. Але ўсяму свой час: калі чалавек занадта рана патрапіць у сферу разнастайных творчых уплываў, яны яго перамелюць, зробяць падобным да іншых.

— У аснове працы “Літаратурнага прадмесця” ляжыць методыка, пазычаная вамі з Літаратурнага інстытута: творца рыхтуе свае тэксты на разгляд таварышам па семінары і выкладчыкам, таварышы разбіраюць ахвяру па костках, пры гэтым вучацца аргументавана выказваць сваю пазіцыю, а ахвяра, калі выжывае, прызвычайваецца вытрымліваць крытыку ў свой адрас. Якія мадыфікацыі адбыліся пры перасаджванні адпрацаванай у Маскве сістэмы на нашу глебу?

—У нас няма магчымасцей літінстытута, заняткі не падзяляюцца на тэарэтычныя і практычныя, кожная сустрэча, што называецца, вольнага плана — тэорыя, развагі, чытанне. Разбору творчасці кагосьці з аўтараў прысвячаем асобную сустрэчу, аўтар загадзя рассылае тэксты ўсім, хто хацеў бы выказацца пра іх.

— Падчас гэтых “разбораў” на стале заўжды прысутнічае валяр'янка — абмеркаванні бываюць жорсткімі?

— Намагаешся выпрацаваць уласнае меркаванне. Гэта вельмі важна — захаваць сваё меркаванне, калі ўсе кажуць насуперак. У суполку прыходзілі людзі з вельмі рознымі эстэтычнымі і этычнымі ўстаноўкамі, і нікога мы не пераламалі, усе захавалі сваю адметнасць. Я не раблю штамповак — толькі намагаюся стварыць асяродак. Тое, што адбываецца з прадмесцеўцамі, называю эфектам марскіх каменьчыкаў: у хвалях каменьчыкі адзін аб адзін б'юцца, кожны выяўляе свой узор, робіцца прыгожым, пры гэтым не страчвае сваёй сутнасці. Пакуль што ніхто не раскалоўся. Калі “Літаратурнае прадмесце” толькі стваралася, не хацелася нават называць яго літаб'яднаннем, бо, паводле стэрэатыпу, літаб'яднанне — гэта месца, дзе ўсе адзін аднаго хваляць, а кіраўнік гэтак паблажліва ўсіх заахвочвае. У нас жа без сю-сю. Літаратура ўвогуле рэч жорсткая, трэба адпачатку прывыкаць.

## Спадарожнік

— Вы навучаліся ў літінстытуце, але вучобу там не скончылі — перавяліся на філфак БДУ. Гэта быў покліч крыві, ці надакучыла, ці ўзялі ўсё, што можна было ўзяць?..

— Гэта быў Віктар Шніп (смяецца). Ён скончыў вучобу на Вышэйшых літаратурных курсах тады, калі я завяршыла першы курс аддзялення паэзіі. Вяселле адбылося ўлетку, і заставацца ў Маскве ён не збіраўся. Спрабавала перавесціся на завочнае, што не вельмі падабалася Віктару Шніпу, бо завочнікі — яшчэ большая багема, чым дзённае аддзяленне. Каб там вучыцца, трэба было мець практыку працы па спецыяльнасці – натуральна, мяне з адным курсам ніхто ў рэдакцыі не браў. Філфак даў магчымасць патрапіць у беларускамоўны літаратарскі асяродак, набыць тыя веды па беларускай мове, гісторыі, літаратуры, якіх мне бракавала (а канчатковы пераход на беларускамоўную творчасць адбыўся ў літінстытуце) – гатовая была трываць тыя прадметы, якія мала цікавілі, непасрэдна філалагічныя, з-за якіх ніколі і не хацела паступаць на філфак. Даздаваць давялося дзевяць прадметаў, у тым ліку латынь, стараславянскую мову. Усё гэта адлюстравала ў аповесці “Пярсцёнак апошняга імператара” – там мая гераіня пераводзіцца на філфак, і на яе таксама ўсе глядзяць з недаўменнем.

## Прыпынак “Архіўны”, скарбніца сюжэтаў (і выбух міфатворчасці)

— У кнізе “Время и бремя архивов и имён” (якую ўтвараюць артыкулы, што пісаліся для “СБ”) вы разам з Віталём Скалабанам распавядаеце пра малавядомыя факты з жыцця вядомых і забытых беларускіх творцаў. З аднаго боку, “счышчаеце бронзу”, падаяце класікаў жывымі, з іншага — спрабуеце вывесці белыя плямы з літаратурнай гісторыі. Чым такая праца вабіць?

— Гэта важная частка маёй творчасці, распачатая яшчэ да “Савецкай Беларусі”. А тут з'явілася магчымасць працаваць з прафесійным архівістам, гісторыкам, апрацоўваць сапраўды унікальныя факты. Гэта вялікая радасць, бо лічу сваім экзістэнцыйным доўгам не даваць знікнуць імёнам тых людзей, якія штосьці рабілі для краіны, літаратуры. Беларуская гісторыя і гісторыя беларускай літаратуры — амаль спрэс белыя плямы, хутчэй можна гаварыць пра маленечкія плямы каляровыя, дзе нешта выяўлена. У тым і цікаўнасць такой працы, архіўнага дэтэктыва. Чым больш даследуеш, тым больш адкрываеш таго, што яшчэ невядома. Гэта нават па артыкулах відно, часам з аднаго вынікае наступны: мы цытавалі рэцэнзію нікому не вядомага Мікалая Казюка на “Сярэбраную табакерку”, потым высветлілі, хто гэты рэцэнзент, за яго асобай паўсталі і іншыя персоны, з ім звязаныя. Такія даследаванні пераходзяць у нашу сучаснасць — дзякуючы артыкулам упершыню сустрэліся сваякі таго Казюка, якія адзін пра аднаго нічога не ведалі. Працу працягваем, пасля кнігі ўжо выйшла некалькі нашых з Віталём Скалабанам артыкулаў — адзін, напрыклад, пра невядомыя аўтографы Максіма Танка.

— Недаследаванасць адкрывае прастору творчасці. Адны спрабуюць у раманах аднавіць гісторыю, іншыя могуць зладзіць бурлескную яе містыфікацыю, як Сяргей Балахонаў у “Зямлі пад крыламі фенікса”…

— Ёсць даследаванне, метадалагічнае, навуковае ці, хай сабе, калянавуковае, эсэізацыя або белетрызацыя гісторыі. А ёсць яе міфалагізацыя. І гэтым займацца трэба абавязкова: Беларусі бракуе нацыянальных міфаў. Пра беларускі нацыянальны міф у мяне ёсць працы. Лакальныя міфы мусяць стварацца, каб з іх затым склаўся агульны — гэтым свядома займаюцца ў суседніх краінах. Паглядзіце, які ў Расіі выбух міфатворчасці: вось фільм “1612”, сярэднявечны рускі вывучае іспанскія ваенныя прыёмы, адваёўвае шпагай трон свайму цару, Мінін, Пажарскі і, Божа ты мой, што яшчэ. Да чаго міфалагізуецца персона Аляксандра Неўскага, хаця насамрэч яго самыя знакамітыя бітвы – лакальныя бойкі ў параўнанні з Грунвальдам. А мне часам чытачы задаюць пытанне, якім бокам Грунвальдская бітва з намі звязана... Лічаць яе часткай гісторыі польскай ці літоўскай, і гэта тады, калі ўжо дакладна даведзена гісторыкамі, што большасць удзельнікаў з боку Вялікага княства Літоўскага былі беларусы. Затое ўсе беларусы ведаюць, хто такі Аляксандр Неўскі. Што замінае нам стварыць такія самыя міфалагізаваныя постаці? Матэрыялу ў нас не менш. Павінны быць створаны і ўведзены ў абыходак міфы рыцарскай Беларусі, інсургенцкай, рэпрэсаванай. Гэта такі пантэон герояў! Гэта такая скарбніца сюжэтаў!

## Даехалі да крытыкі такой

— Вывучэнне гісторыі, напісанне раманаў і эсэ — вашы сродкі дасягнення мэты, папулярызацыі беларускай літаратуры. А літаратурная крытыка?

— У свой час дзівілася, што ў Саюзе пісьменнікаў секцыя крытыкі была самай вялікай. А потым працавала ў “ЛіМе” рэдактарам аддзела крытыкі і высветліла, што добрых крытыкаў, якім можна замовіць артыкул, запрасіць да дыскусіі, вельмі мала. У нас не рабілася падзелу паміж літаратуразнаўствам, крытыкай, эсэістыкай, публіцыстыкай, да крытыкі адносілася ўсё, што не ўласна мастацкі тэкст і не пераклад. Сёння жнём плады той сітуацыі, актыўных крытыкаў дасюль няшмат. І сябе не магу назваць крытыкам у чыстым выглядзе, хаця ў тым жа “ЛіМе” шмат рабіла менавіта як крытык. Частка таго, што пішу, — наўпроставая папулярызацыя літаратуры.

## Станцыя з плакатамі. Культуру ў масы, пралетарыям — па Данцовай

— За той час, што працуеце ў “СБ”, у вас выйшла каля 600 артыкулаў…

— Бяры больш. Каля тысячы тэкстаў напісала для газеты.

— І тэматыка вашых артыкулаў — літаратура: апрача вывучэння архіўных матэрыялаў, ведзяце гутаркі пра літаратурныя і калялітаратурныя праблемы, шмат год анансуеце новыя беларускія і замежныя выданні, даступныя ў нас. Якая з гэтай працы вымалёўваецца агульная карціна?

— Сумная. Але не выбітная. Нават моўная праблема — не прэрагатыва выключна беларусаў. Як і паўсюль, у нас адчувальны моцны ўплыў рынку, масавай літаратуры, якая вырабляецца не на беларускай мове і, што яшчэ горш, не беларусацэнтрычна. Яна дэфармуе чытацкую нацыянальную свядомасць. Ёсць небяспека параўнання, калі ў нас пытаюцца, дык дзе ваш Талстой, ці ваша Уліцкая, ці, прынамсі, Данцова. Любое такое параўнанне некарэктнае. Нацыянальная культура самакаштоўная, яе каштоўнасць не менш і не больш, чым у любой іншай, гэта як віды кветак або дрэваў, птушак. Нікому не прыйдзе ў галаву перабіць усіх галубоў, бо яны не чайкі. Чайкам ад гэтага лепей не стане, а свет у цэлым збяднее. Не толькі беларуская літаратура сёння пастаўлена ў неспрыяльныя ўмовы — уся, якая ствараецца дзеля нейкіх эстэтычных і этычных задач, а не дзеля продажу на рынку. Беларускі літаратар павінен увесь час нешта даводзіць: а) што ён ёсць; б) што ён не горшы за кагосьці. У нас талентаў на душу насельніцтва столькі ж, колькі і ў іншых народаў. Вялікае пытанне з перакладамі. Нічога сёння не пойдзе само па сабе, талентам трэба прамоцыя. Шмат сустракаюся з расійскімі калегамі і ведаю: і ў іх па правінцыях сядзяць цудоўнейшыя аўтары, выдаюць кніжкі па трыста асобнікаў… Без таго, каб падключыліся адпаведныя структуры, без піяру, граматнага менеджменту, перакладаў наўрад ці такая кніжка далёка пойдзе. Так, ёсць Інтэрнет, але ён сегментаваны на асобныя тусоўкі. Тыя, хто чытаюць беларускія тэксты ў Інтэрнеце, гэта пакуль лакальнае таварыства са сваімі прыхільнасцямі. Прызнанне гэтай тусоўкі — яшчэ не знак таго, што ты пайшоў у масы. Але ў нашай сітуацыі ўсе сродкі добрыя, таму Інтэрнет трэба выкарыстоўваць больш, перакладчыкаў шукаць.

— Праз самую тыражную штодзённую газету краіны ў вас ёсць выхад да сапраўды масавай аўдыторыі, да людзей, якія самі беларускай літаратуры, магчыма, зусім не чытаюць. Як яны рэагуюць на вашы тэксты?

— У асноўным беларускую літаратуру чытае філалагічнае кола. Але ёсць, і даволі шмат, не гуманітарыяў, якія могуць зацікавіцца, з задавальненнем пачытаць беларускія тэксты. Яны часта мне пішуць, наракаючы на тое, што няма арыенціраў: не ведаюць, што пачытаць, дзе знайсці кнігу, якую рэкамендую, калі яе няма ў іх мястэчку.

— Крытык Павел Абрамовіч у сваім блогу апісвае паляванне, якое даводзіцца ладзіць на выданні, калі яны ў мізэрнай колькасці з'яўляюцца ў адной-дзвюх кнігарнях…

— Тут бы і прыдалося насычэнне беларускімі тэкстамі Інтэрнэта. Навінкі, безумоўна, можна не змяшчаць, вытрымліваць пэўны тэрмін, пакуль прадаецца тыраж, але потым абавязкова выкладаць у сеціва. Што навінкі, калі ў нас класікі мала ў Інтэрнеце.

— Журналістыка патрабуе аператыўнасці, хуткапісання. За час працы ў газеце ці змяніўся ваш стыль пісання і мыслення?

— Гэтага я вельмі баялася: што журналісцкае хуткапісанне пашкодзіць майму пісьменніцкаму стылю. Баялася, што буду пачувацца як мастак, якому замест выкшталцоных палотнаў даводзіцца маляваць плакаты. Але гісторыя ведае нямала пісьменнікаў, якія працавалі журналістамі, ці прыйшлі ў літаратуру праз журналістыку. Хемінгуэй, Даўлатаў… Журналістыка нават спрыяе. Бо асноўнае патрабаванне да газетных артыкулаў — чытэльнасць, што супадае з сённяшнім патрабаваннем папулярнай літаратуры. Я хачу пісаць чытэльна. Не кажучы ўжо пра тое, што журналісцкае поле дае велізарны корпус матэрыялаў, якія потым магу выкарыстоўваць у сваіх мастацкіх творах.

— Гэтак ваш раман-інструкцыя “Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію”, які друкаваўся ў адным з літаратурна-мастацкіх часопісаў, паўстае з ведання архіваў пра рэпрэсіраваных творцаў…

— Зразумела, калі працую над вялікім творам, над раманам, дык працую і дадаткова. Жыву ў ім. І ў гэтым выпадку журналістыка перашкаджае, як перашкаджаў бы любы іншы занятак, які адбірае час і, што самае страшнае, мазгі. З рамана нельга выходзіць, асабліва калі ён у стадыі апагея. Даводзіцца пісаць па начах – ну пасплю пару месяцаў па чатыры гадзіны ў суткі, затое будзе твор. Здароўе пакуль вытрымлівае, хаця, праўда, бывае і кепска.

—У Расійскай Федэрацыі падлічылі: каб быць на слыху і не губляць чытача, пісьменнік павінен выдаваць кніжку раз на год. Ці не занадта?

— Па-мойму, нармальны тэмп, гэтак прынята па ўсім свеце, не толькі ў Расіі. Раман на год – гэта магчыма, а вось часцей — ужо халтура. У мяне прыблізна такі тэмп і вытрымліваецца: калі не раман, дык аповесць, нізку вершаў, цыкл апавяданняў за год падрыхтую. Іншая справа, што ў мяне няма магчымасці штогод выдаваць кнігу. Ну і спаць – хочацца.

Гутарыла
Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ



Народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі і беларускага пісьменніка Васіля Ткачова, які жыве і працуе ў Гомелі, аб'ядноўвае добрая літаратурная дружба... У памяці — верасень 2008 года. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і РВУ "Літаратура і Мастацтва" праводзілі ў Мінску міжнародны "круглы стол" "Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго". Прыехалі паэты, празаікі з Сербіі, Чарнагорыі, Таджыкістана, Расіі, Польшчы, сярод гасцей быў і народны пісьменнік Удмурціі Вячаслаў Ар-Сяргі. У размове з ім я заўважыў і наступнае: "Вось і працягваецца літаратурнае пабрацімства Удмурціі і Беларусі, якое распачалося яшчэ ў гады Вялікай Айчыннай вайны..." На Віцебшчыне ж ваяваў пісьменнік Міхаіл Лямін. Ён і кнігу напісаў пра вызваленне нашай старонкі — "Чатыры гады ў шынялі". Але Вячаслаў распавёў мне другую гісторыю беларуска-ўдмурцкіх літаратурных стасункаў.

# Удмурція. Юм'яшур. Беларускі адрас

— Да згадкі пра Ляміна можна дадаць і той факт, што пад Віцебскам у 1944 годзе па-геройску загінуў удмурцкі паэт Піліп Кедраў. Ведаю, што нават некаторыя яго вершы перакладзены на беларускую мову... І друкаваліся ў зборніку "І ўспомнім былыя паходы", выдадзеным у 1990 годзе. Укладальнік Міхась Няхай уключыў у кнігу два вершы Піліпа Кедрава — "Вер, Радзіма!" і "Адказ маці".

Знаю — цяжка табе
ў час такі.
Але ты выклік дай свайму болю.
Ты за вёску сxадзі да ракі,
Пакланіся там нашай таполі —
Той, якую ў сваёй старане
Мой братуха садзіў ля дарогі.
А другая таполя хай мне
Пра наказ нагадае твой строгі.
Я вярнуся, матуля, дамоў,
Пастаю са сябе і за брата,
Каб жыццё пасля цяжкіх баёў
Стала зноўку
шчаслівым, багатым.

Але не вярнуўся. Застаўся ляжаць у беларускай зямлі.

— Ды гісторыя літаратурнага пабрацімства доўжылася і ў наступныя дзесяцігоддзі, — расказаў далей Вячаслаў Ар-Сяргі. — Папершае, у Беларусі жыве і працуе пісьменніца Лідзія Возісава, якая нарадзілася ва Удмурціі. А яшчэ ў нас у Іжэўску ведаюць і любяць творчасць выдатнага празаіка Валерыя Болтышава, які нарадзіўся ў Віцебску. На вялікі жаль, ён нядаўна памёр. Апавяданні вашага земляка ў свой час заўважыў Сяргей Залыгін, блаславіўшы сваёю прадмовай першую маскоўскую кнігу Болтышава. А па-другое, ты ж павінен ведаць празаіка і драматурга Васіля Ткачова, які жыве ў Гомелі. Васіль Юр'евіч — часты госць ва Удмурціі.

Пачыналася усё ў 1970-я. Вось што расказвае ўжо пісьменнік Васіль Ткачоў:

— Упершыню я пабываў ва Удмурціі ў 1971 годзе, пасля заканчэння другога курса аддзялення журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Перад гэтым, зімою, аднакурснік Валерый Глездзянёў гасцяваў у маіх бацькоў, у вёсцы Іскань Быхаўскага раёна, дзе яны настаўнічалі ў мясцовай школе. А летам дамовіліся наведацца ў краіну "вечна зялёных памідораў", як жартуючы называў Валера свой родны край. Спярша я зазірнуў дадому, а потым ірвануў у невядомую і загадкавую для мяне Удмурцію. Валера сустрэў мяне ў Мажге (станцыя, праз якую цягнікі ідуць на Далёкі Усход). А пасля паехалі ў вёску Юм'яшур Алнашскага раёна. Па дарозе заехалі ў раённую газету, дзе Глездзянёў да арміі працаваў літсупрацоўнікам. Паабяцалі, што будзем пісаць у "раёнку"... У Юм'яшуры я пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай — Валянцінай.

Прайшлі гады. Так здарылася, што і Валерый Глездзянёў, і Васіль Ткачоў служылі ваеннымі журналістамі ў Туркестанскай акрузе. Разам з сем'ямі наведваліся ва Удмурцію. Валерый Глездзянёў і пазнаёміў свайго беларускага сябра з народным паэтам Удмурціі, галоўным рэдактарам дзіцячага часопіса "Кізілі" Германам Ходыравым. У Васіля Ткачова да гэтага часу ўжо была кніга апавяданняў для самага юнага чытача — "Хітры Данік". І Герман Аляксеевіч прыцягнуў калегу да актыўнага супрацоўніцтва ў часопісе "Кізілі".

— Калі я перабраўся з Сярэдняй Азіі на радзіму, у Гомель, мяне запрасілі да ўдзелу ва Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў у Караліщавічах, — расказвае Васіль Ткачоў. — Тады і пазнаёміўся з удмурцкім празаікам Пятром Чарновым. Сябраваў таксама з удмурцкімі пісьменнікамі Уладзімірам Раманавым, Міхаілам Фядотавым, Анатолем Дзям'янавым. Тады пазнаёміўся і з Вячаславам Ар-Сяргі. Разам выступалі перад чытачамі, ездзілі па рэспубліцы. Пасля Чарнобыльскай трагедыі я вазіў ва Удмурцію гомельскіх дзяцей на аздараўленне... Памятаю і літаратурнае свята ў райцэнтры Краснагор'е. Валодзя Раманаў, як і я, — апантаны грыбнік. Здаралася паўза паміж выступленнямі, мы ішлі ў лес. Аднойчы ідзём па гравійцы ў грыбы, а насустрач — трактар "Беларус". Валодзя мне і гаворыць: "Твой зямляк, Васіль..."

А слаўны сын Удмурціі журналіст, публіцыст Валерый Глездзянёў загінуў у Афганістане. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі (яшчэ адным быў адзначаны пры жыцці). Пахаваны ў Ташкенце. Васіль Ткачоў разам з жонкай і сынам пабываў на магіле сябра. Пра лёс яго напісаў вялікі нарыс "Варзінка — выток — рака". Напоўнены болем, перажываннямі пра страту, аповед быў надрукаваны ва ўдмурцкім літаратурна-мастацкім часопісе "Молот", у калектыўным зборніку, прагучаў па рэспубліканскім радыё... Зусім нядаўна пазваніў Вячаслаў Ар-Сяргі:

— Чытаю ў перакладзе на рускую мову новыя п'есы Васіля Ткачова. Збіраюся нешта прапанаваць нашаму тэатру.

А я ўспомніў факты з літаратурнай, тэатральнай гісторыі. Ішлі ж у свой час у Іжэўску спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў Кандрата Крапівы, Кастуся Губарэвіча, Аркадзя Маўзона, Андрэя Макаёнка...

Кастусь ЛАДУЦЬКА

# «Па-беларуску я пішу лепш»

Разумны, прыгожы, працаздольны, вельмі сціплы, схільны да перабольшванняў — так ён апісаў сябе. А я з усёй адказнасцю дадаю да гэтага спісу такія характарыстыкі, як гумарыст, бясспрэчны талент і інтэлігент. Акрамя таго, Аляксей з'яўляецца прызёрам конкурсу імя Карласа Шэрмана. Але найперш маю ўвагу да паэта Аляксея Арцёмава прыцягнула наступная акалічнасць: жыве ён у Туле — а вершы піша па-беларуску...

— Першае пытанне, якое адразу ў мяне ўзнікла, а ці былі вы калі-небудзь на Беларусі?

— Не, на Беларусі, на жаль, не быў ніколі, нея к не склалася. Жаданне, безумоўна, ёсць, запрашалі прыехаць, але пакуль не атрымалася: то справы з універсітэтам, то проста час прыезду нязручны. Але, калі магчымасць будзе, безумоўна, наведаю Беларусь. І перш за ўсё — Мінск, але таксама не адмовіўся б паехаць у Гродна, Полацк, Віцебск, Магілёў, Мір, Нясвіж...

— Дождж танчыць лезгінку. У душы грае Пяцігорскі раманс. Захапленне гарамі і Каўказам... Усё гэта — "каўказскія" матывы вашай творчасці. А што вы ўзялі для сябе беларускага?

— Каўказскія матывы з'явіліся пасля паездкі ў Пяцігорск, але гэта толькі адна з тэм, адна старонка дзённіка лірычнага героя. Беларуская тэма — аснова ўсёй творчасці, таму штосьці цытаваць тут немагчыма. Усё, што ствараецца на беларускай мове, — частка ўсёабдымнай беларускай тэмы і культуры наогул, незалежна ад нацыянальнасці і светапогляду аўтара. На пытанне "Адкуль што бярэцца?" адказаў таксама можа быць багата, і цяжка вызначыць, хто паўплываў больш, хто — менш.

— Радкі "і зноў святлом завабіць далячынь і зазвіняць вясёлай песняй росы" прасякнутыя аптымізмам і святлом. А вы сябе лічыце аптымістам?

— Аптымістам — наўрад ці, хутчэй рэалістам. Але мне ўжо не вельмі цікава пісаць пра нейкія сумныя, дэпрэсіўныя бакі жыцця. Хаця пачынаў я менавіта з такіх вершаў: тады мне здавалася, што гэта больш аб'ектыўная карціна свету.

— Вы казалі, што пачалі пісаць з 2000 года на рускай мове. А што падштурхнула да пяра?

— Ужо не памятаю, калі шчыра. Магу толькі сказаць, што пачуццё рыфмы і рытму было ўва мне з маленства. А вось чаму і як рыфмаванне ад асобных слоў перарасло ў паэзію — не ведаю... Некалькі разоў пісаў артыкулы пра кнігі іншых паэтаў, але я ўжо даўно гэтым не займаюся, бо ёсць людзі, якія могуць рабіць гэта прафесійна і цікава. Зараз яшчэ часам перакладаю на беларускую мову вершы ўкраінскіх, амерыканскіх паэтаў і "малую прозу". Нядаўна пераклаў апавяданне Сэлінджэра "Once a week won't kill you".

— Калі і як адбыўся пераход да беларускай мовы?

— Адбыўся два гады таму, пачалося ўсё з хайку на беларускай мове, потым пачаў пісаць і рыфмаваныя вершы. Адбыўся пераход нея к спантанна, я не ставіў на мэце змену мовы, але па-руску не пішу ўжо два гады і не адчуваю жадання аднаўляць гэтую "галіну дзейнасці".



— Ці згодныя вы з выслоўем "не ствары сабе куміра"?

— Пэўна, згодны. Хаця я магу назваць некалькіх пісьменнікаў, якіх нясорамна лічыць геніяльнымі: Караткевіч, Ясенін, Хлебнікаў, Багдановіч, Купала, Франко, Барадулін, Маякоўскі, Сэлінджэр і г.д.

— Распавядзіце, калі ласка, пра свой зборнік паэзіі "Двойная звезда".

— Выйшаў ён у студзені 2008 г., а пісаў я гэтую кнігу ў 2000 — 2007 гг. Надрукавалі яго ў выдавецтве "Тульский полиграфист" маленькім накладам, толькі "для сваіх". Выйшаў ён да таго, як я пачаў пісаць па-беларуску, таму зборнік рускамоўны. Кніжка даволі невялікая, 72 старонкі. У асноўным там арыгінальныя вершы, але ёсць некалькі перакладаў. Кніжка даволі змрочная, нягледзячы на светлую вокладку, большасць вершаў — песімістычная філасофская лірыка, некалькі вершаў "пра каханне". Ёсць там і даволі някепскія творы, аптымістычныя, але... Шчыра кажучы, на мой густ, па-беларуску я пішу лепш.

— Як вы лічыце, ці магчыма наогул у паэзіі нейкая канкурэнцыя? І што даюць конкурсы менавіта вам?

— Цалкам магчымая. Хоць паэзія — даволі суб'ектыўнае мастацтва, ёсць і аб'ектыўныя крытэрыі: валоданне словам, веданне рытмікі, уменне фармуляваць думку. Плюс досвед у паэзіі. Калі конкурс тэматычны, гэта асабліва заўважна. І пры гэтым, аб'ектыўныя крытэрыі не залежаць ад стылю аўтара: і класічны паэт, і авангардыст, і постмадэрніст павінны валодаць словам, думаць не па шаблоне. У конкурсах перакладчыкаў аб'ектыўных момантаў яшчэ больш: тут яшчэ трэба адчуваць "смак" іншых моў. Таму вызначыць лепшых заўсёды магчыма, хоць часам і няпроста. Я ў конкурсах удзельнічаю збольшага дзеля адрэналіну, зрэшты, і гонару яшчэ ніхто не адмяняў...

— Вы — студэнт ТДУ, вучыцеся па спецыяльнасці "Сістэмы аўтаматызаванага праектавання". Як на мой погляд, даволі нечаканы выбар для літаратара.

— Усё проста: літаратура — гэта добра, але трэба валодаць спецыяльнасцю, незалежнай ад натхнення, настрою і г.д. Сістэматэхніка, праграмаванне і праектаванне — справа не толькі сённяшняга дня. У інфармацыйнай прасторы гэтыя галіны дзейнасці будуць запатрабаваныя яшчэ шмат гадоў. Таму нічога дзіўнага ў такім выбары няма.

— З якіх моў перакладаеце (акрамя рускай, англійскай, украінскай)? І як часта падрадкоўнік становіцца вашым памагатым?

— Часам яшчэ з балгарскай, іспанскай (але гэта ўжо з дапамогай носьбітаў мовы). Валодаю рускай, беларускай, англійскай, разумею ўкраінскую мову. Падрадковымі перакладамі не карыстаюся прынцыпова, перакладаю з папяровымі слоўнікамі і іх электроннымі копіямі, часам кантактую з адмыслоўцамі-філолагамі (калісьці з дапамогай выкладчыка ўсходніх моў пераклаў некалькі рубаі Хаяма, але толькі дзеля забавы, не для публікацыі). Аўтаперакладчыкамі, кшталту Google Translate ці Promt, не карыстаюся. Таму чытачы ніколі не пабачаць маіх перакладаў з японскай, чачэнскай, ісландскай. І дзякаваць Богу!

— Якую мову вы лічыце роднай? Існуе ў Туле беларускамоўны асяродак?

— Роднай лічу рускую мову, бо размаўляў на ёй з дзяцінства, а беларускую вывучыў ужо самастойна. Але па духу, па гучанні беларуская мова мне значна бліжэй. А беларускамоўны асяродак у Туле існуе, у горадзе і вобласці жыве каля 6000 беларусаў, некаторыя з іх карыстаюцца роднай мовай дома, хаця іх, пэўна, вельмі нябагата. У Туле ўжо шмат гадоў жыве Уладзімір Васькоў, ён піша прозу для дзяцей, нядаўна ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" апублікавалі ў калектыўным зборніку яго казку. Таму нават невялікае пісьменніцкае асяроддзе ў нас таксама існуе.

— Хто з сучасных беларускіх літаратараў, на ваш погляд, заслугоўвае асаблівай увагі?

— З цікавых сучаснікаў, безумоўна, заслугоўваюць асаблівай увагі, Віктар Шніп, Андрэй Хадановіч (асабліва як перакладчык). Такіх людзей нямала, але гэта і так вядома. З малодых пісьменнікаў (умоўна палічым, што маладыя нарадзіліся ўжо ў васьмідзесятыя і пазней) — Рагнед Малахоўскі, Віка Трэнас, Валерыя Кустава, Дар'я Ліс і яшчэ каля дваццаці чалавек, якія апынуліся ў літаратуры невыпадкова. Хто з іх бліжэй, сказаць не магу, бо ўсе яны яшчэ "ў працэсе", таму нельга сказаць, што будзе з іх творчасцю ў бліжэйшыя гады. Але тое, што гэтыя людзі маюць талент, для мяне відавочна.

— Наколькі вядомая і папулярная беларуская літаратура ў вашым асяродку?

— Малавядомая. Многія чулі пра некаторых беларускіх пісьменнікаў, а вось чыталі — адзінкі. Але трэба сказаць, што з большасцю маіх знаёмых я пра літаратуру не гавару, яны не ведаюць, чым я займаюся, і гэта абсалютна нармальна.

Гутарыла
Наста ГРЫШЧУК,
студэнтка Інстытута
журналістыкі БДУ

## Гусіным пяром



Генадзь КОЎШ. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Александрыя Мастоўскага раёна. Пасля Дзярэчанскай СШ (1979), што ў Зэльвенскім раёне, скончыў фізічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Працаваў інжынерна-тэхнічным работнікам на заводзе "Оптык" у Лідзе. Служыў у войску (1985 — 1986). Пасля працаваў настаўнікам, дырэктарам школы ў Зэльвенскім раёне, намеснікам дырэктара школы ў Шчучынскім раёне. Цяпер жыве і працуе ў вёсцы Дзярэчын. Друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях. У 2009 годзе дэбютаваў зборнікам вершаў і разважанняў "Вершакроплі".

Сёлета выдаў кніжку вершаў "КРОКІ Ў ТУМАНЕ" ("Кнігазбор", рэдактар С. Чыгрын, наклад 100 ас.)

# «Крокі ў тумане»

Мы ўжо рэцэнзавалі першы зборнік Г. Каўша "Вершакроплі" (Жанна Капуста, "ЛіМ", № 6, 2010). Адразу зазначу, што ён мне падаўся цікавейшым, чым гэты, хоць аўтар і напісаў, дасылаючы яго ў рэдакцыю, што ўлічыў усе крытычныя заўвагі на сваю папярэднюю кніжку… За год аўтар паспеў напісаць і выдаць новы зборнік вершаў! Ці не вельмі хутка, тым больш маючы "на руках" не зусім, скажам, станоўчую рэцэнзію на папярэдні?

Але ёсць як ёсць. Былі, відаць, грошы, была магчымасць — вось і выдаў тое, што было пад рукой… З надзеяй, як пісаў рускі паэт Ю. Кузняцоў, што "там разберутся. Там разберутся…"

Што ж, паспрабуем.

Адразу пра станоўчае. Асабіста мне найбольш істотным падаўся уступ Генадзя Каўша да свайго другога зборніка. Працытую штокольвечы адтуль: "Крок. На першы погляд усяго толькі кароценькае слова, але якое яно ёмістае і канкрэтнае. Крок — самастойнасць. Крок — мэтанакіраванасць. Крок — рашучасць. Крок — смеласць. Крок — баязлівасць. Крок — дзеянне для дасягнення мэты. Але самае галоўнае, крок — гэта тое, з чаго складаецца шлях". Як бы й банальна, але далей, сыходзячы з логікі наступстваў і іх пераадоленняў, ён спрабуе даць чыста метафізічную пазнаку чалавечага існавання: "Для характарыстыкі чалавека, я лічу, акрамя біялагічных параметраў неабходна прымяняць і характарыстыку ягонай хады, бо ў хадзе праяўляецца ўнутраны стан чалавека — стан яго душы. Таксама для таго, каб выявіць, што ўяўляе сабою чалавек, неабходна высветліць, што ўяўляюць яго шляхі".

Адчуваецца, у тым ліку і па першым зборніку, што Г. Коўш — гэткі мястачковы думаннік. Яго ўступнае эсэ не менш цікавае за вершы. Бо на паўнавартасны верш, як мне бачыцца, яго не заўсёды хапае. Тады як на кароткае "разважанне" – яго залішне. Як часта кажуць, аўтар у сваіх творах "празмерна пунктуальны". Ён, з ухілам на прыземленую філасофію, хоча патлумачыць і дасталкова вядомае і невытлумачальнае па сваёй сутнасці… Яго аднастрофныя верлібры часам нагадваюць сафізмы. Мажліва я памыляюся, але Генадзю Каўшу бракуе спецыяльных ведаў і глыбокай начытанасці ў тых праявах чалавечага інтэлекту, на якія ён "замахваецца". У яго ёсць такі кароценькі верш:

Пра сябе?
Я –
сур'ёзны
летуценнік.

І гэта, бадай, адна з найбольш вычарпальных самахарактарыстык аўтара. Шкада, што яна можа з'явіцца асноўнай перашкодай для яго творчасці. Бо знайсці паэтычную гармонію і суладдзе паміж сур'ёзным і мройлівым — задача звыш складаная. Ну вось, прыклад:

Што такое Цішыня?
Цішыня — Спакой.
Не.
Спакой і ёсць Спакой.
Цішыня — Нерухомасць.
Не.
Нерухомасць і ёсць Нерухомасць.
А можа Цішыня —
маўчанне Бога?

Дзеля аднаго змястоўнага — апошняга — радка напісаны яшчэ шэсць абсалютна пустапарожніх. Навошта? Я думаю, аўтар гэтага і сам не разумее. Хацеў, летуценячы, паказацца чытачу ўдумнасур'ёзным… З гэтай жа "оперы", мяркую, і наступная, аля-разанаўская, казуістыка:

Мова —
рэха маўчання.
Маўчанне –
думкі.

Прывяду яшчэ колькі супраціўных мне і ўвогуле не надта ўдалых радкоў з новага зборніка Г. Каўша: "Там здзічэў і адцвіў// шэраг яблынь маіх", "Ты выпусці вецер з душы", "Мы плавалі ў шчасці на беразе двое", "Ты — крыніца ягонай вады", "Падзеі не пакутуюць"…

Памятаецца, Ж. Капуста ў сваёй рэцэнзіі на першы зборнік Г. Каўша пісала, што ён "выглядае ў новых вершах тонкім псіхолагам. Толькі не на ўзроўні мыслення, а на ўзроўні назірання за найменшымі праявамі шматколернай рэчаіснасці. (…) Ёсць і не вельмі ўдалыя вершы, якія, не маючы паэтычнай прыцягальнасці, выглядаюць наборам выпадкова прысуседжаных слоў. Часам, дарэчы, яшчэ і не вельмі дбайна падабраных слоў – і ў стылёвым сэнсе, і ў моўным." Тое ж, як бачым, паўтараецца і ў новым зборніку, хоць аўтар і дэклараваў пры яго перасылцы, што ўлічыў папярэднія заўвагі рэцэнзента. І гэта па сённяшнім часе рэдкасць — удзячнасць крытыку-рэцэнзенту. Таму, думаецца, што пры такім падыходзе творчая справы надалей у Г. Каўша подусць больш паспяхова. Хоць і гэтаму зборніку адчувальна бракуе рэдактара-прафесіянала, які б сапраўды скрупулёзна і сумленна папрацаваў над рукапісам і дамогся свайго ад аўтара. Рэдактарам гэтай кніжкі з'яўляецца С. Чыгрын — вядомы краязнаўца са Слоніма, сам аўтар зборніка вершаў і некалькіх вершаваных падборак у рэспубліканскім друку. Таму тут хутчэй за ўсё спрацавала народнае правіла: "хто плаціць, той і заказвае музыку". У дадзеным выпадку — аўтар. Безумоўна, у гэтым няма нічога заганнага. Напісаў чалавек вершы на роднай мове, выдаў іх невялікім накладам. Трацiну падараваў сваякам-сябрам-знаёмым-калегам. Астатнія — хочаш купляй і чытай, не хочаш – абміні… Але ж кніжка яшчэ дасылаецца і ў сталічныя рэдакцыі. Бо якому ж аўтару не хочацца мець на сваё "дзецішча" хоць нейкі (найлепш, вядома, станоўчы) водгук. І нам тут трэба яго — не пакрыўдзіць, пры гэтым захаваўшы свой "крытычны твар" і якоенiякое літаратурнае рэнамэ… Агулам — цэлая правінцыйная філасофія вымалёўваецца.



Калі ж казаць зусім шчыра, то, як паэт, Генадзь Коўш пасрэдны. А вось думаннік — адмысловы. Чаго яму бракуе ў творчасці найперш? Уласнага літаратурнага почырку, адметнага стылю пісьма. Думаю — і ўпарадкаванага прачытання класічнай і сучаснай літаратуры, як беларускай так і замежнай. Не хапае і блізкага па духу атачэння людзей, з якімі можна было б пагаварыць, абмеркаваць ці проста падзяліцца сваімі думкамі і напісанымі творамі… Няма, як пісаў А. Пушкін, зваротнага голасу: "Плывёшь… Тебе ж нет отзыва. Таков и ты, поэт".

Праўда, вось і з Жаннай Капустай я не пагаджуся адносна такой яе высновы:

Калі б зборнік складаўся толькі з вершаў, то гэта не зрабіла б яго няпоўным і непаўнавартасным, а, хутчэй, наадварот — больш цэласным і гарманічным. У "Разважаннях" усё ж многа трывіяльнага, таго, што не здольна ўразіць і запомніцца". Уласна ж мне падаецца, што якраз "разважанні" найбольш супадаюць з "рытмам аўтарскай хады" і яго мысленнем. Але гэтыя думкі трэба шліфаваць адмысловым і запамінальным стылем.

Не абыду добрым словам і станоўчых паэтычных напрацовак Г. Каўша. Не зважаючы на блізкія наследаванні класічным і вядомым творцам (М. Багдановічу, Янку Купалу, А. Русаку, А. Разанаву — і гэта вельмі добры знак, бо такая практыка неўпрыкмет падымае версіфікацыйны і мастацкі ўзровень самога аўтара), Г. Коўш, як паэт, застаецца адносна самабытным, хоць агулам патэнцыял яго літаратурных здольнасцей значна вышэйшы.

Вось цытата з яго верша, якая выклікае асацыяцыі з М. Багдановічам:

Дзіўна сонца
згарала за возерам.
Ціха промні
ў вадзе паласкаліся.
Ты сваім зачароўвала позіркам.
Твае вусны так міла ўсміхаліся.
Вецер дрэвы гайдаў
вельмі стомлены.
Дзень старэў
ні на што не зважаючы.
Ты стаяла абнятая промнямі,
Недзе ў думках
высока лятаючы.

Выбітныя лірычныя строфы, каб не прымешвалася адчуванне, што нешта блізкае ўжо недзе чыталася табой. Наогул цыкл "Крокі кахання" навеяны аўтару лірыкай Максіма Багдановіча ці напісаны пад уздзеяннем ад яе прачытання. А вось у цыкле "Крокі да Радзімы" сям-там прачытваецца ранні Янка Купала:

Словы — птушкі,
словы — вецер.
Словы — шчасце і бяда.
Словы сцелюцца па свеце.
Словы льюцца, як вада.
Словаў многа, цэлы зграі.
Цэлы свет, а можа, два.
Словы песцяць і кахаюць.
Словы мелюць, як жарства.
Людзі — камні, людзі — вата.
Людзі — дрэвы і трава.
Людзей розных так багата.
Нібы ў свеце харства.
Людзей многа, цэлы моры.
Людзей — поўны акіян.
Людзі ў шчасці, людзі ў горы.
Не зямля — людскі дзірван.

Сустракаецца і нешта суладнае шырокавядомым песенным матывам Адама Русака:

Сто год вы жывіце.
Дзяцей нараджайце.
Хай сэрцы палаюць.
Кахайце! Кахайце!
Хай жыта красуе
На вашай зямельцы.
Хай Бог вас шануе
З каханнем у сэрцы!
Шчасліва жывіце.
Турботаў не знайце.
Хай гора мінуе
Кахайце! Кахайце!

Так і аддае ў памяці:

Бываце здаровы,
жывіце багата!
А мы ўжо паедзем
дадому, да хаты.

Не так і мала набіраецца ў зборніку цэльных дабротных вершаў. Прынамсі, і ў гэтым вось вершы няма тых стрэмак, якія пярэчаць асноўнай ідэі твора:

Калі глядзець
праз брудныя шыбы
акна,
Знешні свет
уяўляецца брудным.
Калі глядзець
праз чыстыя шыбы
акна,
Знешні свет
уяўляецца разнастайным.
Калі глядзець
праз выбітую шыбу ў акне,
Знешні свет
уяўляецца скразняком.

Альбо, скажам, такі даволі арыгінальны верш:

Глабальнае
пацяпленне —
Восень
сустракаецца з вясною.
Зіма памерла.
Глабальная страта.

Змястоўны сваёй унутранай пранікнёнасцю і гэты чатырохрадковік Г. Каўша:

Мястэчка.
Замак.
Вялізныя
вокны —
Вочы прадкаў.

Напрыканцы ж працытую наступнае:

Я
Ні на што
Не прэтэндую.
Бо
Прэтэндую
На Ўсё.
Усё — і ёсць Я.
Я
Прэтэндую
Сам на сябе.

І добра. Хоць, найперш, паэт павінен прэтэндаваць на свайго чытача. Зрэшты асноўны чытач быў вядомы Г. Каўшу ад пачатку — гэта я, ягоны "штатны рэцэнзент" сталічнай літаратурнай газеты. Таму скончу такой ягонай сентэнцыяй:

Калі апускаецца ўзровень, паднімаецца
Дно.

Без крыўды. Са спадзяваннем на сустрэчу з яго новымі цікавымі вершамі.

ЛеГАЛ

# І зямля тут — паэтычная

Споўнілася 25 гадоў літаратурна-паэтычнаму клубу "Ветразь" пры Чэрвеньскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Яго дэвіз — "Ні дня без кнігі". Пасяджэнні праходзяць кожны апошні чацвер месяца. Адбыліся ўжо літаратурныя вечары, прысвечаныя С. Ясеніну, лірыцы паэтаў XIX стагоддзя, творчасці А. Вазнясенскага, У. Высоцкага, літаратурна-музычная кампазіцыя па творчасці М. Багдановіча.

Для нас, чэрвеньцаў, імя Максіма Багдановіча блізкае і дарагое. Маці паэта — Марыя Апанасаўна Мякота — нарадзілася ў нашым горадзе. Бацька — Адам Ягоравіч Багдановіч — пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай гімназіі ў 1882 г. працаваў настаўнікам у Ігумені (цяпер Чэрвень). Да 100-годдзя паэта супрацоўнікі бібліятэкі правялі вялікае літаратурнае даследаванне жыцця і творчасці М. Багдановіча, матэрыялы былі выдадзены ў выглядзе сцэнарыя літаратурна-музычнай кампазіцыі "Страцім — лебедзь". Намаганнямі сяброў клуба "Ветразь" і грамадскасці горада ў 1991г. быў перайменаваны завулак Магілёўскі, дзе ў XIX ст. жыла сям'я Мякотаў, у вуліцу М. Багдановіча. Да 110-годдзя паэта на пасяджэнні клуба быў праведзены вечар-аповед "Каханне і смерць". А ў 2006 годзе на гарадскіх могілках Чэрвеня адшукалі магілу дзеда Максіма Багдановіча па мацярынскай лініі. Дапамог краязнаўца старшыня клуба "Ветразь" Уладзімір Дарагуж.

Адметнымі падзеямі сталі святочныя ўрачыстасці ў гонар юбілея ў Якуба Коласа і Янкі Купалы. У вёску Грабёнка прывозіў сваіх вучняў на іспыты настаўнік Верхменскага народнага вучылішча (цяпер Верхменская сярэдняя школа ў Смалявіцкім раёне) Якуб Колас. Тут ён сустракаўся з моладдзю, ліставаўся з вучаніцай Ігуменскай школы Інесай Грамыкай. Даследаванне "Сцежкі Якуба Коласа скрыжоўваліся на Ігуменшчыне" правяла бібліятэкар І. Дзмітровіч.

Сябрамі клуба "Ветразь" з'яўляюцца людзі, якіх аб'ядноўвае любоў да кнігі, паэзіі, музыкі.

З першых дзён актыўным удзельнікам клуба з'яўляецца Уладзімір Дарагуж — настаўнік фізікі, чалавек усебакова адукаваны, які мае багатую бібліятэку і фанатэку.

Сябрамі клуба "Ветразь" з'яўляюцца добра вядомы беларускаму чытачу паэт, драматург і празаік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Аўласенка, настаўнік беларускай мовы і літаратуры, цяпер пенсіянер Яўген Несцяровіч, былы настаўнік беларускай мовы і літаратуры, цяпер пенсіянер Уладзімір Адамовіч і яго дзеці Ігар і Святлана, якія працуюць у рэдакцыі газеты "Раённы веснік". Таксама Ксенія Баталіна, былы навуковы супрацоўнік дослеаднай станцыі, спецыяліст-аграрнік, ды іншыя.

Выдаюцца зборнікі вершаў удзельнікаў клуба "Ветразь" пад назвай "Мая Ігуменшчына". Таксама выдадзены паэтычныя зборнікі Юрыя Бабіча "Шукаю першую праleску", Святланы Адамовіч "Роздум", Валянціна Дзядзюка "За годам год", Ігара Адамовіча "Споведзь".

Галіна НІЦІЁЎСКАЯ,
загадчык аддзела
маркетынгу Чэрвеньскай
раённай бібліятэкі

# Тадэвуш Ружэвіч

Патрыярх польскай паэзіі Тадэвуш Ружэвіч нарадзіўся ў 1921 годзе ў правінцыйным мястэчку Радомска. Зрэшты, у гэтым маленькім гарадку працавалі тры кнігарні, дзе браты Ружэвічы – Януш, Тадэвуш і Станіслаў – лёгка маглі знайсці свежыя часопісы, новыя кнігі Стафа, Пшыбася, Івашкевіча, Галчыньскага. Мяжу паміж дзяцінствам і сталасцю правяла вайна: у гестапа быў закатаваны старэйшы брат Януш, малады паэт. Малодшыя браты ўдзельнічаюць у падполлі, а пасля пераходзяць у партызанскі атрад Арміі Краёвай. Пасля вайны Ружэвіч едзе ў Кракаў і паступае на аддзяленне гісторыі мастацтваў Ягелонскага універсітэта. У 1947 годзе з'яўляецца кніга паэзіі "Непакой". Паэт адразу ж прымаецца ў кола найвядомейшых паэтаў Польшчы. Чэслаў Мілаш прысвячае яму оду. Станіслаў Лем і Юліян Пшыбась пішуць ухвальныя рэцэнзіі на зборнік. Леапольд Стаф становіцца блізкім сябрам Ружэвіча, сяброўства гэтае працягваецца да смерці Стафа ў 1957 г. Паводле верша Ружэвіча цэлае пакаленне палякаў называюць "пакаленнем ацалелых". З 30 гадоў паэт пастаянна жыве ў Вроцлаве, амаль нікуды не выязджае, рэдка дае інтэрв'ю і пільна ахоўвае сваё прыватнае жыццё. Ён ніколі не падпісваў літаратурных маніфестаў і калектыўных заяваў, не ўваходзіў у масавыя арганізацыі і групы літаратараў.

Адасобіўшыся ад свету, Ружэвіч пачынае дыялог з антычнасцю і нямецкай філасофскай лірыкай. Паэты і сімвалы мінулага становяцца яго суразмоўцамі. Прыкладна з 1960-х увага творцы пераходзіць на сучаснасць: Ружэвіч жорстка выкрывае здрабненне чалавека, крытыкуе і высмейвае масавую культуру, сумятню і рэкламную павярхоўнасць ва ўяўленнях пра сутнасць мастацтва і сэнс чалавечага жыцця. Разам з тым, ён шукае для гэтага здрабнелага чалавека апірышча – і знаходзіць яго ў чалавечнасці, дабрыні, любові. Толькі яны могуць прадухіліць "людажэрства". Своеасаблівыя адносіны склаліся ў Ружэвіча з хрысціянскай рэлігіяй. Дзесяцігоддзямі ён вядзе з ёю спрэчку, але спрэчку надзвычай сур'ёзную і адказную, з разуменнем значнасці процілеглага боку. Дыскусія гэтая доўжыцца.

Верш Ружэвіча пазбаўлены рыфмы і знакаў прыпынку (праўда, на пачатку паэт часткова іх прымаў); паэт унікае і традыцыйных памераў вершаскладання. Увогуле, Тадэвуш Ружэвіч лічыцца ініцыятарам верлібрызацыі польскай паэзіі ў 2-й палове XX ст. Мілаш пісаў, што Ружэвіч прагне максімальна "абястлусціць" верш, зняць з яго ўсе прыгоствы і праз гэта дасягнуць непасрэднасці ўспрымання. Практыка "ацалелага" спарадзіла велізарную цікавасць. Некаторыя даследчыкі нават вылучаюць "школу Ружэвіча", хоць сам паэт, безумоўна, імкнуўся зусім не да гэтага.

Знаёмства з Тадэвушам Ружэвічам на Беларусі адбылося праз пасрэдніцтва Янкі Брыля, які ў 1967 годзе пераклаў адно з апавяданняў польскага творцы (Ружэвіч шырока вядомы і як празаік, і як драматург). Асобныя вершы Ружэвіча перакладалі Максім Танк, Я. Семяжон, В. Сёмуха, Я. Чыквін, У. Мархель, М. Казлоўская. Адну з п'ес, "Майстар галадання адыходзіць", пераствaрыў С. Кавалёў. Прапаную чытачу падборку вершаў, якія яшчэ не перакладаліся на беларускую мову. Тэматычна яны выразна падзяляюцца на ранні вершы (пасляваенная часу) і сталую філасофскую лірыку.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



На здымку: Тадэвуш Ружэвіч (злева) і Гюнтэр Грас. Варшава, 2006 год.

## Ацалелы

Мне дваццаць чатыры гады
я ацалеў
пасля бойні.

Гэтыя назвы пустыя
і адназначныя:
чалавек і жывёла
каханне і нянавісць
вораг і сябар
цемра і святло.

Чалавека забіваюць нібы жывёлу
я бачыў:
фургоны пасечаных целаў
тых хто не зазнае збавення.

Усе паняцці гэта толькі словы:
святасць і грэх
праўда і хлусня
краса і брыдота
мужнасць і баязлівасць.

Аднолькава важаць святасць і грэх
я бачыў:
чалавека што быў адначасна
грэшнікам і святым.

Я шукаю настаўніка й пастыра
хай верне мне зрок слых мову
хай зноўку дасць назвы рэчам
і з'явам
хай аддзеліць святло ад цемры.

Мне дваццаць чатыры гады
я ацалеў
пасля бойні.

1946

## Мясныя крамы

Ружовыя ідэалы
пачвартаваныя
вісяць у мясных крамах

Тут жа гандлююць
маскамі блазнаў
стракатымі пасмяротнымі
знятымі з нашых твараў
з нас жывых
з нас што перажылі
што так доўга глядзелі
ў вачніцы вайны.

## Каштан

Самае сумнае выпраўляцца
з дому восеньскім ранкам
калі нішто не абяцае
хуткага вяртання

Каштан каля дому пасаджаны
бацькам расце ўвачавідкі

Мама такая маленькая
яе можна насіць на руках

На паліцы стаяць слоікі
поўныя сочыва
яны як багіні з салодкімі вуснамі
захавалі смак
вечнай маладосці

войска ў кутку шуфляды ўжо
да канца свету застанецца
алавяным
а ўсемагутны Бог які дамешваў
горыч да слодычы
вісіць на сцяне бездапаможны
і кепска намаляваны

Дзяцінства як сцертая выява
на залатым талеры
звонкім

***

Я крыкнуў на Яе
дзесяць год таму

сышла
ў пантофлях з чорнай
блішчастай паперы

«не тлумач нічога
– сказала Яна –
не трэба»

я крыкнуў на Яе
ў пустым
бальнічным калідоры

быў ліпень спёка
лупілася фарба
на сценах

ліпы пахлі
ў гарадскім пакрытым сажаю
парку

я бязбожны
хацеў для яе выплакаць паплавы
калі канаючы
задыхаючыся адпіхвала
пусты і вусцішны іншасвет

яна на імгненне вярнулася
да сябе ў вёску
я хацеў для яе вымаліць
у апошнюю гадзіну
дрэва
хмару птушку

бачу яе маленькія ножкі
ў вялікіх папяровых
пахавальных пантофлях

я сядзеў між
сталом і труною
бязбожнік чакаў цуду
ў прамысловым задушлівым
горадзе другой паловы
XX стагоддзя

і гэта плача
выцягнутае з мяне
на святло

## Святло цень

Калі на мой верш
падае цень
бачу ў ім святло
крохкае ўпартае
жыццё

маленькая смерць
робіць першыя крокі
выспявае хутка
расце
уночы кладзецца спаць
на маім сэрцы
на вуснах
як мора
на чорным камяні
ты крычаў уначы
кажа жонка
жахліва
жудасна

гэта смерць ува мне жывым
свідравала тунелі
крычала ўва мне
як закінутая пячора
поўная касцей

калі на мой верш
падае святло
я бачу ў ім смерць
чорнае зерне
спарынні
ў залатым коласе
што адплывае
за далягляд

верасень 1983

## Забойства дзяцей

Дзеці плакалі: «Мама!
я ж быў паслухмяны, мама!»
Як цёмна! Цёмна!

Вы бачыце іх Яны ідуць на дно
Бачыце маленькія ножкі
пайшлі на дно Ці бачыце
гэты след
маленькія ножкі тут і там

Іх кішэні поўныя
каменьчыкаў конікаў з дроту
і каляровых шкельцаў

Вялікая роўнядзь замкнёная
геаметрычнай фігурай
па-над ёй дрэва чорнага дыму
вертыкальнае
мёртвае дрэва
без зоркі ў кроне

Музей — Асвенцім, 1948

## Раптам

раптам я ўбачыў у газеце
штосьці што нагадвала верш

літары словы
якія нагадвалі
нейкія іншыя словы
падобныя да гэтых слоў

нейкія метафары
папяровыя вантробы
вобразы сабраныя
на сметніку гісторыі
па сметніках паэзіі

плямы словаў
кішэлі
на газетнай
паперы
ўцякаючы ад сябе

было там імя і прозвішча
аўтара тое ж імя
і прозвішча
гэта ён падумаў я
ён ці не

пачаў чытаць
яшчэ раз
з пачатку
але зноў не зразумеў
не зразумеў нічога
як быццам адышоў
далёка ад гэтага месца
ад гэтай мовы
ад самога сябе

лістапад 1982

## Яны прыйшлі каб убачыць паэта

Яны прыйшлі каб убачыць паэта
і што яны ўбачылі?

убачылі чалавека
які сядзеў на зэдліку
які закрыў твар

праз хвіліну вымавіў
шкада што вы не прыходзілі
да мяне
гадоў з дваццаць таму

тады адзін з маладзёнаў
адказаў
нас яшчэ не было
на свеце

прыглядаючыся
да чатырох твараў
адбітых у каламутным люстры
майго жыцця
я пачуў
аднекуль здалёк
іх чыстыя і моцныя галасы

над чым вы зараз працуеце
што вы робіце

Адказваю
нічога не раблю
пяцьдзесят год выспяваў я
для гэтай складанай справы
і зараз калі «нічога не раблю»
я раблю НІЧОГА
пачуў смех
калі нічога не раблю
то знаходжуся ў цэнтры
і выразна бачу тых
хто выбраў дзеянне

бачу іх сякія-такія дзеянні
паперадзе сякіх-такіх развaжанняў

сякі-такі Густаў
ператвараецца
ў сякога-такога Конрада

сякі-такі фельетаніст
у сякога-такога маралiста

чую
як абы-хто кажа абы-што
абы-каму

сякі-такасць апанавала масы і эліты

але ўсё гэта толькі пачатак

## Звеставанне

Звеставанне паэзіі
будзіць у чалавеку
поўным жыцця
спалох
водбліск слова
вызалачанага ў цемры
язык агню
над маўклівай галавой

галовы раўналеткаў
пакаціліся далей
більярдавыя шары
на зялёным лузе

малады чалавек
адштурхоўвае крылатае слова
усміхаецца
пацiскае плячыма

не люблю паэзіі кажа ён
не ведаю што з ёй рабіць
разгублены пакідае
бацькоўскі дом

змучаны вандроўкай
уклёнчвае над люстранoй
роўняддзю
спалоханы ўцякае
і раптам робіцца паэтам

закохваецца
ў сябе
глытае яго horror vacui
паэт поўніць
пустэчу словамі
так доўга чэрпае
з крыніцы што трапляе
на камень
у дарозе губляе словы
слепне запальвае маленькую
жоўтую свечку
перад абліччам велізарнага сонца

крыніца з якой імкне
жывая паэзія –
побач

цёмныя постаці
мыюць у ёй рукі
з якіх сцякае кроў

бяздомны сабака
сёрбае ў цішыні
ваду

## Пакаранне

Ужо сёння
ў гэтую хвіліну
жыццё без веры гэта прысуд
рэчы робяцца багамі
цела робіцца богам

Гэты бог бязлітасны і сляпы
свайго верніка
ён глытае пераўтраўляе
і выдаляе

***

Новы чалавек
гэта вунь той там
так гэта вунь тая
каналізацыйная труба
прапускае праз сябе
ўсё

## Карэктура

Смерць не выправіць
у страфе аніводнага радка
гэта ж не карэктарка
гэта ж не добразычлівая пані
рэдактарка

благая метафара
будзе жыць вечна

благі паэт пасля смерці
робіцца памерлым благім паэтам

зануда і пасля смерці мэнчыць
дурань з-пад вечка труны
па-ранейшаму вярзе лухту

## Цяпер

раней
я быў напагатове
ў кожную хвіліну
мяне магла апанаваць паэзія
я бег да страты прытомнасці
за вобразам
што ледзь варухнуўся

цяпер
дазваляю вершам
уцякаць ад мяне
марнець забывацца
заміраць

ані руху
да рэалізацыі

сакавік 1989

Пераклад з польскай мовы
Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА





Калі ўглядаешся ў партрэт пісьменніка, чые творы прынесілі табе хвіліны шчасця і замілавання, то за навечна ўвасобленымі рысамі твару хочацца разгледзець душу творцы, прасякнуцца яго надзеямі і спадзяваннямі. Ян Баршчэўскі, як ніхто іншы да яго, здолеў у сваіх творах паказаць характары простых беларусаў, пазнаёміў адукаваных чытачоў з этнаграфічнай спадчынай роднага краю і заклікаў любіць і шанаваць родную Плачку-Беларусь, таму кожная яго выява цікавая як для даследчыкаў і навукоўцаў, так і для чытачоў. Захаваліся звесткі аб чатырох партрэтах пісьменніка.

# Чатыры партрэты Яна Баршчэўскага

Баршчэўскі, які большую частку свайго творчага жыцця пражыў у паўночнай сталіцы, кожны год падарожнічаў па роднай Беларусі. Гэтыя вандроўкі наталялі яго гукамі пяшчотнай роднай мовы, падсілкоўвалі легендамі, казкамі і паданнямі, давалі сілы для ажыццяўлення творчых задум…

Восенню 1842 года пісьменнік вяртаецца ў Санкт-Пецярбург з чарговага падарожжа па родных мясцінах. Ён увесь у мроях і спадзяваннях. Добрыя адносіны з Рамуальдам Падбярэскім спрыялі таму, што выдавец "Rocznika Literackiego" ў першы том свайго альманаха ўключае артыкул Яна Баршчэўскага "Нарыс Паўночнай Беларусі" і дае яго партрэт. Гэты партрэт, які носіць назву "Ян Баршчэўскі над берагам Нявы ў Пецярбургу", намаляваў сябра Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі па Акадэміі мастацтваў, выхадзец з Беласточчыны Рудольф Жукоўскі, які прымаў удзел у мастацкім афармленні "Rocznika Literackiego" і добра ведаў пісьменніка.

Баршчэўскі, абапіраючыся на парапет, у поўны рост стаіць на ўзбярэжжы Нявы. Модны картуз, фрак з доўгімі фалдамі, вузкія панталоны, доўгія хвалістыя валасы надаюць пісьменніку рамантычнае аблічча. За яго спінай сілуэты двух парусных шхун, "Медный всадник" і фасад будуемага Ісакія, урачыстае адкрыццё якога адбылося 30 мая (па ст.ст.) 1858 года, праз 7 год пасля смерці Баршчэўскага…

У лісце да Юлі Корсак ад 20 снежня 1842 года пісьменнік піша: "Паведамляю, што "Rocznik Literacki" пана Падбярэскага ўжо хутка выйдзе з друку. Прыгожае выданне: выдатныя віньеткі, восем літаграфаваных малюнкаў, тры партрэты. Першы — пані Штырмер; каля партрэта ў кругах намаляваны сцэны з яе аповесці "Фрэнафагіюш". Другі — пана Анацэвіча; ён колісь быў прафесарам у Віленскім універсітэце і выдаў у двух томіках польскую гісторыю. Да артыкула пра Беларусь далучаецца мой партрэт. Пан Жукоўскі намаляваў мяне ў нейкім рамантычным стылі. Я стаю ля ракі Нява, у капелюшы, засяроджаны ў думках, абапёршыся на прыбярэжны граніт; перада мною ўзносяцца вежы сталіцы. Пэўна, гэты сюжэт ён запазычыў з майго апісання Беларусі, дзе я згадваю, што мае думкі часта адлятаюць ад берагоў Нявы да роднае зямлі, дзе столькі мілых успамінаў. А партрэт пані Штырмер непадобны, Анацэвіча — мала, а мой — занадта прыхарошаны і таксама мала падобны, бо ўсіх ён маляваў па памяці".

Самы вядомы літаграфаваны партрэт Яна Баршчэўскага, выкананы братам Рудольфа мастаком Каралем Жукоўскім, быў надрукаваны ў 1844 годзе ў другім томе "Rocznika Literackiego". Гэта быў час, калі пісьменнік мог трапіць у бяду, бо арыштаваны ў Варшаве былы рэдактар альманаха "Niezabudka" Вінцэнт Давід на следстве занадта шчыра распавядаў аб патрыятычных настроях у асяроддзі палякаў і беларусаў Санкт-Пецярбурга. Баршчэўскі не быў арыштаваны толькі дзякуючы нейкай шчаслівай акалічнасці. Можа быць, пазбегнуць непрыемнасцяў ён змог толькі таму, што летам 1843 зноў паехаў у Беларусь, каб распаўсюджваць чацвёрты і збіраць падпіску на пяты том "Niezabudki".

Караль Жукоўскі пастараўся адлюстраваць у сваім творы багаты ўнутраны свет пісьменніка ў росквіце яго таленту. Баршчэўскаму на момант напісання партрэта каля 45





год. Левае бакавое асвятленне і паварот тулава дапамаглі рэльефна "вылепіць" рысы твару. Тонкі са шляхетнай гарбінкай нос, вялікія выразныя вочы, хвалістыя валасы гавораць аб багатай творчай натуры, а горкая складка ля вуснаў і запалыя шчокі нагадваюць аб выпрабаваннях, якія выпалі на долю пісьменніка. Вялікі эфектны гальштук і двухбортны сурдут дапаўняюць артыстычнае аблічча.

Два гэтыя партрэты потым прыводзіў Рамуальд Зямкевіч у сваім нарысе "Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX стагоддзя", які быў надрукаваны ў "Нашай Ніве" за 1911 год.

Ішоў час. Выйшлі ў свет тры томікі "Шляхціца Завальні", але з наступным томам атрымалася затрымка, бо Ян Эйнерлінг перадаў справу выдання самому аўтару, таму чацвёрты том выйшаў толькі пасля 22 сакавіка 1846 года не ў друкарні К.Края, як папярэднія тамы, а ў Эдварда Праца. Рамуальд Падбярэскі, які з-за многіх акалічнасцей адмовіўся выдаваць "Шляхціца Завальню", тым не менш не адмовіўся ад супрацоўніцтва з ім, і 8 верасня 1844 года ён завяршае вялікі артыкул "Беларусь і Ян Баршчэўскі" — першы нарыс беларускай літаратуры новага часу, які не страціў актуальнасці да нашага часу. Там ён піша: "Тое, што піша п. Баршчэўскі прозай, не датычыць прама ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але рэчы больш важнай, а менавіта — духу і паэзіі народа, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ухапіўся ён за самую жыццёвую аснову і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз. Ён мае перад сабой народ, часта з усёй прывабнасцю фантазій з язычніцкіх часоў, якія ён апраменьвае сваім, так сказаць, беларускім гафманізмам".

Да гэтага часу адносіцца трэці, вельмі цікавы партрэт Яна Баршчэўскага, напісаны Каралем Рыпінскім, які захоўваецца ў Мастацкім музеі Літвы ў Вільнюсе. Стылю гэтага мастака была характэрна вялікая дакладнасць, ён ніколі не ідэалізаваў сваіх персанажаў, таму яго партрэт пісьменніка можна лічыць самым аб'ектыўным, амаль фатаграфічным. Мы бачым Баршчэўскага ў больш сталым узросце, валасы на скронях падстрыжаны і падкручаны, аблічча дапаўняюць вусы. На нас пільна глядзяць вочы стомленага жыццём чалавека…

Восенню 1846 года, закончыўшы выдаваць "Шляхціца Завальню", Ян Баршчэўскі назаўсёды пакідае Санкт-Пецярбург, які так і не стаў для яго родным горадам. Аб прычынах пераезду Ю. Барташэвіч піша: "Апрача Беларусі, Баршчэўскі зусім не ведаў іншых ваяводстваў даўнейшае Рэчы Паспалітае. Настаўніцкая праца яму ўрэшце надакучыла, і ён захацеў на старасці адпачыць. Літаратар з шырока ўжо вядомым імем, ён марыў пабачыць іншыя куткі роднае зямлі. Выказаў гэтае жаданне пані графіні Юліі Ржавускай, якая як раз выпраўлялася з Пецярбурга ў свае маёнткі на Валыні. Баршчэўскі быў ужо колькі гадоў у доме графіні амаль сваім чалавекам. Пані графіня вельмі ўзрадавалася і запрасіла яго з сабой у Цуднаў". У Цуднаве, 11 сакавіка 1851 года, на руках у Кёлера і сканаў вялікі беларускі пісьменнік Ян Баршчэўскі.

Да апошніх гадоў яго жыцця адносіцца паясны партрэт Баршчэўскага з гусіным пяром у руцэ, які быў апублікаваны ў 1912 годзе ў кнізе "З аколіц Дзвіны", што выйшла ў Віцебску. Хутчэй за ўсё, ён належаў мясцоваму калекцыянеру В.Федаровічу. Цяпер лёс партрэта невядомы…

Чатыры партрэты, чатыры аблічча, чатыры ўзросту… У іх усё творчае жыццё пісьменніка Яна Баршчэўскага, які так любіў родную Беларусь і ніколі не адракаўся ад свайго народа.

Аляксандр ВАШЧАНКА

## У наступным нумары

Дыскусіі па значэнні і недахопах беларускай крытыкі амаль перыядычна з'яўляюцца на старонках "ЛіМа". Але здараецца, што такія дыскусіі губляюць літаратуразнаўчую сутнасць і ператвараюцца ў амаль побытавае перакідванне асабістымі абвінавачваннямі. Праблема злоўжывання аргументацыяй ad hominem — тэма артыкулаў Сяргея Грышкевіча і Алесі Лапіцкай. Маналог Сяргея Грышкевіча поўны абурэння на калег-крыўдзіцеляў, а Алеся Лапіцкая імкнецца вызначыць падставы гэтай крыўды, згадваючы і іншыя вострапалемічныя артыкулы апошняга часу.

З глыбінкі

## Камарова збірае майстроў

Вёска Камарова добра вядома не толькі на Мядзельшчыне. І не толькі сваім цікавым гістарычным мінулым, але і творчай сучаснасцю. У невялікай вёсцы збіраюцца майстры з усёй Беларусі. Тут праходзіць рэспубліканская выстава-кірмаш народных рамёстваў і промыслаў "Камарова — кола дзён". Нядаўна адбылася пятая па ліку.

Гэтым разам сюды прыехала больш як 130 майстроў з розных куткоў краіны: і з адносна блізкіх Паставаў, Глыбокага, Валожына, Маладзечна, і з далёкіх Магілёва, Бабруйска...

Якія могуць быць пытанні. Спадабалася тым, што тут утульна, пекна, людзі харошыя. Яны цікавяцца гэтай прыгажосцю. Ну як жа не прыехаць?! Якіх толькі вырабаў не было ў Камарове: вабілі позірк арыгінальная кераміка, вытанчаная разьба па дрэве, залацістая саломка, гнуткая лаза... Дзівіліся на гэта хараство і расіяне, якія адпачываюць у нарачанскіх здраўніцах. Яны не толькі актыўна набывалі сувеніры, але і вучыліся, як ствараць вырабы з гліны ў майстра Сяргея Шчэрбы. Многія затрымліваліся ля дзівосных карцін Юрыя Адамовіча з Мінска: спалучэнне металу і дрэва нарадзіла цудоўныя, адметныя рэчы.

Тыя, хто пабываў на свяце, проста не маглі паехаць адтуль з пустымі рукамі.

— А можа, і добра, што няшмат грошай з сабой браў, — разважаў адзін з гасцей. — А то хацелася купіць многае: усе б грошы растрацію на такую прыгажосць.

Сёлета ў Камарова прыехалі не толькі народныя майстры. Выставілі сваю прадукцыю фабрыкі мастацкіх вырабаў з розных куткоў краіны.

Асаблівасцю свята было і тое, што апроч народных рамёстваў, акцэнт рабіўся яшчэ і на турызм. Так, з турыстычным патэнцыялам Міншчыны знаёмілі прадстаўнікі абласнога ўпраўлення па фізкультуры, спорце і турызме.

Адно шкада, што падвяло надвор'е. Дождж падпсаваў настрой майстрам і гасцям, скарэкціраваў планы арганізатараў. Але перачакаўшы дождж, кірмаш працягнуўся.

Аляксандр ВЫСОЦКІ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый. Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009. г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 2904
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.07.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 3364

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6816